● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

16 мая 1996 г. чацвер, №№ 119—120 (22922 — 22923)



# ЗВЯЗДА

## Да ўдзельнікаў V Асамблеі Асацыяцыі камерцыйных банкаў Рэспублікі Беларусь

Банкаўская сістэма рэспублікі, з'яўляючыся неад'емнай часткай эканомікі дзяржавы, павінна выказваць яе інтарэсы і працаваць на карысць усяго беларускага народа.

Не могуць у банкаўскай сістэме пераважаць толькі групавыя інтарэсы асобных камерцыйных структур і прыватных асоб. Нічога не атрымлівае ні дзяржава, ні народ, калі банкаўскі сектар у сваіх пераўтварэннях заходзіць вельмі далёка, фінансуючы ў большай ступені камерцыйныя і гандлёвыя аперацыі, забываючы пры гэтым аб заўтрашнім дні, аб інвестыцыях. Курс нацыянальнай валюты павінен знаходзіцца пад кантролем дзяржавы, а не хаатычна складвацца пад спекуляцыйным уздзеяннем попыту і прапанавання на біржы.

У гэтых умовах неабходныя і непазбежныя змяненні ў функцыянаванні і кіраванні банкаўскай сістэмай рэспублікі.

Дзейнасць Нацыянальнага банка і камерцыйных банкаў павінны быць пад разумным цывілізаваным кантролем дзяржавы, што адпавядаў бы тым умовам, у якіх знаходзіцца наша рэспубліка цяпер.

Нацыянальным банкам і ўрадам будзе прадоўжана работа над банкаўскім заканадаўствам, накіраваная на далейшае развіццё нацыянальнай банкаўскай сістэмы, будзе вызначаны парадак допуску замежных банкаў на тэрыторыю нашай дзяржавы, будуць прыняты меры па недапушчэнню незаконнага вывазу капіталу за граніцу. Неабходна пакласці канец бескантрольнай дзейнасці фінансавых, траставых і іншых кампаній, што працуюць на пазабанкаўскім фінансавым рынку.

Дзяржава і грамадзяне нашай рэспублікі чакаюць ад банкаў павышэння іх ролі ў эканамічным умацаванні рэспублікі.

Жадаю ўдзельнікам V Асамблеі Асацыяцыі камерцыйных банкаў Рэспублікі Беларусь паспяховай работы.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. Р. ЛУКАШЭНКА.**

## ЗАЯВА Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### «АБ ПАДЗЕЯХ 26 КРАСАВІКА 1996 ГОДА Ў Г. МІНСКУ»

У трагічны для Беларусі дзень 10-годдзя чарнобыльскай катастрофы на вуліцах сталіцы рэспублікі адбыліся сутыкненні прыхільнікаў шэрага нацыяналістычных сіл з органамі аховы грамадскага парадку.

Дзень, закліканы стаць днём яднання і кансалідацыі народа, стаў днём канфрантацыі і жорсткасці.

У рэспубліцы ўзмацняецца палярызацыя грамадска-палітычных сіл, што вядзе да расколу грамадства і страты дзяржаўнасці.

Палітычныя гульні вакол падзей 26 красавіка працягваюцца.

У гэтай сувязі Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь заяўляе, што насілле не павінна быць сродкам палітычнай барацьбы, якімі б высакароднымі мэтамі яно ні апраўдвалася і з чыйго б боку ні прымянялася.

Вярхоўны Савет асуджае ўдзел у падзеях 26 красавіка экстрэмістаў з УНА-УНСО.

Мы выступаем за мірныя формы вырашэння канфліктаў. У Рэспубліцы Беларусь, як дэмакратычнай дзяржаве, грамадска-палітычныя праблемы павінны вырашацца не ў вулічным процістаянні, а ў цывілізаваным публічным дыялогу ўлады, партый і рухаў у сродках масавай інфармацыі і Вярхоўным Савеце.



ДОЎГІ СОН БЕЛАРУСА? Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## У МАСКВЕ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ ЧАКАЕ НАПРУЖАНАЯ РАБОТА

16-17 мая Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка правядзе ў Маскве. Там яго чакае напружаная работа як старшыню Міждзяржаўнага савета чатырох краін — Беларусі, Казахстана, Кіргізіі і Расіі і як удзельніка пасяджэння Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД.

Перад тым як пачаць разгляд інтэграцыйных працэсаў у рамках чатырох дзяржаў, Аляксандр Лукашэнка мае намер 16 мая сустрэцца з кіраўнікамі асноўных тэлерадыёкампаній Расіі і міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі «Мір». Затым адбудуцца яго сустрэчы з вядомым кінаакцёрам і рэжысёрам Яўгенам Мацвеевым і з мастацкім кіраўніком МХАТа імя Горкага Таццянай Даронінай.

17 мая пройдзе пасяджэнне Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД. Сярод пытанняў, якія намечана разгледзець на ім, важнае месца зоймуць перспектыўны план інтэграцыйнага развіцця Садружнасці ў 1996-1997 гадах, а таксама міждзяржаўная праграма сумесных мераў барацьбы з арганізаванай злачыннасцю і іншымі відамі небяспечных злачынстваў на тэрыторыі дзяржаў СНД на перыяд да 2000 года.

Чакаецца, што па ініцыятыве Рэспублікі Казахстан, Кыргызскай Рэспублікі і Рэспублікі Узбекістан будзе прынята заява аб падтрымцы дэмакратычных працэсаў у Расіі. На пасяджэнні будуць таксама прадстаўлены пратакол да Канвенцыі аб прававой дапамозе і прававых адносінах па грамадзянскіх, сямейных і крымінальных справах, рашэнне аб пагадненні па пытаннях, звязаных з аднаўленнем правоў дэпартаваных асоб, нацыянальных меншасцей і народаў, Пагадненне аб узаемадзеянні пагранічных войскаў дзяржаў — удзельніц СНД пры ўзнікненні крызісных сітуацый на знешніх граніцах.

У праект парадку дня ўнесены і іншыя пытанні, у тым ліку звязаныя з падрыхтоўкай і правядзеннем мерапрыемстваў у сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння Маршала Савецкага саюза Г. К. Жукава і парадкам узнагароджання юбілейным медалём «300 гадоў Расійскаму флоту» грамадзян дзяржаў — удзельніц СНД.

Плануюцца таксама сустрэчы Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі з некаторымі кіраўнікамі краін Садружнасці.

**Валянціна МЕНШЫКАВА,**
**БЕЛТА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 173

### Аб зацвярджэнні прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь у Выканаўчым камітэце Супольніцтва Беларусі і Расіі

У адпаведнасці з артыкулам 11 Дагавора аб утварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі, падпісанага ў г. Маскве 2 красавіка 1996 г., **пастанаўляю:**

1. Зацвердзіць прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь у Выканаўчым камітэце Супольніцтва Беларусі і Расіі ў наступным саставе:

**Лінг** Сяргей Сцяпанавіч — намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь

**Бамбіза** Іван Міхайлавіч — міністр па справах Садружнасці Незалежных Дзяржаў

**Дзік** Павел Уладзіміравіч — міністр фінансаў

**Козік** Леанід Пятровіч — паўнамоцны прадстаўнік Рэспублікі Беларусь у Калегіі Міждзяржаўнага эканамічнага камітэта Эканамічнага саюза

**Рыкава** Людміла Міхайлаўна — намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка

**Цапкала** Валерый Вільямавіч — першы намеснік міністра замежных спраў

**Чумакоў** Аляксандр Пятровіч — начальнік Галоўнага штаба Узброеных Сіл — першы намеснік міністра абароны

2. Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, намесніку старшыні Выканаўчага камітэта Супольніцтва Беларусі і Расіі Мясніковічу М. У. ажыццявіць падбор кадраў у апарат Выканаўчага камітэта ў адпаведнасці з устаноўленай для Рэспублікі Беларусь квотай.

3. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь забяспечыць рэалізацыю адпаведных палажэнняў Дагавора аб утварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі і выкананне рашэнняў органаў названага Супольніцтва.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

14 мая 1996 г., г. Мінск

## *«ПРАМАЯ ЛІНІЯ»*

**Газета «Звязда» 24 мая з 12 да 13 гадзін праводзіць «прамую лінію» з міністрам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь Васілём Іванавічам СТРАЖАВЫМ.**

У дзень «прамой лініі», паважаныя чытачы, мы чакаем вашых званкоў па тэлефонах: ***32-38-21 і 32-38-92.*** Папярэдне задавайце пытанні па тэлефоне ***68-28-72.*** Чакаем і вашых пісьмаў з пытаннямі.

Упэўнены, што на ўсе вашы пытанні, якія датычацца сферы адукацыі, будуць дадзены самыя кампетэнтныя адказы.

***Тры пісьмы на адну тэму***

## НЕ ПРАШУ МІЛАСЦІНЫ, А ДАПАМАЖЫЦЕ АТРЫМАЦЬ ПЕНСІЮ

Выпісваю, чытаю і люблю вашу газету вельмі даўно. Але, на жаль, прыйдзецца з ёй развітацца. Чаму? На працягу двух месяцаў я не атрымала пенсію, і няма за што купіць нават хлеба, а не толькі выпісаць газету. Парайце, як быць.

Я не прашу міласціны, а дапамажыце, калі зможаце, каб хоць за адзін месяц выдалі пенсію. Тады змагу выпісаць газету, заплаціць за святло і газ, а таксама купіць бохан хлеба, батон і селядзец, якога вельмі хочацца іншы раз з'есці.

**Марыя МІХАЙЛОЎСКАЯ.**
*в. Такаўшчына, Лагойскі раён.*

## НАВАТ ГАЗЕТУ НЯМА ЗА ШТО ВЫПІСАЦЬ...

Ніколі не пісалі ў газету, але не вытрымалі такой крыўды. Мы з мужам выпісваем газету «Звязда», часопіс «Хозяин», слухаем яшчэ радыё, глядзім тэлевізар і знаёмы з указамі Прэзідэнта аб выплаце пенсій пенсіянерам.

Але ў нашым раёне ў апошнія месяцы 1995 г. і 4 месяцы сёлетняга перанеслі выплату пенсій па графіку на 2 дні пазней: з 1 на 3, з 2 на 4, з 3 на 5 і г. д. А на самай справе выплачваюць апошнім за красавік у маі. У магазін прывозяць тавары, але мы не можам іх набыць — няма грошай. Затое з сельскіх магазінаў загадана везці грошы ў Вілейку і здаваць у банк. Потым іх з Вілейкі не даюць на выплату пенсій. Чаму ж мясцовыя ўлады раёна ігнаруюць указ Прэзідэнта аб своечасовай выплаце пенсій насельніцтву, асабліва састарэлым, якім больш за 70 гадоў? Яны ж жывуць толькі на пенсіі, бо кароў і свіней не трымаюць па стану здароўя. У нас няма грошай, каб газету выпісаць. Просім як-небудзь пасадзейнічаць нам.

**Напісалі пенсіянеры з в. Сліпкі**
**Рабунскага сельсавета**
**Вілейскага раёна.**

***P. S.*** *Просім наша прозвішча не ўказваць, баімся, каб не пачалося ганенне.*

## ЯК МЯНЕ АБЛІЧЫЛІ... БЕЗ ЛІЧЫЛЬНІКА

Піша вам удзельнік вайны, інвалід II групы. У нашу вёску неяк з гаргаза прыехала жанчына і хадзіла па хатах, была і ў мяне. Спыталася: «Ці будзеце вы ставіць лічыльнік на кацёл?» Я адмовіўся, бо ў мяне няма грошай, а лічыльнік каштуе больш за мільён. Тады яна прапанавала распісацца, што, маўляў, я ў вас была, а то дырэктар не паверыць. Мая жонка і распісалася.

А калі я прыехаў у гаргаз даведацца, колькі мне плаціць за газ у летні перыяд, тая ж работніца паказвае мне дагавор за подпісам жонкі і кажа, калі вы не хочаце плаціць за лічыльнік, то будзеце плаціць не за квадратныя метры, а па аб'ёму катла. І такім чынам яна падманула на нашай вуліцы не толькі мяне. Я падаў разліковую кніжку, і яна мне ўпісала нейкую даплату за сакавік і красавік, якая склала 307.650 рублёў. Акрамя таго, кожны месяц мне трэба плаціць па 244.000 рублёў, хоць плаціў за газ заўсёды своечасова па 90.150 рублёў. Гэта са скідкай 50 працэнтаў. А яшчэ газету «Звязда» трэба выпісаць, а ў мяне нічога не застаецца, калі я атрымліваю 600 тысяч рублёў пенсіі. Хадзіў да дырэктара, але нічога не дабіўся. Як і іншыя, хто прыходзіць да яго з такімі ж скаргамі.

Вось я і хачу ведаць, што гэта за даплата за сакавік і красавік і наогул, ці правільна гаргаз бярэ з мяне за газ?

**Яўген Антонавіч БРЫЛЕЎСКІ.**
*в. Яроміна, Гомельскі раён.*

## АД АДДЗЕЛА ПІСЬМАЎ

***Усе гэтыя тры пісьмы з рэдакцыйнай пошты аднаго дня. Каментарый тут, як кажуць, не патрэбны. Аўтары іх выказваюць свой боль, справядлівую крыўду на тое, што пенсіі ім своечасова не выплачваюцца, выдача іх неабгрунтавана пераносіцца. Мала таго, састарэлых людзей рознымі шляхамі яшчэ ашукваюць. У выніку пенсіянеры не маюць грошай, каб купіць бохан хлеба, не могуць нават выпісаць газету ці часопіс і тым самым пазбаўляюцца хлеба духоўнага.***

***Няўжо так будзе працягвацца і далей? Што, указ Прэзідэнта мясцовым кіраўнікам — не ўказ?***

## ДА ЎВАГІ ПАДПІСЧЫКАЎ, ЧЫТАЧОЎ, РАБОТНІКАЎ ПОШТЫ!

**У сувязі з запытамі нашых падпісчыкаў паведамляем, што згодна з дасягнутай дамоўленасцю паміж рэдакцыяй газеты «Звязда» і рэспубліканскім дзяржаўным аб'яднаннем «Белпошта» ўсе паштовыя аддзяленні рэспублікі прымаюць падпіску на нашу газету як на месяц, трэці квартал, так і ў цэлым на другое паўгоддзе.**

**Гэта рашэнне кіраўніцтва «Белпошты» давяло да адказных выканаўцаў на месцах. У выпадку, калі ў вас узнікнуць пытанні пры правядзенні падпіскі, раім пазваніць у Мінск у рэдакцыю «Звязды» па тэл. 68-28-77 ці ў аб'яднанне «Белпошта» па тэл. 27-55-38.** ***Нагадваем, што падпісны кошт «Звязды» на паўгоддзе для індывідуальных падпісчыкаў складае 81.600 рублёў, на квартал — 40.800, на месяц — 13.600. Кошт ведамаснай падпіскі на паўгода — 90 тысяч, на квартал — 45 тысяч, на месяц — 15 тысяч рублёў.***

## ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб намесніку Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе**:

Даць згоду Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь на вызваленне **Мясніковіча** Міхаіла Уладзіміравіча ад пасады намесніка Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь у сувязі з назначэннем яго Кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

4 мая 1996 г., г.Мінск. № 250-XIII

## ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб намесніку Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе**:

Даць згоду Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь на назначэнне **Сініцына** Леаніда Георгіевіча на пасаду намесніка Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

4 мая 1996 г., г.Мінск. № 251-XIII

## ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб намесніку Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе**:

Даць згоду Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь на назначэнне **Далгалёва** Васіля Барысавіча на пасаду намесніка Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

4 мая 1996 г., г.Мінск. № 252-XIII

## ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб Старшыні Праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе**:

Выбраць Старшынёй Праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь **Віннікаву** Тамару Дзмітрыеўну.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

4 мая 1996 г., г. Мінск. № 249-XIII

## ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб члене Праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе**:

Выбраць членам Праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь **Корбута** Мікалая Пятровіча.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

4 мая 1996 г., г. Мінск. № 253-XIII

## ПАСТАНОВА ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб узнагароджанні ўдзельнікаў ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе**:

За мужнасць і вялікі асабісты ўклад у пераадоленне згубных вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі ўзнагародзіць Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:

**Асмалоўскага** Святаслава Аляксандравіча — намесніка начальніка па выхаваўчай рабоце Магілёўскай школы міліцыі МУС Рэспублікі Беларусь.

**Багданава** Аляксандра Цярэнцьевіча — міліцыянера-вадзіцеля аддзела ўнутраных спраў Кастрычніцкага райвыканкома г.Віцебска.

**Грыгаровіча** Леаніда Вітальевіча — начальніка аддзела ўнутраных спраў Хойніцкага райвыканкома.

**Гукава** Анатолія Кузьміча — дырэктара малога дзяржаўнага прадпрыемства «Хойнікірамбуд» Гомельскага абласнога праектна-рамонтна-будаўнічага аб'яднання.

**Дубаўца** Уладзіміра Ніканоравіча — машыніста бурыльна-кранавай машыны будаўніча-мантажнага ўпраўлення №3 аб'яднання «Белсельэлектрасеткабуд».

**Ермаковіча** Аляксандра Іванавіча — старшага выкладчыка кафедры аховы грамадзянскага парадку Акадэміі МУС Рэспублікі Беларусь.

**Камянкова** Уладзіміра Пятровіча — старшыню Беларускай рэспубліканскай асацыяцыі «Інваліды Чарнобыля».

**Кузькіна** Уладзіміра Ільіча — начальніка штаба — намесніка начальніка грамадзянскай абароны Мінскай вобласці.

**Масейчука** Уладзіслава Віктаравіча — начальніка змены электрычнага цэха Гомельскай цеплаэлектрацэнтралі-2.

**Панфіленку** Уладзіміра Іванавіча — намесніка начальніка аддзела крымінальнага вышуку УУС Брэсцкага аблвыканкома.

**Папова** Валерыя Іванавіча — начальніка Мінскага абласнога ўпраўлення аб'яднання «Ахова» пры МУС Рэспублікі Беларусь.

**Пашкелевіча** Станіслава Станіслававіча — намесніка старшыні Беларускай рэспубліканскай асацыяцыі «Інваліды Чарнобыля».

**Пекарскага** Уладзіміра Іванавіча — начальніка Гродзенскага абласнога аддзела аб'яднання «Ахова» пры МУС Рэспублікі Беларусь.

**Перакрэста** Уладзіміра Аляксандравіча — старшага выкладчыка Вучэбнага цэнтра МУС Рэспублікі Беларусь.

**Плешака** Франца Васільевіча - старшага інструктара інжынернага ўзвода загароды і разгароды батальёна забеспячэння навучальнага працэсу 320 ваеннай школы малодшых спецыялістаў.

**Сіліча** Пятра Сяргеевіча — генеральнага дырэктара вытворчага аб'яднання энергетыкі і электрыфікацыі «Гомельэнерга».

**Смалонскага** Аляксандра Леанідавіча — намесніка старшыні Беларускай рэспубліканскай асацыяцыі «Інваліды Чарнобыля».

**Сотнікава** Мікалая Рыгоравіча — дырэктара Гомельскага вучэбнага камбіната вытворчага ўпраўлення жыллёва-камунальнай гаспадаркі Гомельскага аблвыканкома.

**Сцяшко** Мікалая Аркадзьевіча — былога машыніста аўтакрана трэста «Белэнергабуд».

**Французава** Аляксандра Мікалаевіча — намесніка камандзіра атрада міліцыі асобага прызначэння УУС Мінскага гарвыканкома.

**Цялушкіна** Мікалая Іванавіча — старшыну падраздзялення забеспячэння Гомельскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце.

**Шандроху** Аляксея Сяргеевіча — інжынера па грамадзянскай абароне і спецрабоце вытворчага ўпраўлення жыллёва-камунальнай гаспадаркі Гомельскага аблвыканкома.

**Шылава** Васілія Пятровіча — начальніка Быхаўскага раённага аддзела ўнутраных спраў.

**Шэндзера** Аляксандра Аркадзьевіча — слесара Гомельскай цеплаэлектрацэнтралі-2.

**Эцюева** Генадзія Васільевіча — старшага інспектара-лётчыка Аддзела баявой падрыхтоўкі (армейскай авіяцыі) Ваенна-Паветраных Сіл Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

6 мая 1996 г., г. Мінск. №269—XIII.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**№ 171**

**Аб унясенні змяненняў ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 27 лістапада 1995 г. № 483**

У мэтах забеспячэння дадатковых гарантый своечасовай выплаты заработнай платы **пастанаўляю**:

1. Абзац трэці пункта 1 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 27 лістапада 1995 г. № 483 «Аб забеспячэнні своечасовай выплаты заработнай платы» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г,. № 34, арт. 821) выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«з наймальнікаў, якія маюць запазычанасць па выплаце заработнай платы, у бясспрэчным парадку ўтрымліваецца сума ў памеры пражытачнага мінімуму на кожнага работніка з улікам каэфіцыентаў павышэння тарыфных ставак рабочых па тэхналагічных відах работ, вытворчасцях і галінах эканомікі зыходзячы з сярэдняспісачнай колькасці работнікаў, а таксама ў памеры аплаты штогадовых водпускаў, выплаты выхадных дапамог і страхавых узносаў на гэтыя сумы ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны. Утрыманыя сродкі накіроўваюцца толькі на выплату заработнай платы, выхадных дапамог і аплату штогадовых водпускаў работнікаў адпаведнага наймальніка і ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны. Утрыманне і накіраванне сродкаў на ўказаныя мэты праводзіцца банкам, што абслугоўвае наймальніка, у парадку, устаноўленым Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь».

2. Прапанаваць Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусь у тыднёвы тэрмін прывесці свае нарматыўныя акты ў адпаведнасць з гэтым Указам.

3. Гэты Указ уводзіцца ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

13 мая 1996 г. г. Мінск.

## ОРГАНЫ ПАРЛАМЕНЦКАГА КАНТРОЛЮ БУДУЦЬ СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ

Падпісаннем Дагавора аб супрацоўніцтве з Кантрольнай палатай Рэспублікі Беларусь завяршыўся 14 мая двухдзённы візіт у нашу краіну афіцыйнай дэлегацыі Лічыльнай палаты Расійскай Федэрацыі на чале з яе старшынёй Хачымам Кармаковым.

У мэтах садзейнічання паглыбленню інтэграцыйных працэсаў у сферы фінансава-эканамічных адносінаў паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй у рамках падпісанага Дагавора аб Супольніцтве беларускі і расійскі органы парламенцкага кантролю дамовіліся ўзаемадзейнічаць у сферах ажыццяўлення сумесных кантрольных дзеянняў, абмену вопытам работы, абучэння і павышэння кваліфікацыі кадраў, інфармацыйнага абмену. Дагавор будзе дзейнічаць на працягу пяці гадоў і аўтаматычна падаўжацца, калі ні адзін з бакоў не ўздыме пытання аб яго спыненні.

Ход яго рэалізацыі штогод будзе разглядацца на каардынацыйных нарадах.

Падчас знаходжання ў Мінску госці з Масквы мелі гутаркі са Старшынёй Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім і прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром, рабочыя сустрэчы з кіраўнікамі і супрацоўнікамі Кантрольнай палаты, наведалі Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь.

Кантрольная і Лічыльная палаты выступілі з ініцыятывай правядзення ў чэрвені бягучага года ў Мінску сустрэчы кіраўнікоў вышэйшых кантрольных органаў краін СНД.

**Прэс-служба Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь.**

## У ВІЦЕБСКУ ВЫМАГАЛЬНІКІ СПРАБАВАЛІ АТРЫМАЦЬ 25 ТЫСЯЧ ДОЛАРАЎ АДКУПНЫХ. НЕ АТРЫМАЛАСЯ...

Што вымагальнікаў апошнім часам на прасторах неабсяжнага былога Саюза з'явілася столькі, што хоць гаць гаці, усім добра вядома, хаця б па публікацыях у прэсе. Многім з іх паспяхова ўдаецца працаваць на «кулачнай ніве», выконваючы ролю «крышы», іншыя, не абцяжарваючы сябе тлумачэннямі, проста «наязджаюць» на бізнесменаў, патрабуючы адкупныя за спакой. Праўда, не заўсёды вымагальнікі і ахвяра знаходзяць агульную мову. Аб гэтым, дарэчы, сведчыць і апошні выпадак, які адбыўся ў Віцебску.

Наўрад ці адрозніваліся арыгінальнасцю метады «адчужэння грашовых сродкаў», да якіх звярнулася група вымагальнікаў з трох чалавек (двое з якіх былі з Масквы), калі вырашыла «пашчыпаць» на 25 тысяч амерыканскіх долараў дырэктара фірмы «Люкс», старшыню рэспубліканскай асацыяцыі цырульнікаў.

Як бы там ні было, аднак аперацыя правалілася. Затое ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю па Віцебску і Віцебскай вобласці і ўпраўленне КДБ па Віцебску і Віцебскай вобласці сваю аперацыю правялі паспяхова. Злачынцы ў момант перадачы валюты на праспекце Фрунзе затрыманы на месцы здарэння. Што ім цяпер «свеціць», вызначыць следства.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## «ПУЛЬС» АТАМНАЙ СТАНЦЫІ ПРАСЛУХОЎВАЕЦЦА

У 1992 годзе пасля таго як суседняя Літва стала незалежнай дзяржавай і Ігналінская атамная станцыя апынулася таксама за мяжой, на Браслаўшчыне сталі задумвацца над тым, што цяпер практычна не маюць інфармацыі аб сітуацыі на гэтай станцыі і вакол яе. Тады па ініцыятыве мясцовай улады і быў створаны пост дазіметрычнага кантролю — службы ў сваіх магчымасцях абмежаванай, тэхнічна малазабяспечанай. А ў 1995 годзе ўказам Прэзідэнта ў Браславе ўжо створана служба радыяцыйнага кантролю і маніторынгу за ўздзеяннем Ігналінскай атамнай станцыі на навакольнае асяроддзе. Мерапрыемства гэта вельмі актуальнае і патрэбнае, бо вельмі значная частка тэрыторыі раёна трапляе ў трыццацікіламетровую зону вакол станцыі, на якой сёння праблем хапае.

Пашанцавала браслаўчанам яшчэ ў тым, што на гэты рэгіён звярнулі ўвагу ў Еўрасаюзе. Тут распрацавана доўгатэрміновая праграма «Тафіс», якая прадугледжвае тэхнічную дапамогу краінам СНД у вырашэнні праблем атамнай энергетыкі. Сёння ў раёне дзейнічае змантыраваная з дапамогай германскай фірмы сістэма аўтаматычнага кантролю вакол атамнай станцыі. З 9 пунктаў у трыццацікіламетровай зоне праз кожныя дзесяць хвілін на камп'ютэр перадаюцца звесткі аб узроўні гама-выпраменьвання. Акрамя таго, аўтаматычная метэастанцыя, якая знаходзіцца ў трох кіламетрах ад Ігналіны, таксама праз кожныя дзесяць хвілін выдае звесткі аб стане надвор'я ў гэтым рэгіёне па 9 параметрах. Вобразна можна сказаць, што цяпер на Браслаўшчыне пастаянна чуюць пульс атамнай станцыі. З сакавіка гэта унікальная, адзіная пакуль што ў Еўропе сістэма дзейнічае ў эксперыментальным рэжыме, праз паўгода пачнецца эксплуатацыя.

Выдаткі па ўстаноўцы сістэмы ўзялі сябе арганізатары еўрапейскай праграмы.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

## «ГАРАЧЫ ТЭЛЕФОН»

## «НЕ НАЗЫВАЙЦЕ МАЁ ПРОЗВІШЧА...»

**Гарачы тэлефон «Звязды» — 68-28-72 — не змаўкае. Уражанне такое, што вельмі многія ў краіне жывуць у доўг, што ўсе адносіны складваюцца з пазык, нявыплат і іншых грашовых стасункаў.**

З Бярэзінскага раёна, з калгаса «Баравіно», расказалі па тэлефоне, што грошы ў гаспадарцы не плацілі даўно. Апошні раз плацілі зарплату за студзень. Той чалавек, які званіў, не прадставіўся.

Дарэчы, званкі, калі людзі не хочуць прадстаўляцца, вельмі частыя. Жанчыны і мужчыны падоўгу тлумачаць, як цяжка жывецца, як няпроста (асабліва ў вёсцы) залежаць ад кіраўніцтва, як правіла, ад аднаго чалавека — калгаснага старшыні. Але ў канцы абавязкова дадаюць: «Не называйце маё прозвішча...» Людзі баяцца. Гэта самае страшнае — калі чалавек баіцца папытацца пра сваё ўласнае, пра сваімі рукамі заробленае. Больш страшнае, што можа здарыцца, — поўная зняверанасць у саміх сябе, у сваю магчымасць адстаяць праўду.

З Любані пазваніла жанчына. Расказала пра сваіх сваякоў. Пра мужа і жонку, якія выхоўваюць траіх дзяцей. Хутчэй, відаць, спрабуюць выхоўваць. Бо з цяжкасцю забяспечваюць дзетак элементарным, з цяжкасцю набываюць кавалак хлеба. Муж не атрымлівае зарплату з сакавіка. Жонка — выхавальніца дзіцячага садка — таксама працуе бясплатна. Пытаемся: ці турбуеце мясцовае РАНА, якому падначалены садок? Турбуюць, але ж толькі на пытанні пра зарплату ў РАНА не адказваюць, кідаюць тэлефонную трубку. Атрымліваецца, што радавой выхавальніцы можна і не адказваць. Міністру яна не пазвоніць. А можа нават і тэлефон яго не знойдзе. Што тут і казаць... Але ж і ў нас, у «Звязды», просьба да выхавальніцы з дзіцячага садка г. Любані: пазваніце ўсё ж такі міністру — 24 мая Васіль Іванавіч Стражаў будзе адказваць на пытанні чытачоў «Звязды» па «прамой лініі». Тэлефоны 32-38-12, 32-38-92.

Пазваніла і настаўніца з Івацэвіч — Тамара Мікалаеўна Ціток (прабачце, калі памылка ў напісанні прозвішча, — вельмі дрэнная сувязь з Івацэвічамі). У школе затрымліваюць зарплату з сярэдзіны сакавіка. Расказала жанчына і пра ультыматум: не заплацяць да 20 мая — пададуць на РАНА ў суд. Звальняцца са школы не будуць.

Будуць змагацца. І гэта ўжо пра нешта сведчыць — людзі здольныя да пэўных дзеянняў. Людзі не будуць маўчаць.

Званіце! Мы выслухаем кожнага з вас! Сачыце за старонкамі «Звязды»: тэма нявыплаты зарплаты, пенсіі будзе прысутнічаць у нас заўжды. Наш тэлефон — 68-28-72.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## СУПРАЦОЎНІЧАЮЦЬ КАНТРОЛЬНЫЯ ОРГАНЫ

**Учора ў Маскве адбылося падпісанне Пратакола аб супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе ў галіне валютнага і экспартнага кантролю паміж Федэральнай службай Расіі па валютнаму і экспартнаму кантролю і Службай кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

З беларускага боку дакумент падпісаў намеснік начальніка службы кантролю Прэзідэнта Беларусі Андрэй Кабякоў.

Рашэнне аб падпісанні пратакола, які па расійскаму заканадаўству з'яўляецца міжнародным дагаворам міжведамаснага характару, прынята бакамі ў адпаведнасці з арт. IV Пагаднення паміж урадамі Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь аб супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе ў галіне валютнага і экспартнага кантролю.

Рэспубліка Беларусь — першая з краін СНД, якая заключыла з Расійскай Федэрацыяй міжнацыянальнае пагадненне і падпісала Пратакол аб міжведамасным супрацоўніцтве.

Пратакол дае магчымасць арганізаваць узаемадзеянне ў барацьбе з парушэннямі беларускага і расійскага заканадаўства ў галіне валютных і экспартна-імпартных аперацый, а таксама каардынаваць намаганні кампетэнтных органаў дзвюх краін, процідзейнічаючы легалізацыі злачынных даходаў.

Ведамствы ўжо ажыццяўляюць абмен інфармацыяй па пытаннях, якія ўяўляюць узаемную цікавасць.

**Анатоль ПІНСКІ.**

## СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск — | 5.06 | 21.06 | 16.00 |
| Віцебск — | 4.40 | 21.02 | 16.12 |
| Магілёў — | 4.55 | 20.55 | 16.00 |
| Гомель — | 4.58 | 20.47 | 15.49 |
| Гродна — | 5.21 | 21.22 | 16.01 |
| Брэст — | 5.30 | 21.14 | 15.44 |

## МЕСЯЦ

**Апошняя квадра**

**10 мая.**

## ІМЯНІНЫ

**Пр. Цімафея, Феадосія, Пятра**

**К. УЗНЯСЕННЕ ГАСПОДНЯЕ, Андрэя, Сымона**

**СЁННЯ**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ў Гродне — 19—21, Брэсце — 20—22, Мінску — 21—23, Магілёве, Віцебску — 23—25, Гомелі — 26—28 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак чакаецца пераменная воблачнасць, 17-га — па паўднёваму ўсходу, 18-га ўдзень — у заходніх раёнах пройдуць кароткачасовыя дажджы. Тэмпература ўначы — 6—11, удзень 17-га — 15—20, 18-га — 20—25 градусаў цяпла.

## МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 16-17 МАЯ

Надвор'е вызначыцца полем паніжанага атмасфернага ціску, утрыманне кіслароду ў паветры будзе вагацца нязначна. Захаваецца гіпаксічны тып надвор'я. **17 мая — неспрыяльны дзень па геафізічных фактарах.** У такіх умовах метэазалежным хворым з сардэчна-сасудзістай паталогіяй і захворваннямі дыхальнай сістэмы рэкамендуюцца: ашчадлівы рэжым, прагулкі ў лесапаркавай зоне, прыём полівітамінаў, якія ўтрымліваюць вітамін «Е», і рэгулярны прыём прэпаратаў, прызначаных урачом.

# САД І ЛЮДЗІ ВАКОЛ ЯГО

НЕЯК у даволі выпадковай бяседзе апынуўся я за сталом побач з невысокім сіваватым дзядком. Аказалася, што ён мяне ведае па бацьках, разгаварыліся. І тут высветлілася, што мой суразмоўца ў нашых мясцінах, на захадзе Віцебшчыны, з першых месяцаў пасля вызвалення ад немцаў, служыў у НКУС, быў нават начальнікам гэтай службы ў Шаркаўшчынскім раёне. Тут мая цікавасць, безумоўна, узрасла. А дзядок усміхаецца:

— Ведаеце, каму я дапамог смерці пазбегнуць? Віктару Сікору, сыну Івана Паўлавіча.

— Таго самага?

— Таго самага.

Доўгай размовы ў нас тады не атрымалася, ды і ў памяці ад яе мала што засталося. Але ўспамін пра Сікору неяк пастаянна вяртаўся. Дадалося да яго яшчэ дзіцячае ўражанне аб наведванні саду Сікоры. Нас, школьнікаў, вазілі туды на экскурсію ў вераснёўскую пару, калі сад аж свяціўся ад крамяных, налітых сонцам пладоў, што згіналі долу галіны. Хто тады праводзіў экскурсію, сам Іван Паўлавіч ці яго сын, ці хто іншы — не помніцца, але сад застаўся ў памяці назаўжды.

Летась у Шаркаўшчынскім раёне адзначалася 110-годдзе з дня нараджэння І. Сікоры, але абставіны не дазволілі паехаць туды. І ўсё-такі гэтай вясной, як толькі крыху спала вада ў Дзісне, пабываў у Алашках.

Івана Паўлавіча Сікору я без сумненняў адношу да тых постацей, на якіх трымалася і трымаецца наша зямля, нацыя. Абдзеленыя дзяржаўнасцю, **народным** разуменнем яе неабходнасці і сваёй нацыянальнай адметнасці, мы ва ўсе часы мелі людзей, якія і сваёй дзейнасцю, і ўсім сваім жыццём паказвалі адваротнае, трымалі нацыю на тым узроўні, на якім яна яшчэ і можа называцца нацыяй.

Сікора нарадзіўся яшчэ ў мінулым стагоддзі ў сялянскай сям'і вёскі Малыя Алашкі. Але дабіўся адукацыі, шмат дзе працаваў, шмат што пабачыў — часы ж былі пераломныя. Развальвалася Расійская імперыя, узнікалі новыя дзяржавы, беларусаў без іх згоды і волі падзялілі на дзве часткі. Ён быў настаўнікам, садаводам, але найперш ён быў мысліцелем, які глыбока задумваўся над лёсам роднай зямлі, увогуле лёсам чалавека на нашай планеце.

Ён меў знаёмства і вёў перапіску з Купалам, Коласам, Гарэцкім, са многімі іншымі дзеячамі тагачаснай Заходняй Беларусі. Але вісіць у простай вясковай хаце і партрэт Льва Талстога з дароўным надпісам рускага генія ад 9 кастрычніка 1907 года. І ўсё такі галоўнай мэтай яго жыцця стаў сад. Сам Іван Паўлавіч у адным са сваіх лістоў пісаў: «Мяне не вабяць нейкія матэрыяльныя дабрабыты, ніякая слава. У мяне на ўсё жыццё ўсяліліся дзве неразлучныя і невылечныя хваробы: любоў да раслін і любоў да кніг. Літаратар з мяне не выйшаў, ды і я на гэта не прэтэндаваў. А любоў да садоўніцтва мяне хоць чаму ды навучыла. І я сёе-тое зрабіў карыснага для нашага беларускага садоўніцтва».

Сад, славуты сад Сікоры, пачынаўся яшчэ «за польскім часам» з прычын і не зусім высокіх. У сям'і было шмат дзяцей. Таму Іван Паўлавіч, аддзяліўшыся ад бацькі, узяў палоску зямлі, заклаў плодагадавальнік. Сваёю справай ён займаўся на працягу дзесяцігоддзяў апантана, прычым не замыкаўся толькі на сваім участачку, сваім кутку Беларусі. Бывала, што выпісваў з СССР кнігу за двесце злотых — карова каштавала 60 — але гэта была кніга сусветна вядомага вучонага.

У 40-м годзе, калі ў нашы мясціны прыйшла савецкая ўлада, пастановай Савета Міністраў рэспублікі на базе яго прыватнага пасутнасці саду быў створаны паўночны апорны пункт па даследаванню праблем садоўніцтва. Не пакінуў сад і ў час вайны. Дапамагаў партызанам чым мог, а тыя таксама дапамагалі садаводу, аддавалі яму парашуты — матэрыял з іх вельмі неабходны для правядзення даследаванняў. Усе гэтыя гады ён шчодра дзяліўся здабыткамі сваёй працы з аднавяскоўцамі, людзьмі з наваколля. Бываючы ў розных раёнах Віцебшчыны, калі бачу ў гаспадара добры сад і пытаюся, адкуль завёўся, дзе бралі саджанцы, вельмі часта чую: «У Сікоры».

Ды што там Віцебшчына, у Польшчы, іншых краінах ёсць гібрыды Сікоры, яны займалі прызавыя месцы на выстаўках Еўропы. Тысячы гібрыдаў пладовых дрэў стварыў майстар, працаваў з кустамі агрэсту, іншых раслін, у яго садзе красавалі самыя разнастайныя кветкі і нетутэйшыя расліны.

Не стала Івана Паўлавіча ў 66-м. І пакінуў ён у спадчыну цудоўны сад, вялікую бібліятэку, запавет упрыгожваць і любіць родную зямлю.



Не трэба думаць, што жылося садаводу так ужо ціха і ўтульна сярод родных яблынь ды груш. Быў у свой час ён на вялікім падазрэнні ў польскіх уладаў — за сваю беларускасць, за перапіску з адрасатамі з СССР, нават да камуністаў прылічвалі Івана Паўлавіча, а старэйшага сына Пятра дык і арыштоўвалі. У 40 годзе забралі Пятра служыць у Чырвоную Армію, так і знік ён недзе на фронце без вестак і нават без паведамлення аб смерці. Але і пры савецкай уладзе Івану Паўлавічу не было поўнага даверу. Другі сын, Віктар, быў прызнаны здраднікам Радзімы, апынуўся ў Сібіры, упаміналіся адпаведнымі органамі і сяброўства, перапіска Сікоры з «нацдэмамі». Стаў ён заслужаным аграномам, але вялікіх ордэнаў ад улады так і не атрымаў, хоць па заслугах прадстаўлялі неаднойчы.

У Алашкі ад хаты Віктара Іванавіча Сікоры мы прыехалі ўранні. Але вяскоўцы ўсе спрэс, хто яшчэ можа працаваць на зямлі, былі ўжо на агародах. Вясна. Сам Віктар Іванавіч, якому семдзесят адзін, за канём не хадзіў — нешта апухла і вельмі баліць рука, ды і адсутнасць двух пазванкоў, а таксама даўнейшая аперацыя, праведзеная ў лагерным лечпункце, даюць аб сабе знаць. Аборваў гарод суседу Аляксандр Рымша, малады яшчэ чалавек. Але, як потым высветлілася, і яму цяжкая праца даецца праз сілу. Прывёз дэсантнік з Афганістана ордэн Чырвонай Зоркі, раненне ў спіну і шыю, ды дзве кантузіі. Нейкі час быў на трэцяй групе інваліднасці, цяпер яе знялі, працуе ў калгасе малаказборшчыкам.

Так жывуць цяпер на вёсцы: хоць і сам не зусім здаровы — дапамажы суседу, які занядужаў. Закончыўшы работу, Аляксандр прыняў удзел у нашай размове. Адчувалася, што ён дасведчаны ў абставінах жыцця сям'і Сікораў, з павагай ставіцца да яе.

Вядома ж, я расказаў Віктару Іванавічу пра тую сваю сустрэчу з адстаўным нкусаўцам. Аказваецца, сапраўды былі такія падзеі. У час вайны Віктар Сікора навучаўся ў Пастаўскай беларускай настаўніцкай семінарыі, паказаў нават пасведчанне аб яе заканчэнні — тыя ж прадметы, што і ў любым педвучылішчы. Ёсць нямецкая мова, дык яе і ў савецкіх школах вывучалі. Тагачасных сваіх поглядаў Віктар не хавае. Не любіў і не згаджаўся ён ні з уладай палякаў, ні з уладай бальшавікоў, ні з уладай немцаў на сваёй зямлі. Марыў аб незалежнасці Беларусі, удзельнічаў у маладзёжных нацыянальных арганізацыях. А пасля прыходу Чырвонай Арміі вымушаны быў хавацца ў лесе — ведаў, што чакае яго, бо былі ўжо прыклады арыштаў і выкладчыкаў, і навучэнцаў настаўніцкіх семінарый у Паставах і Глыбокім.

Вось тут і завіталі да яго бацькі прадстаўнікі «органаў», быў сярод іх і той невысокі, цяпер сівы начальнік з Шаркаўшчыны. Прапанавалі: перадай сыну, каб выходзіў з лесу. Нічога яму не будзе. Віктар адчуваў, што не абміне яго «яжовая» рука, але родныя ўгаварылі, маці плакала. У жніўні сорак пятага ён вярнуўся ў бацькаву хату, «органы» прапанавалі ўладкоўвацца на працу. Стаў намеснікам начальніка паштовага аддзялення, а дакладней — паштальёнам. 5 снежня гэтага ж 45 года, у дзень самай справядлівай сталінскай канстытуцыі, па яго прыйшлі. Прыцемкам. У хату зайшлі два афіцэры і сяржант, а хату абкружылі аж сем аўтаматчыкаў — такім небяспечным здаваўся ці так тады было прынята?

— Уцячы было немагчыма?

— Ды мог я, была такая магчымасць. Але ж родныя б пакутавалі!

І неўзабаве са скручанымі калючым дротам нагамі і рукамі ён ужо ехаў у свой пакутлівы — на дзесяць гадоў — зэкаўскі шлях. Праз усю Сібір, аж у невядомае Бадайба, на залатыя прыіскі.

Віктар Іванавіч расказвае: «Дарога была вельмі пакутнай, асабліва там, у Сібіры, людзі мерлі як мухі. Ну, а на прыіску я хутка меў вагу пяцьдзесят кілаграмаў. Выжыў толькі дзякуючы маладосці, упартасці. Потым апынуўся ў Тайшэце, тут сядзеў разам са славутай Русланавай, маршалам авіяцыі Новікавым».

Пасля вызвалення па просьбе бацькі вярнуўся ў родную вёску, да саду. Яшчэ ж меў пяць гадоў паражэння ва ўсіх правах, таму ўладкаваўся ў сад пазаштатным сезонным рабочым. Але ішлі гады, скончыў курсы тэхніка, тэхнікум у Мар'інай Горцы, паступіў у Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут. Быў першым памочнікам бацьку, а калі той пайшоў на пенсію, замяніў яго ў садзе. Адначасова на працягу 12 гадоў працаваў па сумяшчальніцтву аграномам у калгасе.

Трэба сказаць, што і дачка Івана Паўлавіча, Лідзія Іванаўна, таксама выбрала бацькоўскую справу, скончыла вышэйшыя аграномічныя курсы, працуючы ў Варапаеўскай школе, займалася там садоўніцтвам. Два яе сыны паспяхова скончылі Горацкую сельгасакадэмію, сталі спецыялістамі ў сваёй справе.

А як жа сад? Вось тут пачынаецца самае балючае. Сёння практычна ён без гаспадара. У Слабадской сярэдняй школе створаны добры музей Івана Паўлавіча Сікоры, пры школе ёсць плодагадавальнік, але сад застаўся недзе ўбаку. Вось што гаворыць рэдактар Шаркаўшчынскай газеты «Кліч Радзімы» Эдуард Корсак: «Вядома, цяпер разважаць прасцей, але думаецца, трэба было асноўныя намаганні скіраваць менавіта на сад, а не на музей. Музей павінен быць пры садзе, а не сад пры музеі». Увогуле ж журналісты Віцебшчыны шмат і даўно пішуць аб неабходнасці ўратавання унікальнага саду Сікоры. Л. Крэскіян, Г. Кірылаў у немалой ступені спрычыніліся да таго, каб па-сапраўднаму загучала само імя Івана Паўлавіча Сікоры.

Ды толькі саду пакуль што даводзіцца нялёгка. Ідзём з Віктарам Іванавічам сярод дрэў, на якіх толькі-толькі пачынаюць прабівацца лісточкі. Ён цяжка ўздыхае, прыпыняецца, аглядае былое багацце. «Прахадны двор — што тут скажаш. Вось бачыце, балаціна, а некалі ж, у 1928 годзе, тут уручную зрабілі дрэнаж, доўга служыла зямля саду, цяпер нікому не патрэбна».

А вось яшчэ адно меркаванне. Кандыдат сельскагаспадарчых навук М. Шлома: «Калі гаварыць шчыра, то унікальная спадчына І. Сікоры прыйшла ў страшнае здзічэнне і запусценне. І толькі ў «запасніках» у садаводаў-аматараў нешта засталося ад гэтага бясцэннага скарбу». Дадам: сёння ў сікораўскім садзе няма ніводнай яблыні славутага гатунку «Памяць Сікоры» — шэдэўра, створанага майстрам.

Трэба сказаць, што адказныя работнікі аблаграпрома кіраўніцтва раёна і кіраўніцтва мясцовага калгаса «Іскра» адназначна падтрымліваюць ідэю аднаўлення саду Сікоры, надання яму менавіта той значнасці і навуковай, і гаспадарчай, якая была пры заснавальніку. Тым больш, што Віцебшчына не мае нават аддзела пладаводства і агароднінаводства, а яна ў гэтым мае вялікую патрэбу. Паўночная зона, тут сад пасадзіць і выгадаваць вельмі няпроста.

Думаецца, што ў вырашэнні гэтай праблемы патрэбен дзяржаўны падыход. Успомнім, у 1940 годзе наўрад ці нашай рэспублікі было лягчэй, чым сёння, але менавіта Савет Міністраў знайшоў і сродкі, і ўсё астатняе для таго, каб Сікора мог працягваць сваю работу ўжо на новым ўзроўні. Дык чаму мы забываем аб яго спадчыне цяпер? Пачынаць жа на новым месцы заўжды цяжэй. А пачынаць рана ці позна давядзецца.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

*Віцебская вобласць.*

*СІТУАЦЫЯ*

# Смачныя зімой агурочкі...

**ЧЫМ ГЛЫБЕЙ унікаеш у праблемы сельскай гаспадаркі, тым больш усведамляеш увесь размах крызісу, які ахапіў яе. Зноў прыходзіш да высновы, што шчасце для народа вырашана ў чарговы раз пабудаваць за кошт вёскі. Маўляў, яна ўсё выцерпіць, і наш рахманы селянін моўчкі вынесе ўвесь эканамічны цяжар. Запоўніць паліцы магазінаў таннымі прадуктамі, а сам будзе абыходзіцца мінімумам.**

**Пра вёску ўжо прыходзілася пісаць многа, але ў гэтым артыкуле хачу звярнуць увагу на дзейнасць гаспадарак, якія спецыялізуюцца на вырошчванні агародніны і маюць свае цяплічныя комплексы. Справа ў тым, што калгасы і саўгасы маюць хоць нейкае поле для манеўру, а вось цяплічныя комплексы ўжо выразна адчуваюць дыханне эканамічнага калапсу.**

На Брэстчыне вырошчваннем агародніны ў цяплічных умовах займаюцца тры гаспадаркі ў Баранавіцкім, Лунінецкім і Брэсцкім раёнах. Праблемы ў іх сёння аднолькавыя, таму і спынімся на цяплічна-шампіньёным комплексе калгаса «Чырвоны сцяг». Гаспадарка ўжо знаходзіцца ў межах Баранавіч, і цяплічны комплекс стаў неад'емнай часткай горада.

Комплекс пабудавалі дзесяць гадоў таму назад. Рабілася гэта, як і ўсё ў тыя часы, з размахам, з прымяненнем навейшай тэхналогіі. Шэсць гектараў зямлі пад шклом — гэта нямала, і ўвесь комплекс уражвае. Гаспадарка працавала рытмічна і забяспечвала Баранавічы, асабліва зімой, агуркамі, памідорамі ды грыбамі. У любым выпадку гэтыя прадукты можна было купіць без праблем. Значная частка прадукцыі паступала і ў іншыя гарады. І ў цэлым комплекс працаваў даволі эфектыўна. У мінулым, не самым лепшым, годзе сабралі 700 тон агуркоў і памідораў ды 200 тон шампіньёнаў. Адзін квадратны метр даў па 25 кг агародніны. А калі ўзніклі праблемы з рэалізацыяй прадукцыі (гэта здарылася тры гады таму назад), пабудавалі цэх перапрацоўкі, у якім кансервуюць грыбы, агародніну, сокі. Пры поўнай загрузцы магутнасцей цэх можа выпускаць 500 тысяч слоікаў кансерваў.

У савецкія часы комплекс працаваў бесперабойна найперш таму, што дзяржава была зацікаўлена ў стабільнай рабоце гаспадаркі. Не было сённяшніх цяжкасцей з энергарэсурсамі, насеннем, абсталяваннем і г. д.

Мікалай Якубец кіруе калгасам ужо 21 год, і гэтыя цяпліцы выраслі на яго вачах. І вось цяпер Мікалай Захаравіч становіцца сведкам таго, што ўвесь гэты шкляны гарадок кінуты на волю лёсу. Дзяржава «ўмыла рукі», і старшыні прыходзіцца выкручвацца самому.

Трэба адзначыць, што цяплічная гаспадарка надзвычай энергаёмістая. Раней значныя затраты на ацяпленне брала на сябе дзяржава, сёння ж поўны гаспадарчы разлік.

У адным багатым калгасе старшыня з абурэннем паведаміў, што яму штодня прыходзіцца плаціць па 2 мільёны за газ і электраэнергію. Для параўнання скажу, што цяпліцы на сваё ацяпленне «з'ядаюць» да 50 млн. рублёў, а электраэнергіі — на 5 млн. у суткі. І нават сёння, калі вясна ў разгары, цяпліцы павінны быць падагрэты да 24 градусаў, інакш расліны пачнуць чэзнуць. Фактычна круглы год гарыць газ на комплексе. І як пры такіх затратах на энерганосьбіты быць гаспадарцы рэнтабельнай? А яшчэ неабходна помніць, што шкло часта б'ецца, а каштуе дорага, што трэба мяняць абсталяванне, выдаваць зарплату.

І тут яшчэ складанасць у тым, што цяпліцы могуць прымяняцца толькі па свайму прызначэнню. Тут няма прасторы для манеўру, нейкіх эканамічных эксперыментаў. Ну, замест памідораў можна заняцца выганкай кветак, але ж і ім цяпло патрэбна. А калі цяпліцы не апальваць, то яны за адзін сезон разваляцца. Мне паказалі цяпліцу, якую гэтай зімой не абагравалі. Абвалілася. Быццам па ёй тайфун прайшоў.

А ці ёсць тут нейкае выйсце?

М. Якубец лічыць, што калі дзяржава не возьме частку расходаў на сябе, сітуацыя з цяпліцамі будзе надзвычай складанай, бо штосьці змяніць сваімі сіламі калгас не можа. Напрыклад, у той жа Польшчы актыўна пераходзяць на цвёрдае паліва, але ж і цяпліцы там у параўнанні з нашымі ліліпуты. І ў старшыні калгаса з'явілася задума паставіць паравозы і гнаць пару па трубах імі. Але, калі зрабілі ўсе выкладкі, стала ясным, што выйгрышу тут не будзе: не здолеюць замяніць шэсць газавых катлоў, кожны з якіх у дыяметры мае чатыры метры. Ды і наогул гэта нейкае саматужніцтва.

Хачу адзначыць, што сваю прадукцыю гаспадарка можа прадаваць па любой цане, як за наяўны, так і безнаяўны разлік. Здавалася б, добра, але тут спрацоўваюць рыначныя законы. Не ты дыктуеш рынку, а ён табе. Пакупнік наш бедны і плаціць тое, што можа. Дастаткова павысіць цану — і прадукцыя залежыцца, а на вялыя агуркі пакупніка не знойдзеш. Вось і прадаюць грыбы і памідоры па 25 тыс. за кг, а агуркі — па 12—13 тысяч. Хаця комплекс і мае 10 гандлёвых пунктаў у горадзе, але ўсё ж ён не манапаліст. Свежыя памідоры прывозяць з Польшчы і прадаюць па той жа цане. Мясцовая прадукцыя не ўступае замежнай, а часта і лепшая па якасці, але дыктаваць цану не можа яшчэ і таму, што агародніна з Польшчы значна таннейшая, чым наша. А цана на мясцовыя агуркі ды памідоры трымаецца на рысе рэнтабельнасці. Крыху ніжэй і прыбытку — нуль. Вось і шампіньёны аказаліся стратнымі.

Цяпер, калі зняты ўсе бар'еры, прадукцыю цяпліц трэба было б везці ў Расію, але тут усё тая ж праблема. Адсутнасць грошай у пакупнікоў. А адправіць агародніну задарма які сэнс, бо і ў нас таксама многія не могуць разлічыцца з гаспадаркай. На комплексе працуюць 300 чалавек. Ёсць свае лабараторыі і спецыялісты. З зарплатай пакуль што затрымкі не было. Ды і калгас дапамагае людзям, чым можа. І пакуль у шкле цяпліц іграюць сонечныя промні, жыццё на комплексе працягваецца. Але ці доўга так будзе?

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

# Аб беларускай мове

26 студзеня 1990 года ў Беларусі адбылася вялікая падзея, якую, на мой погляд, можна аднесці да гістарычных падзей нашай краіны. Менавіта ў гэты дзень Вярхоўны Савет БССР 11-га склікання прыняў Закон «Аб мовах у Беларускай ССР». Хачу падкрэсліць, што гэты закон быў прыняты дэпутатамі, якія абіраліся ў Вярхоўны Савет у 1985 годзе, пад непасрэдным кіраўніцтвам КПБ, і яны зацвердзілі ў другім артыкуле закона, што «...дзяржаўнай мовай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца беларуская мова».

У народзе кажуць, што, каб крыху зазірнуць наперад, трэба спачатку паглядзець назад. І сапраўды, калі мы азірнёмся назад, то павінны адзначыць: камуністы, якія ў тыя гады складалі пераважную большасць у Вярхоўным Савеце, добра разумелі, што азначае вырашэнне гэтага пытання для развіцця роднага краю, для нашай любай Радзімы.

Мне цяжка зараз уявіць, што знойдуцца людзі, якія не пагодзяцца са словамі, запісанымі ва ўступнай частцы закона: «Мова — не толькі сродак зносінаў, а і душа народа, аснова і важнейшая частка яго культуры. Жыве мова — жыве народ. Кожная мова, яе літаратурная, жывая мясцовая і гістарычная разнавіднасць — неацэнны скарб, які належыць не аднаму народу, а ўсяму чалавецтву».

На мой погляд, закон атрымаўся ўзважаным і добра падрыхтаваным. Складаецца ён з шасці раздзелаў і ўключае 36 дэталёва распрацаваных артыкулаў. У законе вызначаецца статус не толькі беларускай мовы як дзяржаўнай, але і рускай мовы як мовы міжнацыянальных зносінаў народаў Саюза ССР, а таксама іншых моў, якія ўжываюцца ў Беларусі.

У Пастанове Вярхоўнага Савета «Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Беларускай ССР «Аб мовах у Беларускай ССР» дэпутаты Вярхоўнага Савета вырашылі ўводзіць у дзеянне палажэнні закона паступова на працягу 10 гадоў — з 1 верасня 1991 года да 1 верасня 2000 года. Гэты дзесяцігадовы тэрмін у сваю чаргу разбіты паартыкульна на чатыры перыяды, з якіх вынікае наступнае: артыкулы 1, 2, 3, 5, 6, 9, 21, 30, 36 уводзяцца ў дзеянне з 1 верасня 1990 года; артыкулы 11, 27, 28, 29, 31, 32, 35 уводзяцца ў дзеянне на працягу трох — пяці гадоў; артыкулы 8, 10, 13, 14, 23 — на працягу пяці гадоў; артыкулы 4, 7, 12 — на працягу пяці гадоў; артыкулы 15, 16, 17, 18, 19, 20, 22, 24, 25, 26 — на працягу 10 гадоў з моманту ўступлення ў сілу закона.

Усё зроблена вельмі разважліва, дакладна і зразумела.

Але дэпутаты Вярхоўнага Савета на гэтым на спыніліся, а пайшлі далей і прынялі Закон «Аб дапаўненні артыкула 68 Канстытуцыі (1978 г.) (Асноўнага закона) Беларускай ССР», у якім запісалі:

«Дзяржаўнай мовай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца беларуская мова.

Беларуская ССР забяспечвае свабоднае карыстанне рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносінаў народаў Саюза ССР.

Парадак ужывання беларускай, рускай і іншых моў у Беларускай ССР вызначаецца заканадаўствам Беларускай ССР».

Як грамадзянін Рэспублікі Беларусь, як былы Старшыня Вярхоўнага Савета і як сённяшні дэпутат Вярхоўнага Савета я глыбока ўдзячны дэпутатам 11-га склікання за гэты закон і буду адзначаць гэта ўсюды і заўсёды.

Я сумняваюся, што сённяшнія дэпутаты здолелі б прыняць такі закон. Хаця справа і не ў гэтым.

Было б усё добра, каб не адно слова, як кажуць на Беларусі — але... Вельмі складана распрацаваць і прыняць дакладны закон па такому важнаму пытанню, але яшчэ больш складана, занадта складана правесці яго ў жыццё.

Аналізуючы стан выканання артыкулаў Закона «Аб мовах у Беларускай ССР» пасля шасці гадоў з дня яго прыняцця, можна зрабіць ужо пэўныя высновы, на вялікі жаль, вельмі і вельмі несуцяшальныя.

Што датычыцца дзевяці артыкулаў, якія ўведзены ў дзеянне з 1.09.90 года, то трэба звярнуць увагу на тое, што большасць рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый за шэсць гадоў так і не стварылі грамадзянам неабходных умоў для вывучэння беларускай і рускай моў і дасканалага авалодання імі, як гэтага патрабуе пункт 5 артыкула 2.

Артыкулам шостым арганізацыя выканання Закона аб мовах ускладзена на Кабінет Міністраў і выканаўчыя камітэты мясцовых Саветаў, якія ў апошні час гэтай справай не займаюцца, а калі што і робяць, то складваецца ўражанне, што не на карысць закона, а супраць яго.

З сямі артыкулаў, якія прадугледжвалася выканаць да 01.09.93 года, застаюцца часткова нявыкананымі тры артыкулы за нумарамі 28 (мова ў сферы культуры), 29 (мова сродкаў масавай інфармацыі) і 31 (мова аб'яў і паведамленняў).

Тры артыкулы, якія прадугледжвалася выканаць у перыяд з трох да пяці гадоў, засталіся часткова нявыкананымі.

— Частка першая артыкула 4 (Абавязак службовых асоб, іншых работнікаў дзяржаўных органаў, прадпрымальнікаў, устаноў і грамадскіх арганізацый валодаць беларускай і рускай мовамі) не выканана.

Не выконваюцца пп. 1 і 2 артыкула 7 (Мова актаў органаў дзяржаўнай улады і кіравання), п. 1 артыкула 12 (Мова з'ездаў, канферэнцый і іншых форумаў).

Выкананне артыкулаў за нумарамі 15, 16, 17, 18, 19, 20, 22, 24, 25, 26 прадугледжана да 2000 года і можна было б падрабязна не разглядаць ступень іх выкананасці, але ж неабходна адзначыць, што прайшло ўжо шэсць гадоў з моманту прыняцця Закона «Аб мовах у Беларускай ССР», а з гэтых 10 артыкулаў пакуль што толькі чатыры артыкулы — 22 (Права на выхаванне і атрыманне адукацыі на нацыянальнай мове), 24 (Мова навучання і выхавання ў агульнаадукацыйных школах), 25 (Мова навучання ў прафесіянальна-тэхнічных вучылішчах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах), 26 (Уступныя экзамены на мове) — часткова выкананы.

Але ў апошні час многае тое, што было дасягнута, страчана, а фактычна незаконна адменена.

На мой погляд, да майскага рэферэндуму 1995 года адносіны да Закона «Аб мовах у Беларускай ССР» былі больш уважлівыя, патрабавальныя і строгія. Нават адзначаліся перабольшанні патрабаванняў і злоўжыванні пры ўвядзенні беларускай мовы ў школах і іншых навучальных установах.

Напрыклад, у большасці сельскіх раёнаў наогул не засталося сярэдніх рускіх школ. Хоць пэўная колькасць бацькоў і дзяцей выказвалі жаданне вучыцца ў рускіх школах. Можна было б прыводзіць і больш падобных прыкладаў. Такіх падыходаў людзі не разумелі. Нельга далікатную справу рабіць хуткімі тэмпамі, таму што будзе многа памылак, якія абавязкова выкарыстаюць тыя людзі, якія выступаюць супраць беларускай мовы. На вялікі жаль, так у нас і здарылася.

Пасля правядзення майскага рэферэндуму адносіны да закона і асабліва да беларускай мовы рэзка змяніліся ў іншы бок.

Зараз у школах пачалі пераводзіць дзяцей, якія чатыры гады правучыліся на беларускай мове, у класы з рускай мовай, што, вядома, не можа адмоўна не адбіцца на навучанні дзяцей.

Адпаведныя падыходы робяцца і ў іншых навучальных установах.

На вялікі жаль, не адстаюць ад дзяцей і моладзі ў гэтым накірунку і дарослыя. Я маю на ўвазе дзяржаўныя ўстановы, прадпрыемствы і іншыя арганізацыі. У розных установах і арганізацыях практычна нічога не робіцца ў арганізацыйным і тэхнічным плане для выкарыстання беларускай мовы ў якасці дзяржаўнай.

Ніхто належным чынам не кантралюе гэта пытанне. Усё радзей і радзей гучыць беларуская мова ў вышэйшых дзяржаўных установах.

Нават у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь яе рэдка можна пачуць. Дэпутаты Вярхоўнага Савета, якія добра ведаюць беларускую мову, далёка не заўсёды карыстаюцца ёю пры выступленнях, не стала абавязкам рыхтаваць праекты дакументаў на беларускай мове.

Няўжо трэба ехаць за мяжу, каб выступаць на роднай мове? Пэўна, некаторыя лічаць, што лепш, а галоўнае прасцей, карыстацца звыклай «трасянкай», чым дасканала валодаць беларускай, а таксама і рускай мовай. Таму што мову пэўнай часткі нашага насельніцтва аднесці да чыстай рускай мовы таксама нельга. І я ўпэўнены, што ніколі чыстай рускай мовы ў Беларусі не будзе.

Дарэчы, аб рэферэндуме, які адбыўся 14 мая 1995 года, дзе ставілася пытанне: «Ці згодны Вы з наданнем рускай мове роўнага статусу з беларускай?» у галасаванні прынялі ўдзел 4.830.582 чалавекі, або 64,8 працэнта, 2.615.238 чалавек (35,2 працэнта) не ўдзельнічалі ў галасаванні. Акрамя таго, 613.516 (12,7 працэнта) чалавек прагаласавалі супраць і 192.693 (4,0 працэнта) бюлетэняў аказаліся несапраўднымі.

Такім чынам, станоўча не выказаліся за роўнасць рускай і беларускай мовы 3.421.447 чалавек — гэта амаль што палова выбаршчыкаў, якія былі ўключаны ў спісы для галасавання. Таму я лічу, што няма грунтоўнай падставы ўсюды заяўляць аб рашучай перамозе, бо тры з паловай мільёны насельніцтва — гэта нашы людзі, і не лічыцца з іх думкай нельга.

Акрамя таго, нядрэнна было б улічыць, колькі рускіх па нацыянальнасці грамадзян Рэспублікі Беларусь прынялі ўдзел у галасаванні. Тады вынікі гэтага галасавання ўвогуле стануць адмоўнымі.

Мяркую, Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь трэба дэталёва вывучыць гэту праблему і прыняць адпаведнае рашэнне.

Але пакуль што дэпутатам Вярхоўнага Савета і, у першую чаргу Камісіі па адукацыі, навуцы і культуры, неабходна ўзяць пад кантроль выкананне Закона «Аб мовах у Беларускай ССР», прынятага ў 1990 годзе, і патрабаваць ад выканаўчай улады выканання запланаваных мерапрыемстваў.

Спадзявацца на тое, што гэта зробіць сама выканаўчая ўлада, нельга.

Тым больш, што ні Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, ні вынікі рэферэндуму не змянілі статусу беларускай мовы як дзяржаўнай. У артыкуле 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь запісана: «Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова.

Рэспубліка Беларусь забяспечвае права свабоднага карыстання рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносінаў».

Я цвёрда перакананы, што ў Беларусі, як і ў любой іншай дзяржаве, павінна быць свая родная мова, бо калі ёсць мова — ёсць нацыя, ёсць краіна! Няма мовы — няма нацыі, няма краіны!

На мой погляд, гэтыя высновы для нас, беларусаў, маюць асаблівы сэнс і асаблівую значнасць.

Цяжка знайсці ў свеце краіну, якая будуе прававую дзяржаву і ў якой ствараюцца розныя таварыствы па абароне ці ў падтрымку роднай мовы, мовы нашых бацькоў.

**Дэпутат ад 129-й Дзятлаўскай выбарчай акругі
М. ГРЫБ.**

# Якім быць беларускаму амбудсмену?

Ні для кога не сакрэт, што ў нашай рэспубліцы не адзінкавыя выпадкі грубага парушэння правоў чалавека, прыніжэння гонару і годнасці, злоўжывання ўладай, асабліва на нізавых узроўнях. Можна прывесці шмат прыкладаў, але спынюся толькі на адным. Пенсіянерка з Мар'інай Горкі прадала чэкі, купіла газавы лічыльнік. Кошт лічыльніка ёй павінна кампенсаваць дзяржава. Прайшло ўжо шмат часу, але ніхто не збіраецца вяртаць грошы беднай жанчыне. Чыноўнікі прызнаюць, што трэба гэта зрабіць, што яны парушаюць закон, але, аказваецца, няма механізма вяртання грошай падманутай жанчыне. І справа стаіць на месцы...

Сапраўды, на жаль, такіх выпадкаў, калі розныя ўладныя структуры крыўдзяць людзей, парушаюць іх грамадзянскія і палітычныя правы, шмат. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь палічыў, што ў грамадстве наспела вельмі вострая неабходнасць у стварэнні незалежнага, спецыялізаванага органа, які б абараняў чалавека ад кіраўніцкага дэспатызму і бюракратычных скажэнняў, несправядлівых адносінаў да яго кіраўніцкіх структур і службовых асоб, і вырашыў стварыць у рэспубліцы інстытут упаўнаважанага па правах чалавека.

Упаўнаважаны па правах чалавека (па еўрапейскай тэрміналогіі — амбудсмен), па вызначэнню Міжнароднай асацыяцыі юрыстаў, — незалежная публічная службовая асоба высокага рангу, якая атрымлівае скаргі на дзяржаўныя органы і служачых ад пацярпеўшых асоб ці дзейнічае па ўласнаму меркаванню і ўпаўнаважана праводзіць расследаванні, рэкамендаваць карэкціруючыя дзеянні і прадстаўляць даклады. Ён абараняе як прыватныя, так і публічныя (агульныя) інтарэсы, гарантуе паінфармаванасць грамадзян аб памылках і злоўжываннях адміністрацыі, садзейнічае рацыяналізацыі кіраўніцкага працэсу, яго адкрытасці для грамадства.

Такія інстытуты існуюць у многіх краінах Еўропы, якія ўжо маюць вялікі вопыт дзейнасці грамадзянскага грамадства (Швецыя, Нарвегія, Данія, Фінляндыя, Германія, Італія, Новая Зеландыя, штаты ЗША), так і ў тых, што становяцца на гэты шлях (Польшча, Венгрыя). Гэтыя інстытуты, не з'яўляючыся органамі прымусу, сталі значным дапаўненнем сістэмы юрыдычных сродкаў абароны правоў чалавека, здольных прадухіліць розныя адхіленні дзеянняў чыноўнікаў ад канстытуцыйных і іншых прававых нормаў. Вядома, трэба падкрэсліць, што поспех ідэі ўпаўнаважанага па правах чалавека абумоўлены высокім узроўнем палітычнай культуры народа, павагай заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады як адзін аднаго, так і з боку грамадства, цывілізаванасцю сістэмы ўладных адносінаў. Так, у Расіі ўвядзенне інстытута амбудсмена яшчэ не дало значных вынікаў, а расійская Дума прымала гэты закон два гады.

Упаўнаважаны па правах чалавека можа стаць значным дапаўненнем да цяперашняй сістэмы заканадаўчых, прадстаўнічых і судовых орнанаў рэспублікі, сістэмы абароны правоў чалавека. Гэтыя інстытуты павінны не канкурыраваць, а дапаўняць і дапамагаць адзін аднаму. Галоўныя інструменты працы амбудсменаў ва ўсіх цывілізаваных краінах — высокі маральны аўтарытэт, павага з боку народа, аргументаванасць сваіх прапаноў і парад, незалежнасць ад кіраўніцкіх структур і органаў. Ён не павінен караць і здымаць з пасады дзяржаўных чыноўнікаў, кіраўнікоў розных узроўняў, але яго парада ці просьба павінны стаць маральным законам для кожнага чалавека краіны. Зброя ўпаўнаважанага павінна грунтавацца на неправавых крытэрыях: справядлівасці, прыстойнасці, разумнасці, сумленнасці, галоўнасці, правільнасці, абгрунтаванасці і г. д. Асаблівай рысай амбудсменаў павінна быць іх адкрытасць і даступнасць. Жыхары Беларусі не павінны месяцамі стаяць у чэргах, каб трапіць на прыём да ўпаўнаважанага па правах чалавека. Аднак адразу ўзнікае пытанне, як зрабіць так, каб яго не закідалі дробнымі скаргамі (суседка забіла курыцу, сельсавет не пачысціў калодзеж, людзі не падзялілі мяжу ці пашу для жывёлы і г. д.).

Пастаянная камісія па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі беларускага парламента па даручэнню Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь распрацавала Закон «Аб упаўнаважаным па правах чалавека» і ў бліжэйшы час вынесе яго на першае чытанне. Ён цалкам адпавядае сусветным стандартам, убірае ў сябе вопыт цывілізаваных краін.

Праўда, існуе і цэлы шэраг пытанняў: ці будзе гэты інстытут вырашэння існуючых праблем негвалтоўнымі метадамі адпавядаць нашаму злоснаму часу, ці захочуць чыноўнікі, якія разумеюць толькі сілу, падпарадкоўвацца маральнаму аўтарытэту, ці не пальецца на амбудсмена паток крытыкі з боку збанкрутаваўшых палітыкаў, якія не жадаюць дзяліцца нават часткай сваёй улады. Усе прапановы грамадзян Беларусі па арганізацыі дзейнасці беларускіх амбудсменаў мы гатовы абмеркаваць і ўлічыць пры дапрацоўцы закона.

**І. КАТЛЯРОЎ,
старшыня Камісіі па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі, доктар сацыялагічных навук, прафесар.**

# Попел Чарнобыля стукае ў нашых сэрцах

**Выступленне старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па міжнародных справах Пятра КРАЎЧАНКІ на сесіі Міжпарламенцкай асамблеі Савета Еўропы ў Страсбургу**

Пан старшыня!

Дамы і панове!

Дазвольце перш за ўсё выказаць Вам шчырую ўдзячнасць за тое, што менавіта сёння, 26 красавіка г. г., у 10-ю гадавіну чарнобыльскай трагедыі, Міжпарламенцкая асамблея Савета Еўропы палічыла магчымым разгледзець гэтае пытанне на сваім пленарным пасяджэнні. Выказваем сардэчную ўдзячнасць старшыні камісіі па навакольнаму асяроддзю пану Жану Брыяну, асноўнаму дакладчыку пану Полю Стэсу за бліскучае і аб'ектыўнае выкладанне праблемы, а таксама пані Лары Маргрэт Рагнарсдацір, якая з такім разуменнем, хваляваннем і болем гаварыла ў панядзелак пра тое, што з'яўляецца агульнай бядой трох брацкіх славянскіх народаў — рускіх, украінцаў і беларусаў.

Паважаныя калегі!

Хачу падкрэсліць, што і сёння, праз 10 гадоў пасля трагедыі, Чарнобыль — гэта тайна, гэта данасць з многімі невядомымі. Злавеснае аблічча Чарнобыля будзе з кожным годам раскрывацца ўсё паўней і трагічней. Асабліва гэта датычыцца ўздзеяння малых дозаў радыяцыі на здароўе чалавека, што не можа не турбаваць практычна ўсе еўрапейскія краіны. Трагізм сітуацыі заключаецца і ў тым, што існуючыя карты забруджвання складзены на аснове распаўсюджвання некалькіх радыеактыўных элементаў (перш за ўсё цэзію і стронцыю), а на нашу тэрыторыю выпалі практычна ўсе элементы табліцы Мендзялеева. І Савецкі Саюз у мінулым, і нашы дзяржавы сёння не маюць сіл і сродкаў, каб скласці карты і стварыць сістэму маніторынгу, якія аб'ектыўна адлюстроўваюць становішча спраў. Чарнобыль — гэта бяда з яўна выяўленым пачаткам, але, на вялікі жаль, не маючая дакладна абведзеных граніц свайго заканчэння ў бліжэйшай перспектыве. Прынамсі, нам спатрэбіцца ад 350 да 400 гадоў, каб пераадолець страшныя вынікі Чарнобыля. Такім чынам, адно з непахісных і свяшчэнных правоў любога народа — права на жыццё, на будучыню, на працяг і ўскладненне сваіх дзяржаўных і духоўных традыцый — ставіцца пад сумненне.

Мяркуйце самі. На нашу нацыянальную тэрыторыю, якая ў сотні разоў уступае па плошчы Расіі і ў дзесяткі разоў — Украіне, выпала 70 працэнтаў агульнага аб'ёму радыеактыўных рэчываў, што апынуліся ў атмасферы ў 1 гадзіну 24 хвіліны 26 красавіка 1986 года. Эталонна чыстай з'яўляецца толькі 1 працэнт тэрыторыі рэспублікі. З севаабароту выведзены кожны пяты гектар раллі, забруджана каля 20 працэнтаў летніх угоддзяў. У зоне радыеактыўнага заражэння аказалася 2 млн. 200 тыс. жыхароў Беларусі з прыкладна 4,5 млн. чалавек, пацярпеўшых ад Чарнобыля ва ўсіх трох дзяржавах. Больш за 600 тысяч дзяцей нашай рэспублікі адносяцца да так званай групы рызыкі, хоць можна весці размову аб тым, што практычна ўсе дзеці рэспублікі маюць істотныя адхіленні ў здароўі. Пра маштабы трагедыі сведчыць і той факт, што больш як 400 населеных пунктаў аказаліся без жыхароў, было зачынена больш за 600 школ і дзіцячых садкоў. Усяго адселена з забруджаных раёнаў 131 тыс. чалавек і для іх у сціслыя тэрміны пабудавана жыллё, створаны рабочыя месцы.

Рэзюміруючы, хачу падкрэсліць, што Чарнобыль — буйнейшая тэхнагенная катастрофа XX стагоддзя, па сутнасці ядзерны ўдар абмежаванага дзеяння ў мірны час — прынёс незлічоныя ўзрушэнні, страты і беды ў розных галінах маёй Радзімы — Беларусі:

**У фінансавай**: агульны эканамічны ўрон з 1986 па 2005 год складзе больш за 235 млрд. долараў, г. зн. па сутнасці, непараўнальны нават са стратамі маштабнага ўзброенага канфлікту.

**У дэмаграфічнай:** нараджальнасць скарацілася больш чым у 2 разы і ў выніку мы маем адмоўны дэмаграфічны баланс.

**У медыцынскай**: колькасць захворванняў на рак шчытападобнай залозы ў дзяцей за апошнія 10 гадоў павялічылася больш чым у 70 разоў і сёння па гэтым паказчыку мы займаем сумнае і трагічнае 1-е месца ў свеце. Паводле некаторых даных прагнознага характару, якія, не дай Бог, стануць рэальнасцю, колькасць людзей, хворых на рак, можа скласці праз 15—20 гадоў да 50 працэнтаў насельніцтва рэспублікі.

**У сферы псіхалагічных вынікаў:** склалася група людзей, над якімі як дамоклаў меч лунае страх, няўпэўненасць, якія многія гады жывуць у стрэсавым стане. Страх апрацоўваць зямлю. Страх збіраць грыбы і ягады. Боязь і страх браць шлюб, ствараць сем'і, пакідаць пасля сябе нашчадкаў. Што можа быць страшней за гэты страх, калі жыццё ператвараецца ў пекла, у пекла на зямлі, а не на небе.

**У сферы генетычнай**: склалася прамая пагроза генафонду нацыі, паколькі Чарнобыль уздзейнічае на імунную сістэму дзяцей, прыводзіць да аслаблення іх арганізма і катастрафічнага росту захворванняў усіх відаў.

Становіцца ясна, што сваімі сіламі з чарнобыльскай трагедыяй нам не справіцца. Толькі мабілізацыя магчымасцей сусветнага супольніцтва можа прывесці да змянення становішча спраў. У свой час я меў гонар ад імя 122 краін свету прадстаўляць Генеральнай Асамблеі ААН праект рэзалюцыі L/45/190, прынятай кансенсусам 21 снежня 1990 года, згодна з якой Беларусь названа першай сярод пацярпеўшых рэспублік. Гэтая рэзалюцыя адыграла і адыгрывае сваю ролю, з'яўляецца асновай для пашырэння аб'ёму дапамогі пацярпеўшым раёнам Беларусі, Украіны і Расіі. У гэтай сувязі мы выказваем шкадаванне і здзіўленне наконт таго, што на саміце, што адбыўся 19—20 красавіка г.г. у Маскве, Беларусь не была прадстаўлена і не змагла прыняць удзел у абмеркаванні праблем ядзернай бяспекі ў постчарнобыльскую эпоху.

Глыбока перакананы, што чалавецтва не можа ўступіць у XXI стагоддзе з чыстым сумленнем, не вырашыўшы ў сэнсе суперажывання і пашырэння дапамогі праблемы Чарнобыля.

І ў гадзіны радасці і трыумфу, і ў гадзіны трагедый і нягод народы Еўропы павінны быць разам. Толькі тады пачуццё суперажывання, разумення болю і глыбіні трагедыі пацярпеўшых народаў стане ўспрымацца ўсімі з аднолькавай вастрынёй, паняцці «еўрапейская сям'я», «адзіны еўрапейскі дом» стануць рэальным элементам нашага жыцця на кантыненце.

Да таго часу, пакуль у Расіі, на Украіне і Беларусі будуць паміраць «ліквідатары», маладыя хлопцы — салдаты, міліцыянеры, пажарнікі, верталётчыкі — усе тыя, каму Еўропа абавязана сваім дабрабытам і жыццём, да таго часу, пакуль будуць паміраць жанчыны і дзеці, услед за вялікім фламандцам Шарлем дэ Костэрам мы павінны нястомна паўтараць:

*Пепел Хиросимы стучит в наших сердцах;*
*Пепел Чернобыля стучит в наших сердцах;*
*Пепел жертв всех ядерных катастроф планеты*
*Звучит в наших сердцах!*

Дзякуй Вам, пан старшыня!

## ЗБОЖЖАВЫЯ ПАСЕЯНЫ.
### Пасадка бульбы працягваецца

**У ліку першых на Гродзеншчыне завяршылі сяўбу ранніх збожжавых земляробы Слонімскага раёна. Для ранейшых часоў факт, можна сказаць, радавы — слонімцы заўсёды вызначыліся на пасяўной. Але цяпер размова асаблівая: у красавіку абрушыўся такі ўраган, што літаральна за дзень пакрыў зямлю паўметровым слоем снегу. Вынікі стыхіі адмоўна адбіліся на пасяўной, адсунуўшы звычайныя тэрміны палявых работ не на адзін дзень.**

Разам з галоўным аграномам райсельгасупраўлення Карлам Свібам мы пабывалі на палях калгаса «1 Мая». Пацікавіліся ў кіраўнікоў гаспадаркі, які праяўляецца клопат аб людзях, што працуюць на пасяўной. Прыемна было пачуць, што на час веснавой сяўбы арганізавана двухразовае гарачае харчаванне. Факт, пагадзіцеся, значны.

Але не толькі гэтым абмяжоўваецца клопат аб людзях. Кіраўнікі раённай «вертыкалі» сочаць за тым, як у калгасах і саўгасах «працуе» матэрыяльнае заахвочванне людзей. Старшыня райвыканкома паведаміў аб тым, што ў калгасе «1 Мая», напрыклад, ды і ў іншых гаспадарках, за кожны пасаджаны гектар бульбы механізатарам бясплатна выдадуць па кілаграму збожжа. Плюс, вядома, і заработную плату. Практыкуецца таксама і выдача «грашовых талонаў». Што датычыць дапамогі людзям у пасадцы бульбы на асабістых агародах, то тут пытанняў не ўзнікае. Тэхніка, насенне, угнаенні — калі патрабуецца, усё паступае ў распараджэнне сялян з гаспадарак.

Яшчэ адно «новаўвядзенне», якое можна залічыць у актыў раённай «вертыкалі», гэта тое, што на Слонімшчыне адроджана традыцыя аказання з горада дапамогі сялянам. Добра, што на заклік райвыканкома своечасова адгукнуўся гарвыканком. Сустрэліся два мэры — Станіслаў Здановіч і Алег Лакцюшын — і дамовіліся аб'яднаць намаганні, каб паскорыць ход палявых работ. Хутка ў гаспадаркі быў «высаджаны дэсант». Дарожны ўчастак № 7 адкамандзіраваў у калгас «Чырвоная зорка» два трактары Т-150, у калгас «Наперад» — пагрузчык. Слонімская МПМК-169 «дэлегавала» ў калгас «Чырвоны партызан» два «Беларусы» і Т-150 са сваімі трактарыстамі. Плённа шэфствуе над хлебаробамі і мясцовая «Сельгасхімія».

... Пасля паездкі па палях Слонімшчыны падводзім вынікі з кіраўніком раённай «вертыкалі».

— Не знаёмым з праблемамі земляробаў людзям, — гаворыць Станіслаў Здановіч, — пакажацца, што з завяршэннем сяўбы яравых збожжавых заканчваецца веснавая пасяўная. Так, ва ўстаноўленыя Прэзідэнтам тэрміны для збожжавых мы ўклаліся, але ж большую частку палёў займаюць бульба, лён, кукуруза, кармавыя культуры. Аптымальны час іх сяўбы — у гэтыя майскія дні.

— Што адрознівае цяперашнюю пасяўную? — разважае далей Станіслаў Здановіч. — Тое, што паступова ўдзяляем усё больш увагі вёсцы. Дзякуй ураду за лютаўскі льготны крэдыт: дзякуючы яму гаспадаркі змаглі выдаць людзям зарплату. Або іншы прыемны факт — трактаразаводцы Мінска пад гарантыю дзяржавы выдзелілі новую тэхніку. Таксама нядрэнная падмога. Ды і атрыманыя мінугнаенні якраз дарэчы прыйшліся. Што хвалюе, дык гэта спазненне некаторых гаспадарак з вяртаннем крэдытаў. Але вось на нядаўняй селектарнай нарадзе Прэзідэнт паабяцаў, што дазволіць адтэрміноўку даўгоў. Своечасовае рашэнне, на мой погляд, як і абяцанне кіраўніка дзяржавы выдзяляць датацыі так званым «складаным» калгасам, дзе нізкабальныя глебы, малаконтурныя палі, старыя фермы...

**Мікалай ДЫМ.**

## ВЫХОДЖУ АДЗІН Я НА ДАРОГУ...

Але не ў квяцістым шушуне, як пісаў некалі расійскі паэт Ясенін. І зусім не дзеля таго, каб праводзіць сына. А каб убачыць Хведара Пятровіча «ў справе».

На гэты раз стары абраў магілёўскі напрамак. Мы трохі ад'ехалі ад Усходняга аўтавакзала, бо там міліцыянеры ўвесь час ходзяць (як гаварыў дзед Хведар — так я яго назаву сам сабе, хоць прадставіўся ён як Хведар Пятровіч). Мой знаёмы, мабыць, далёкі продак японскіх камікадзе. З адным толькі адрозненнем — ён застаецца ў жывых. Але рызыка заўсёды на «вышэйшым узроўні». Уявіце сабе: машына рухаецца са скорасцю няхай кіламетраў сто (у сярэднім) у гадзіну. Якое ж патрэбна спрактыкаванае вока, каб кінуцца пад колы імкліваму «Сітраэну» ці «Форду» і не застацца акрываўленым трупам! Неверагодная сітуацыя, праўда? На ўзроўні лепшых каскадзёраў. Дзед «робіць грошы» па-свойму. Спецыяліст суперкласа, дарожны джэнтльмен удачы.

«Шоу» пачынаецца: Хведар Пятровіч становіцца неяк бокам да шашы і, уцягнуўшы галаву ў плечы, чакае. Чакае нейкай асаблівай машыны, гаспадар якой павінен будзе даць дзеду грошай. Вось недзе метраў за 100 — 150 з'яўляецца белая «Аўдзі», і я па нейкай асаблівай напружанасці майго знаёмага разумею, што пачынаецца! Хведар Пятровіч робіць крок-другі наперад да процілеглага боку шашы. Машына набліжаецца, і тут ён раптам кідаецца на асфальт, літаральна пад колы бялюткай іншамаркі. Я аж здрыгануўся ад нечаканасці, хоць рыхтаваўся да ўсякага. «Аўдзі» завішчэла тармазамі, дзядок трохі тарганууўся ад сутыкнення з коламі і... застаўся нерухомым, скручаным у нейкай жудаснай канвульсіі. Хаця мне здалося, што Хведар адкаціўся ад колаў раней, чым яны да яго наблізіліся. Можа таму, што крыху ведаў, чым займаецца дзядок, я і звярнуў на гэта ўвагу. А так з боку (недалёка быў аўтобусны прыпынак, дзе стаяла некалькі пасажыраў) усё «шоу» выглядала бездакорна і стварала Хведару «алібі» пакутніка.

Сабраўся немалы натоўп, з іншамаркі выйшаў спалоханы мужчына сярэдніх гадоў і пачаў тармасіць дзядка са словамі: «Чаго ж ты, бацька, зусім па баках не глядзіш, га?» «Бацька» моўчкі ляжаў і не падаваў прымет жыцця. Гаспадар «Аўдзі» цалкам папаўся на вуду дзеда — падхапіў таго пад рукі, уцягнуў у машыну, рыўком ад'язджае.

Ва ўмоўленым месцы мы сустракаемся з «каскадзёрам». Жывы-здаровы, трохі «на падпітку» і курыць «Магну» — пасля спрытнай аферы можна сабе дазволіць. Я расказваю аб сваіх уражаннях. Хведар моўчкі ўсміхаецца і моцна зацягваецца цыгарэтай, выпускаючы дым праз ноздры.

— Во, бачыш, а ты не верыў, — неяк асабліва, унутр, гаворыць ён. — Мая «праца» вельмі рызыкоўная, вельмі. Бо калі я не адкачуся ў патрэбны момант ад колаў — усё, сканаю ў страшэнных муках. Прыходзіцца хуценька вызначаць і адлегласць машыны да мяне, і сярэднюю скорасць (тут Хведар пакрывіў душою, таму што выбірае ён месца менавіта на паваротах, дзе хочаш не хочаш, а скорасць скідваць прыходзіцца — **М. Л**.), ну, прыродныя ўмовы, само сабою, таксама ўлічваеш. Без усяго гэтага я даўно б ужо гніў дзе-небудзь у драўлянай «калысцы».

А наогул, колькі б ты мне гадоў даў на выгляд? Пяцьдзесят?! Малодзіш, братка, ой як малодзіш. Мне ўжо пяцьдзесят восем нядаўна стукнула. Наогул, калі спраўляеш дзень нараджэння, то кожны раз здзіўляешся, што яшчэ жывы і быццам бы здаровы. Спартыўная маладосць адбіваецца. О, як я са шпагаю калісьці скакаў — ну натуральны козлік. Фехтаванне — гэта табе не так што-небудзь, гэта такі азарт, ну і рызыка, вядома. Слізгаеш сваёю шпагаю па саперніку, ён абараняецца, а ты — зноў і зноў. Высакародная такая гульня. А гледачы і рады — у далоні пляскаюць. Я спачатку палохаўся менавіта апладысментаў.

Вось гэтым «шоу» займаюся другі год. За ўвесь час паламаў некалькі рабрын ды нагу вывіхнуў. Спачатку не ўсё атрымлівалася, выглядала не па-сапраўднаму рэальна. Атрымліваў і па фізіяноміі... Усё тое, што ты сёння бачыў, — вынік двухгадовых пакут. Ды і зараз не ўсё так гладка, трапляюцца розныя вадзіцелі. Некаторыя даюць задні ход і ад'язджаюць. Таму выбіраю звычайна месца, каб і ад міліцыянтаў падалей, бо не патрэбен мне пратакол ніякі. Гэта асноўны козыр: па правілах на вадзіцеля адразу трэба заводзіць крымінальную справу, да таго ж ёсць сведкі (я заўсёды выбіраю адносна людныя месцы). Звычайна дамаўляемся мы з «кліентам» па дарозе ў бальніцу, куды ён мяне падвозіць. Тут ужо цана за мною. Не ўяўляй сабе, што я нейкі блазан са слоічкамі чырвонай фарбы для большага эфекту. Усе гэтыя «закідоны» толькі псуюць справу. Пабольш натуральнасці — і кладзеш у кішэню энную суму грошай. Тут галоўнае не перагнуць палку і запрасіць выкуп, эквівалентны выгляду «парушальніка». О, ёсць такія прынцыповыя, проста жах, — адразу ў бальніцу вязуць без усялякіх агаворак і гатовы адказваць за свой учынак. Але такіх мізэрная частка, у асноўным дагаворваемся па-людску. Тым больш, што шкуры я не дзяру.

У мяне — свой «бізнес». Во некаторыя «снікерсамі» гандлююць, некаторыя ў рэкеце, ну ёсць, вядома, працоўны люд, які на заводзе гарбаціцца. Мне туды нельга — што я буду рабіць, шпагаю махаць? Не, браце, туды шляху няма. Да дзяржаўнай пенсіі тры гады, ды толькі хто мне яе будзе выплачваць? Вось і шукаеш заробак. Я свой, калі шчыра, з аднаго кінафільма «садраў» — калі там нейкі хлапчына пад машыну кідаўся. (Відаць, ведаць не ведаў рэжысёр фільма «Плюмбум, ці Небяспечная гульня», што стане класікам, якога расцягваюць па частках. Во і Хведар выцягнуў адну — калі гэты самы Плюмбум кінуўся пад колы аўтамабіля, каб укараніцца ў шайку гандляроў гнілой агароднінай. — **М. Л.**). Вырашыў, што такім нетрадыцыйным спосабам можна атрымаць грошы на жыццё...

Дзед зусім выдыхнуўся ад доўгай гутаркі, ды добра падпіў, таму язык яго пачынае малоць нейкую лухту. Я выводжу яго на вуліцу, прашу аб наступнай сустрэчы, каб дагаварыць, але Хведар Пятровіч упарта адмаўляецца. «Нашто, — кажа мне стары, — у цябе сваё жыццё, у мяне сваё. Ды я табе ўсё ўжо расказаў. А ўва мне навошта корпацца? Я ж не сабака Паўлава табе...»

Ну што ж, бывай, стары «Плюмбум», бывай, Хведар. Зарабляй сабе грошы, пакуль не наскочыш на хуткага гоншчыка, які не здолее своечасова спыніцца. Правілы дарожнага руху — надзейная твая ахова і крыніца тваіх грошай на халасцяцкае жыццё. Дай Бог табе сустракаць і далей свае дні нараджэння. Але паспрабуй задумацца, што ўсё тваё існаванне зараз — падман. Тваё існаванне падобна на той аблезлы каўпак, ад якога ты так адмахваўся ў гутарцы са мною. Так што, дзед Хведар, «завязвай» са сваім «шоу», ідзі хаця б у дворнікі, падмятай тую самую шашу, якая зараз для цябе з'яўляецца своеасаблівым працоўным месцам.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*МЕРКАВАННЕ*

## ЦЫГАРЭТНЫ БІЗНЕС: КАМУ СТАЛА «ЛЯГЧЭЙ ДЫХАЦЬ»?

**Два тыдні мінула з таго моманту, калі (згодна з Пастановай Кабінета Міністраў «Аб імпарце тытунёвых вырабаў») з 1 мая ў Беларусі цыгарэты замежнай вытворчасці павінны прадавацца толькі з акцызнай маркай, якая знаходзіцца пад цэлафанавай упакоўкай, — тэрмін даволі значны, каб можна было гаварыць аб першых выніках гэтага новаўвядзення.**

Як і прадказвала «Звязда» ў ранейшых публікацыях на гэтую тэму, першымі «ластаўкамі» сталі дэфіцыт «паліва» для курцоў і адначасова скачок у бок павелічэння яго кошту. Калі ў крамах цыгарэты замежнай вытворчасці апошнімі днямі пакрысе пачалі з'яўляцца, дык у камерцыйных кіёсках іх няма да гэтага моманту і цяжка сказаць, калі сітуацыя зменіцца. Каго не закранула пастанова, дык гэта, безумоўна, цыгарэтных «карабейнікаў», у якіх тавар не знікаў з рук ні адзін дзень. Між іншым, менавіта яны першымі адрэагавалі на штучна створаны дэфіцыт тытунёвых вырабаў — літаральна з першага дня дзеяння пастановы Кабінета Міністраў кошт цыгарэт павялічыўся ў іх на 1,5—2,5 тысячы рублёў за пачак, які, дарэчы, захоўваецца і па сённяшні дзень. Зазначым, што такой вялікай цаны (за пачак папулярных «LM», напрыклад, зараз трэба выкласці 9—10 тысяч рублёў) у Беларусі не назіралася з красавіка мінулага года, калі былі ўведзены акцызныя маркі. Дарэчы, тыя цыгарэты, што з'яўляюцца ў крамах, маюць амаль такі ж кошт, што і ў «карабейнікаў», г. зн. і там не абышлося без павелічэння цаны за пачак на 1,5—1,6 тысячы рублёў. Трэба меркаваць, што гэта кошт пераносу акцызнай маркі пад упакоўку?! Аналізуючы гэтыя факты, міжволі прыходзіш да высновы, што новаўвядзенне на руку ўсім, акрамя самога спажыўца. Бо, як сцвярджаюць тыя, хто займаецца дробнаоптовым гандлем цыгарэтамі, мітусня з акцызнымі маркамі не з'яўляецца для іх сур'ёзнай перашкодай. Кантрабанда можа з поспехам ісці, напрыклад, і праз Украіну, а не прама з Расіі, як было дагэтуль. Што тычыцца дэфіцыту, то ён дазволіў «карабейнікам» за апошнія дні ўзняць кошт продажу блока тых жа «LM» з 57—60 тысяч да 65—70 тысяч рублёў (пры ранейшых выдатках на закупку). Сцвярджэнні ж наконт таго, што падпольны цыгарэтны бізнес будзе спынены, выглядаюць, мякка кажучы, смешна — людзі адчулі прыбытковасць гэтага занятку і ў выпадку «рэпрэсій», безумоўна, змогуць знайсці новыя шляхі збыту тавару. Менавіта таму новаўвядзенне ніяк «не цягне» на барацьбу ў дзяржавы з курэннем шляхам павелічэння кошту цыгарэт (як яно ёсць ва ўсіх развітых краінах).

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*ЧУЖОЙ БЯДЫ НЕ БЫВАЕ*

## ДАПАМАЖЫЦЕ І ВЫ АХВЯРАМ ТЭРАРЫЗМУ

Выбух, які адбыўся на Аршанскім вакзале 14 сакавіка 1996 г., калі ад рук злачынцаў загінуў капітан міліцыі Міхаіл Дзям'янаў і былі паранены восем чалавек, ускалыхнуў усю Беларусь. Рэспубліка трымала «экзамен на дабрыню і міласэрнасць». Хто ж адгукнуўся і дапамог сем'ям загінуўшых?

Матэрыяльную дапамогу ў выглядзе медыкаментаў і перавязачных матэрыялаў аказалі: аршанская чыгуначная паліклініка, супрацоўнікі міліцыі са Смаленска, Аршанскі гарвыканком, МУС, Мінскае аддзяленне чыгункі. Удзел у лёсе пацярпеўшых прынялі супрацоўнікі Бярозаўскага, Лунінецкага, Ляхавіцкага, Наваполацкага, Ганцавіцкага, Першамайскага, Кастрычніцкага, Партызанскага АУС г. Мінска. Салідарнасць з імі праявілі штабы грамадзянскай абароны Мінска, Светлагорска, установа палкоўніка Н. Чайкіна, афіцэры Галоўнага ўпраўлення камандуючага ўнутраных войскаў.

Няма магчымасці пералічыць усіх добрых людзей, якія адклікнуліся на бяду. Мы не ведаем, хто такі Л. Курловіч з Мінска, які пералічыў 1.340.000 руб., але ўпэўнены, што ён чулы, міласэрны чалавек. Іх тысячы, гэта яны сабралі для пацярпеўшых больш як 150 млн. руб. На гэтыя грошы будзе ўзведзены помнік капітану міліцыі М. Дзям'янаву, набыты лекі ахвярам. Але ўсе гэтыя знакі ўдзячнасці і павагі, на жаль, не змогуць замяніць родным М. Дзям'янава сына, мужа і бацьку.

Хочацца дадаць, што зло ўсё ж будзе пакарана, побач заўсёды акажуцца смелыя і мужныя людзі, якія не раздумваючы пойдуць насустрач небяспецы, абароняць слабых і прыніжаных.

Фонд «Доўг» таксама аказаў дапамогу пацярпеўшым сем'ям, плануе ў маі падтрымаць усе сем'і загінуўшых.

Гэта можаце зрабіць і вы, а арганізацыі могуць аказаць дапамогу праз фонд «Доўг», пералічыўшы яе на рахунак 3015212920017 у Мінгардырэкцыі Белбізнесбанка, код 764.

**Тамара БАБАШКА.**

# НАНЯЦЬ КВАТЭРУ Ў СТАЛІЦЫ

ШЧЫРА прызнаюся адразу: гэты матэрыял названы так толькі па традыцыі. Не хочацца яе парушаць, тым больш што з прывычнай нашай рубрыкай ён усё ж нeяк стасуецца: будуць тут і цэны, і паслядоўнасць дзеянняў... А вось наконт задання... Карацей кажучы, ніхто ніякага задання мне не даваў, гэта была з майго боку чыстая самадзейнасць. І кватэру я сапраўды спрабавала наняць не дзеля таго, каб напісаць гэтыя радкі, а дзеля таго, каб знайсці месца, дзе можна павесіць свой капялюш (г. зн. дзе можна жыць). Таму адразу прашу прабачэння за пэўную суб'ектыўнасць апісання. Іранізаваць з сябе я нават люблю, тым больш што без іроніі ўсё выглядала б тут даволі змрочна. Таму тое, што напісана ніжэй, можна жанрава вызначыць як амаль фельетон. Прычым дакладнасць фактаў, як гаворыцца, гарантую. Карацей, праўда — і нічога акрамя праўды.

Калі папраўдзе, дык кватэру я вырашыла шукаць з-за выбрыкаў уласнага самалюбства. Да гэтага жытло ў мяне было, на першы погляд, даволі прыстойнае і пасля інтэрнацкай тусоўкі здавалася сапраўдным раем. Пакой у двухпакаёвай кватэры (суседні зачынены, гаспадыня ў ім не жыве). Ну, і тэлефон, кухня, санвузел, карацей, усё як у людзей. І ўсяго за сорак долараў у месяц. Ну чым не жыццё? Два месяцы я цешылася, што так добра ўладкавалася. А пасля... Спачатку мне надакучыла ездзіць у перапоўненым тралейбусе на працягу амаль што гадзіны праз увесь горад. Потым пільную маю ўвагу пачалі прыцягваць і шэра-зялёна-бруднаватыя сцены на кухні, колер якіх зусім не спрыяе апетыту, і пабляклыя шпалеры ў маім пакоі, якія калісьці, пэўна, былі ярка-аранжавымі. Чамусьці ўсё часцей я параўноўвала сябе з Радзівонам Раскольнікавым і (што самае страшнае!) занадта часта ўспаміналa, да чаго яго, Раскольнікава, такое вось жыццё давяло... Да таго ж у хаце не было халадзільніка. Ну, і нарэшце, гаспадыня. Яна магла ў любы момант прыйсці «без запрашэння» (вядома ж, мае свае ключы). Ці вечарам патэлефанаваць і прад'явіць прэтэнзіі наконт неаплачанага тэлефона (хаця ён ужо тыдзень як аплачаны), або наконт таго, што яна ўпершыню ў сваёй хаце ўбачыла прусака на кухні (хаця я змагаюся з гэтымі рудымі вусатымі стварэннямі з дня пераезду, а сляды ад кітайскага алоўка для барацьбы з гэтай заразай з'явіліся на сценах яшчэ задоўга да таго, як я ў іх апынулася), або проста прачытаць па тэлефоне прафілактычную лекцыю, нагадаўшы (Божа мой, каторы раз!), што забараняецца рабіць у яе палацы. Карацей, у адзін цудоўны дзень псіхалагічная атака дасягнула свайго апагея, і я адчула, што хутка з глузду з'еду, калі не з'еду з гэтай кватэры...

За пошукі я ўзялася з энтузіязмам. Праўда, вопыту ў мяне не было ніякага (маё першае прыстанішча было нанята дзякуючы дапамозе знаёмага добразычліўца). Не прыдумаўшы нічога арыгінальнага, я пачала дзейнічаць традыцыйна: чытаць аб'явы на слупах, на прыпынках, на сценах... карацей, усюды, дзе іх клеяць (а клеяць іх шмат дзе). Але ўсе намаганні вычытаць што-небудзь талковае заканчваліся нічым, хаця некалькі дзён мяне можна было бачыць ля слупоў у многіх раёнах нашай неабсяжнай сталіцы. Аб'яў са словамі «здыму» было шмат, а з запаветным «здаю» мне не трапілася на вочы ніводнай...

Адкінуўшы ідэю з «насценным роспісам», я звярнулася да паняцця больш роднага і зразумелага — да прэсы. Купіўшы пару рэкламных газет (а калі быць дакладнай — вельмі падобныя адна на адну, бы двайняты, «З рук у рукі» і «З першых рук»), я стала ўважліва вывучаць змест раздзелаў «Кватэры і пакоі ў наём». У пачатку ішлі заклікальныя аб'явы «інфармацыйных агенцтваў» з мноствам (аж у вачах стракацела) клічнікаў і прапісных літар. Яны, усе як адно, прапаноўвалі свае паслугі па найму кватэры «па вашых густах і сродках». Далей ішлі больш сціплыя аб'яўкі прыватнікаў, іх было зусім няшмат і некаторыя прыйшлося адразу адкінуць: прапаноўваліся кватэры або без мэблі (што мне наогул не падыходзіла), або з мэбляй і з тэлефонам (што не падыходзіла маёй кішэні: такая раскоша каштуе зараз не менш як сто «зялёных»).

Засталося некалькі тэлефонаў, па якіх я тут жа стала званіць. Амаль усе кватэры былі ўжо здадзены (хаця газеты, што купіла, былі самыя свежыя). Цікавілася ў гаспадароў за колькі — чула ў адказ «60—70 долараў» і хуценька клала трубку, з жахам адчуваючы, што мая прыгожая мара аб спакойным жытле разбіваецца аб непераадольную сцяну фінансавай рэчаіснасці. Але два разы мне «пашчасціла»: кватэра ў Шабанах была яшчэ не здадзена, у ёй быў не толькі халадзільнік, але нават каляровы тэлевізар. І цана была для такога камфорту невысокая — 55 долараў... Але гаспадар, даведаўшыся, што кватэру буду здымаць я адна, больш размаўляць са мной не захацеў...

Другі раз я стала ахвярай няўважлівасці тых, хто кампануе аб'явы. Кватэра, якая здавалася (згодна з напісаным у газеце) «на любы тэрмін», аказалася «кватэрай на суткі» (цікаўным паведамлю, што каштуе такое шчасце 10—20 долараў — за суткі, вядома ж). Больш падыходзячых прыватных аб'яў не назіралася, таму я, адчуваючы, што нічога добрага не выйдзе і тут, усё ж вырашыла звярнуцца да паслуг «інфармацыйнага агенцтва».

Ведаеце, што для мяне, наіўнай, было самым вялікім адкрыццём? Паслугі агенцтваў, аказваецца, платныя! Вось яно што! Паведамлялі мне пра гэта або адразу, або распытаўшы падрабязна аб нацыянальнасці, прапісцы, сямейным становішчы і г.д. Прапаноўвалі нават прыдатныя варыянты. Але калі я пыталася каардынаты гаспадара, каб самой звязацца і дамовіцца, мне адказвалі ветліва, але цвёрда: прыязджайце, заключым дагавор. Дарэчы, многім агенцтвам, якія «на любы густ і магчымасці», мой густ і магчымасці прыйшліся вельмі не даспадобы. (А патрэбна мне была, як вы зразумелі, аднапакаёвая кватэра з мэбляй, без тэлефона, за 50 долараў у месяц самае большае.) Нярэдка мне высакамерна тлумачылі, што кватэр за такую смешную цану наогул не існуе.

І ўсё ж я вырашыла паспрабаваць. Выбраўшы агенцтва, да якога бліжэй за ўсё ехаць, накіравалася туды. Са мной тут жа заключылі дагавор: я заплаціла 25 «зялёных» за тое, што на працягу двух тыдняў мне будуць па першаму ж патрабаванню прапаноўваць падыходзячыя варыянты... Калі б я хацела знайсці кватэру ў межах 60 «баксаў» — заплаціць агенцтву давялося б 30, калі б за 80 — прыйшлося б вылажыць 40. Карацей, палову ад сумы, якую гатовы плаціць кожны месяц. Зрэшты, справядліва: з багацейшага і бяруць больш.

Не буду ўтойваць: варыянты мне сапраўды прапаноўвалі. Праўда, большасць кватэр былі ўжо здадзены. У некаторых, якія мне давялося паглядзець, у пакоі стаяла толькі канапа, а на кухні — стол і адзіны табурэт (гэта, аказваецца, таксама называецца «кватэрай з мэбляй»). Напэўна, калі б у мяне быў такі «нязначны» дадатак, як муж, кватэру б я ўсё-такі зняла. Але чаго няма — таго няма, а адной дзяўчыне кватэру здаваць асмеліцца не кожны. І гэта праблема вырашылася б, калі б я прапанавала на 20 долараў больш. Але зноў-такі: чаго няма — таго няма.

Падчас свайго візіту ў агенцтва я пацікавілася цэнамі. Аднапакаёвую кватэру без тэлефона і мэблі ў новым раёне (куды з транспарту ходзяць толькі аўтобусы) можна знайсці і за 35—40 долараў. Такая ж бліжэй да цэнтра ці па лініі метро — самае меншае 60. Аднапакаёвая кватэра з мэбляй на мікрараёне ў асноўным абыходзіцца ў 70—90 долараў штомесячна. Аналагічная ў цэнтры — у сярэднім у 100—120. Ну, а калі да мэблі дабавіць тэлефон — будзе не менш за сто ў мікрараёне і прыкладна 150 — бліжэй да цэнтра. Пра двухпакаёвыя пісаць не буду: цэны былі недаступныя майму разуменню, таму я іх не запомніла, а запісаць не здагадалася...

Загадкай для мяне заставалася, адкуль у агенцтва столькі розных варыянтаў. Вядома, яно ў газеце прапануе свае бясплатныя паслугі ў здачы кватэры. Але няўжо столькі людзей адклікаецца? Усё аказалася куды прасцей. Калі агенцтва — значыць ёсць агенты. Яны абрываюць аб'явы на слупах (вось чаму мне не траплялiся на вочы!), звоняць, нібыта хочуць наняць гэту кватэру, удакладняюць усю інфармацыю і перадаюць яе дыспетчару. Тое ж самае робяць і з аб'явамі ў газеце. Ці яшчэ прасцей: самі пішуць аб'яву: «Здыму кватэру». Наіўныя гаспадары звоняць, думаючы, што прапануюць кватэру канкрэтнаму чалавеку, а там, аказваецца, — агент. Нярэдка, прыходзячы глядзець кватэру, бачыла на тварах здзіўленне, калі казала, што даведалася праз агенцтва: людзі пра гэту структуру ніколі не чулі...

Можа, мне проста не пашанцавала з агенцтвам? Адна з супрацоўніц замест таго, каб проста даць тэлефоны гаспадароў, сама дамаўлялася аб сустрэчы. Аднойчы я пазваніла ўвечары, і яна сказала, што ёсць падыходзячы варыянт: 50 долараў з мэбляй і нават з тэлефонам. Праўда, далекавата — Малінаўка. Калі я папрасіла тэлефон, каб удакладніць дэталі, яна сказала, што аб усім дамовіцца сама. Пазваніўшы праз хвілін пятнаццаць, я даведалася ад дыспетчара, што ёсць там і дзве канапы, і халадзільнік, і тэлевізар, і што гаспадары згодны, каб я жыла адна і чакаюць сёння (а было ўжо восем вечара). «Едзьце, дзяўчына, едзьце, такога варыянта больш не будзе...»

Паблукаўшы па новым раёне з паўгадзіны і знайшоўшы нарэшце паміж сорак другім і сорак восьмым патрэбны трыццаць шосты дом, змёрзлая і спалоханая, я зайшла ў пад'езд. На патрэбным паверсе мяне яшчэ больш спалохала тусоўка нахабных падлеткаў. А калі ўбачыла дзверы з патрэбным нумарам, усе парэзаныя і пазашываныя белымі ніткамі, без званка, — наогул ледзь не абамлела. Не прадчуваючы нічога добрага, патузала за ручку... Канапы ў хаце сапраўды былі дзве. Адна, паламаная, была ў пакоі (акрамя яе нічога не было), другая стаяла на кухні. Тэлевізар, як разумееце, быў выдумкай нечай фантазіі, гэтак жа як і халадзільнік, які, праўда, быў, але не працаваў. І цана гэтаму «шчасцю» была не 50, а 60 долараў. Пэўна, дыспетчарка недачула...

З дому я вылецела куляй, праклінаючы і сябе, і агенцтва, і молячы ўсіх святых, каб жывой даехаць дадому (было ўжо дзесяць вечара). Потым я два дні нікуды не званіла, адыходзіла ад апошняй паездкі. Потым на два дні паехала ў вёску. Потым... Потым аказалася, што 15 дзён, абумоўленых дагаворам, ужо прайшлі.

Карацей, я па-ранейшаму жыву на старой кватэры. Праўда, з героем Дастаеўскага сябе не параўноўваю. Мо таму, што вясна? Шпалеры ў пакоі збіраюся пераклеіць, а зялёна-шэрыя сцены кухні нават супакойваюць нервы. Халадзільнік можна ўзяць напракат. Гаспадыня супакоілася, магчыма таму, што вычытала запланаваны курс лекцый, магчыма таму, што тэлефон платны... Карацей, усё добра!

Толькі вось 25 долараў не вернеш...

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**




Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

**P.S. Паняцце «кватарант» — яно вечнае. І ад яго нікуды не дзенешся і не пазбавішся. Асабліва сёння, калі купіць кватэру не па кішэні, так яе ніхто не дасць, а праца твая тут, у вялікім горадзе, і нават прапіска ёсць. І стаміўся ўжо ад пастаяннага інтэрнацкага гармідару, і адчуваеш сябе асобай занадта незалежнай, каб здымаць пакой у населенай кватэры. Ці проста надакучыла жыць пад адным дахам двухпакаёўкі са сваёй палавінай, з бацькамі ды яшчэ малодшым братам ці сястрой. А столькі кватэр пустуе. І добрыя людзі дазволяць у адной з іх жыць, праўда, за грошы. Чаму ў іх лішняе, а некаму не хапае? Бог не роўна дзяліць — гэта таксама спрадвеку. Праўда, існуе спецыяльны падатак для тых, хто не жыве на сваёй жылплошчы і атрымлівае з яе значны прыбытак. Што ж, справядліва. Нехта ад гэтага падатку выкручваецца, нехта плаціць. Калі плаціць — узнікае ланцуговая рэакцыя: больш грошай патрабуюць з арандатара. І тады ўжо не выбрыкі самалюбства вымушаюць людзей пакінуць абжытае прыстанішча і шукаць не лепшае — таннейшае. Тут ужо будзе не да іроніі...**

# ...ПАГАНДЛЯВАЦЬ СЕМКАМІ

Адразу скажу, што нічога ладнага ў мяне з гэтага не атрымалася. Атрымаўся толькі поўны правал маёй індывідуальнай камерцыйнай дзейнасці і ўсведамленне таго факта, што калі хтосьці гандлюе семкамі, то гэта камусьці патрэбна! Толькі, мусіць, я пачаў гандаль зусім не з таго боку. Таму і выйшаў канфуз...

Але ўсё па парадку. Па наіўнасці я меркаваў, што гэтая справа прасцей простай. Ідзі, маўляў, купі ў якога-небудзь аптавіка большы ці меншы мех сланечнікавых зярнят, вазьмі адну-дзве шкляначкі, сядзь на нейкую скрынку ці прыступку, агароджу, або проста стой і чакай, пакуль падыдзе нехта ды спытае: «Колькі каштуе?»

Спатыкнуўся ўжо на першым кроку. Бо не ведаў, дзе купіць оптам гэтыя семкі. Зазірнуў у адну-другую краму пад назвай «Сельгаспрадукты» — у адной семак не было ўвогуле, у другой яны былі такой якасці, што, калі б мяне такімі пачаставаў мой сябрук, то ён выйшаў бы з гэтай катэгорыі людзей.

Пайшоў на Камароўскі рынак, адшукаў некалькіх гандляроў з вялікімі мяхамі сланечнікавага зерня. Але мае спробы купіць 1—2—3 кілё аказаліся марнымі. «Ды што ты, дзядзька, менш чым 10—15 кілаграмаў не прадаём, а па 1—2 кілё ідзі ў краму». «Дзякуй, — кажу, — у краме ўжо я пабываў». Ну, сяк-так «выцыганіў» я пяць кілаграмаў семак. Але ж яны сырыя, нясмажаныя. Хто такія будзе купляць?

Пакуль праводзіў на кухні аперацыю «Смажаныя семкі», з-за адсутнасці практыкі напусціў смуроду. Але ўсё роўна на смак яны атрымаліся нейкія незразумелыя: адна палова — сырая, другая — ледзь не падгарэлая. І тут, аказваецца, трэба «тэхмінімум» здаваць, каб атрымалася нешта ладнае... Забягаючы наперад, скажу: аб тым, што сухія семкі лягчэйшыя за сырыя, я зусім не падумаў.

Узяў я цэлафанавы куль, дзве розныя шклянкі, нейкую скрынку і пайшоў да бліжэйшага гастранома — там звычайна гандлююць семкамі тры-чатыры жанчынкі. Але яны адразу ж сустрэлі мяне ў штыкі. «Ану валі адсюль са сваімі семкамі! Гэта — наша месца! Ды і чаго ты за бабскую справу ўзяўся — семкамі гандляваць!» Прыйшлося «аддаліцца»... Толькі прыладкаваўся на адлегласці ад тых негасцінных жанчынак, як тут нібы з-пад зямлі вырас міліцыянер: «Парушаеце правілы гандлю! Засмечваеце тэрыторыю!» І г. д., і г. д.

Дарэчы, наконт «Засмечваеце тэрыторыю!» можна было б паспрачацца. Вядома ж, не гандляр яе засмечвае. Калі кіравацца дзіўнай логікай забароны, трэба было б увогуле забараніць гандаль цыгарэтамі, бо ўсё наваколле закідана пачкамі з-пад іх або недакуркамі-бычкамі. Трэба было б забараніць гандаль бананамі ці апельсінамі, бо колькі людзей коўзаецца, наступіўшы на бананавы «лядзяш». Трэба было б забараніць таўстасумам купляць шампанскае, бо на кожным газоне ўбачыш пустую пляшку з-пад гэтага зусім не для беднага пакупніка напою. Трэба было б забараніць карыстацца грамадскім транспартам, бо на кожным прыпынку вецер кружыць-ганяе дзіравыя талончыкі... І яшчэ: ніколі не бачыў, каб міліцыянеры «цікавіліся» гандлярамі цыгарэтамі ці яшчэ сякой-такой драбязой.

Ад штрафу я ўсё ж сяк-так адбіўся... Але тут новая навала. Тры нейкія паўп'яныя дзецюкі кожны па добрай прыгаршчы семак проста з куля загрэблі і па кішэнях рассавалі. Рагочуць. А суседкі-жанкі смяюцца: «Ну што, мужык, пакаштаваў нашага гандлярскага хлебца?»

І хоць надвор'е было добрае, але настрой быў канчаткова сапсаваны. Узяў я свой куль і пацягнуўся дахаты. Цяпер на некалькі тыдняў сям'я забяспечана тымі семкамі, якія я «выцыганіў» у аптавіка.

Падумалася: колькі ж людзей «харчуюцца» вакол тых семак, пакуль яны дойдуць да пакупніка! Вытворцы — сяляне. Буйныя перакупшчыкі — «купцы». Гандляркі, што сядзяць на кожным кроку. Перападае, кажуць, і пільным наглядчыкам за парадкам на вуліцы, і бамбізам-выпівакам, якія дапамагаюць сваім «бабкам» адкідваць убок нечаканых гандляроў-навічкоў, і галубам-вераб'ям, калі нехта не паспее прыкрыць свой куль ад павеву ветру.

Не кажу ўжо пра цэны — пра іх трэба было б яшчэ адну справаздачу пісаць. Тым больш, што гандляваць семкамі я так і не пачаў. Так што прадаць шклянку семак — гэта, вобразна кажучы, аказалася зусім не тое, што семкі лускаць, — умець трэба!!!

**Валянцін НАЛІМАЎ.**




# ФОТАСЛОВА

Яўген ПЯСЕЦКІ

Ці Парыж, ці Нью-Йорк —
Не згадаю,
Адчуваю адно — заблукаў.
Шансанье незнаёма спявае,
Хлеб з чужынскім прысмакам...
Ненаўмысна ваду праліваю —
Нават льецца не так,
Як з далёкіх крыніц,
Дзе навокал суніц
Больш, чым зорак у ліпені свеціць...
Так, відаць, заблукаў...

О, куды завяло ў ліхалецці!
Што за край, што за зманлівы шлях?
Ці ж то наша зямля,
Дзе жабруюць старыя і дзеці?
Ці ж то наша зямля,
Дзе у брата прыцэліўся брат?

То не наша зямля
Парахнее ў труне саркафага,
То не нашы дзяды
Памінальны не ўчуюць псалом,
То не мова мая
Пад ясакам дранцвее ад здрады,
То не сам я
За абрыдлым чужынскім сталом.

Дзе ты, страчаны край?
Ты сыноў заблукаўшых чакаеш,
Як дайсці да цябе
Праз грамы ў халадах і слаце?

За акном шансанье
Незнаёмыя песні спявае,
І ніяк не згадаю,
На якой я жыву шыраце.




*«НАРОД, БЕЛАРУСКІ НАРОД!..»*

Антаніна ХАТЭНКА

# ІХ ГАЛАСЫ КЛІЧУЦЬ НА БАЛЬШАК...

Мне Вербніца пахла сырою зямлёю, нараджэннем гаркава-салодкім пахла. Мне Вербніца пахла вызваленнем ад смерці, цёплай крывінкай зямнога быцця — укрыжаванне балючага ў Любоў.

Мне Вялікдзень пах хлебам, жытам, церпкім зернем пачатку і скону, уваскрасеннем з нябыту-цемры пах. Мне Вялікдзень быў відзён гонарам, ваяром, што адолеў Крыжовы Шлях быцця дзеля ўзнясення да Бога.

Мне Радаўніца пахла кужалем бабулінае кашулі, Памяццю пахла пранізліва. Мне Радаўніца — як павяртальная Дарога, белая, як застарэлы шнар.

*Смерць шалёна волатаў касіла.*
*Ды ўставаў світальны маладняк...*
*Веснавейна дыхаюць з магілаў,*
*узыходзяць жывадзейнай сілай*
*продкі нашы — прадчуванне дня.*

Падзячна-расхрыстана ўкленчвала я на пагосце радаўнічным, намацваючы сэрцам трапяткі ніт чуйнасці, наструнены ад продкаў да мяне, а праз мяне — у зоркавую бясконцасць. Таму адчыняю веснічкі свае долі на павітанне з гісторыяй, што дыхае вольнымі грудзьмі кладоў. Таму слухаю вярбінку-антэну, што ловіць хвалі прарадзімнае Любові і Спагады, каб дужэць і яснець відушча тут, на Айчыне, дзе хадзілі ды выўзорвалі сляды-прыкмеціны духоўныя, вышныя, прародзічы мае, слынныя і не надта, гордыя і рахманыя, мужныя і сарамяжна-тутэйшыя, але непадменныя, адзіныя мае вытокі. Слухаю-ўслухоўваюся, і мне дае адказ Бацькаўшчына — подыхам зямлі, што прыняла ва ўлонне маўклівае папярэднікаў нашых, шэптам зямлі, што замаўляе-замольвае нас, наступнікаў, не прамінаць клады на ўзлёце Аднаўлення...

Мне дае адказ мой нягасны народ, што блудзіць на эравых памежжах разгубленым падарожнікам, шукаючы прыстанку песні сваёй і сваёй мове — выгнанніцам на родных гонях. Мне дае адказ Дрэва Вечнае, узгаданае-раскроненае ў Сусвет імёнамі мысляроў і майстроў крывіцкіх, ліцвінскіх, імёнамі асветнікаў і абаронцаў нашых, моцаю думаў Скарынавых, Купалавых, Багдановічавых. Мне дае адказ, мне гаворыць Вечнасць, у якой мы яшчэ не згубіліся, не зніклі, маем сваю адметнасць і сваіх, чутных усяму свету прамоўцаў.

Асвячоны Вербны Шлях прывёў мяне да Храма, нікому не бачнага, але ўсімі шуканага — да Храма, збудаванага Памяццю продкаў, да Храма нашага адзінства з Духам тых, хто жыў і дзеіў на зямлі айчыннай. Адсюль, з Храма, узнесенага Памяццю, калышацца велічны голас званоў урачыстых і жальных, адсюль прылятаюць пад страху Беларусі нястомныя птахі надзеі. І сюды памкнёныя мы ў тварэнні саміх сябе ды нашае Радзімы. З алтара гэтага найсвяцейшага ў свеце Храма клічуць нас на бальшак гістарычны паважныя нашыя прарокі і правідцы. Тут чыніцца Сяўба нашая і нашае Жніво — расце, мужнее спракаветнае святло Душы чалавечай — жыта ўсіх пакаленняў усходнае... І ступаюць прачула па бацькоўскай зямельцы карані нашыя нязгаслыя — Паэты, прысланыя некалі Богам ратаваць і засланяць, бачыць пранікнёна і весці, стацца сэрцам свайго народа, застацца над Краем празрыстым покрывам заступніцтва ды любові.

І ўслухоўваючыся ў таемныя, спавядальныя галасы Дзядоў, папярэднікаў нашых, я зліваюся з Народам — найпершым апірышчам і падмогай адзінай нашым самотным Душам-прышэльцам. Я ўзлятаю да неба і глыбею ў дол, адчуваю трымценне прасторы наўкол і бег часу — ператвараючыся ў яскрынку ўсяленскага быцця, без якое не жыў бы святарны агонь колазвароту касмічнага. Цяпер я ведаю: народ мой — творца сусветнае гармоніі, народ мой — плодная галінка на Дрэве Вечнасці. Цяпер я ўсклікваю гаркотна-прасветлена ўслед за Багдановічам: «Народ, Беларускі Народ!» і веру: зажураная мая Краіна чуе Максімаў боль і Максімаву трывогу. Чуе і горда раскрывае плечы настрэчу будучыні. Душа паўстае са змарнелага цела нашае змучанае, скрыжаванае гісторыі і ўзлятае да лучання з продкамі. І поруч са мной, поруч з маім усёдаравальным народам ідуць-ідуць узрадаваныя павяртаннем Дзяды. У напятай цішыні пагосту чутны мужныя Купалавы словы:

*А хоць дасць мне доля ў дамавіне месца, —*
*Устане цень з зямлі мой, на крыж абапрэцца.*
*І ў той бок глядзеці будзе век нязводна,*
*Дзе ляжаць загоны Беларусі роднай!*

...Разнявольваецца сцятая болем нацыянальная памяць — і ўспыхвае памінальная свечка, асвятляючы вякі і цямніцы-жальнікі, што прыгарнулі нявінных ахвяраў чужынскіх рэжымаў ды нашае пакоры. І падаюць кроплі свечкавыя, як падалі падсечаныя вяццінi майго балеснага Краю — у нябыт, з якога выпнуцца паратункавай ніткою крэўнасці. Падаюць знічкі свечкавыя, як слязіны згвалчанай Рагнеды, павешанага Кастуся, забітых, падманутых, прыніжаных тысячаў маіх айчыннікаў. Падаюць кроплі белакроўнымі крывінамі Чарнобылю і бунтоўнымі яскрамі Курапатаў. Падаюць і згараюць лёсы — урок нам суровы і маленне. Падаюць і ўздымаюцца да новае Дарогі светлавыя зернейкі нашае долі, беларускае.

*Нас трамбавалі ў цёмныя равы.*
*Пяском калючым засыпалі вочы.*
*Мы прараcталі дзідамі травы.*
*Сцякалі мы жывіцай у падсочку.*

*Крывёю захлыналася зямля,*
*ахвяр начы прымаючы ў сутонне.*
*Наступнікі! Вам цяжка адбаляць*
*сцяжыны заламаныя пад поўняй.*

*Гудуць хваіны ў лесе? Ці сурма*
*здарожана пад ветахам галосіць?*
*Мы з вамі ёсць? Ці нас даўно няма?*
*І толькі вецер плача над калоссем.*

*Нашчадкі нашы! Святладайны род!*
*Замольваем з-пад шыбеніцы веку:*
*каб парасткі пачулі сонцавод,*
*засейце праўдай існыя палеткі.*

*Ды запалеце свечку на памін:*
*агонь-ахвярнік выграе паветра.*
*...Край, дараванне нашае прымі —*
*спакоем дыхае зямная нетра.*

**Вядучы рубрыкі Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

## Цытата рубрыкі:

*«Больш за паўстагоддзя спатрэбілася, каб сказаць хоць на помніку праўду пра адданейшага сына беларускага народа — Аляксандра Рыгоравіча Чарвякова. Нават пасля вайны з глухіх палескіх вёсак часам прыязджалі ў сталіцу пакрыўджаныя людзі і дапытваліся, як ім трапіць да Чарвякова. «Дасціпнікі» раілі ім ісці на Вайсковыя могілкі.*

*Вось і я часта прыходжу сюды, каб пакланіцца памяці выдатных сыноў нашай зямлі, і загадкай застаюцца гвалтоўная смерць Ігнатоўскага, смерці Чарвякова і Купалы. А колькі раскіданых на прасторах былога Саюза нязнойдзеных, неаплаканых, неўшанаваных магіл лепшых з лепшых сыноў нашай зямлі! Каля кожнага горада, гарадка, раёна ёсць свае «Курапаты». (...) Колькі іх, зараўняных, заараных, заасфальтаваных, зарослых лесам, забудаваных мікрараёнамі, патаемных, схаваных ад народа магіл! Дзеці і ўнукі шукаюць іх і не знойдуць ніколі.*

*Цяпер увесь свет ведае Курапаты. А колькі іх, Курапатаў, ад Брэста да Калымы?!»*

9.XII-94 г.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

***Мае Дзяды і Радаўніцы. Рэквіем па дарагіх і незабыўных.***

*Часопіс «Полымя», люты 1996 г.*

# З днём нараджэння, Дзядуля!

Маленькі чалавек трымае ў руках кніжку з вялікімі літарамі і яркімі малюнкамі. Ён упершыню самастойна, без бацькоў і настаўніцы з цікавасцю складае чорныя знакі ў знаёмыя словы... Ад таго, пра што напісана ў той першай пасля буквара кніжцы, многае будзе залежаць у жыцці гэтага дзіцяці.

Але можна з упэўненасцю сказаць: малому пашанцавала, калі аўтар яго першай чытанкі Васіль Вітка. Ці не кожны з нас памятае з далёкага-далёкага дзяцінства колькі радкоў з якой-небудзь прыгожай вершаванай казкі ці кароценькага вершыка паэта. Яго кніжкі, напісаныя для дзяцей, прасякнуты любоўю да малых і (і гэта самае галоўнае!) разуменнем і прыняццем іх светаўспрымання.

Сягоння Васіль Вітка святкуе сваё 85-годдзе. Нягледзячы на ўзрост, Цімафей Васільевіч працягвае плённа працаваць: у мінулым годзе пабачыла свет яго новая кніжка «Дом, дзе жывуць словы (слоўнік народнай мовы для дзяцей)» — яшчэ адзін цудоўны падарунак для маленькіх чытачоў. Вершы ж, што «Звязда» сёння друкуе, — адны з апошніх, разлічаныя на дарослага чытача.

Адзін з іх — прысвячэнне Янку Купалу, з якім паэт быў знаёмы і лічыць галоўным сваім настаўнікам. Другі — прысвячэнне дзесяцігоддзю аварыі на ЧАЭС, гэта дата супала сёлета са стагоддзем з дня смерці Альфрэда Нобеля, буйнейшага вытворца зброі, які, стараючыся загладзіць віну перад чалавецтвам, пакінуў пасля сябе небезвядомую прэмію...

Яшчэ светлыя думкі, яшчэ пішуцца вершы... Хай яно так будзе і далей. І яшчэ доўга. Вашы малыя і дарослыя ўжо чытачы жадаюць вам гэтага, шаноўны Цімафей Васільевіч, ад шчырага сэрца і чакаюць ад вас новых цікавых твораў.

Васіль ВІТКА

## *НА ПАЭТАВЫМ ХАЦІШЧЫ*

*Яны тут усім сваякі,*
*Жаданыя госці музея,*
*Штолетнія самасеі —*
*Самотныя васількі,*

*Тыя, што і ў апошні шлях,*
*Сабраныя раніцай золкай,*
*Беларускаю перапёлкай*
*Пакладзеныя ў галавах.*

*І як жа нам горка пачуўся,*
*Запісаны ў вечны пергамент,*
*Апошні паэтаў тастамант:*
*Сняцца мне сны аб Беларусі.*

*Сняцца яму і дагэтуль сны,*
*Хоць навокала бронзавага*
*Столькі раскошы рознае*
*Самай высокай цаны:*

*Ружы, гартэнзіі, лілеі,*
*Цыніі, гліцыніі, цюльпаны.*
*— Якія да нашай кампаніі*
*Прэтэнзіі ў вас, самасеі?*

*— Ніякіх, мы — хадакі,*
*Шукальнікі долі лепшае,*
*Мясцовыя мы, тутэйшыя,*
*Паэтавы землякі.*

## *АДЧАЙ ЧАРНОБЫЛЯ*

*Крычма крычыць*
*У адчаі Чарнобыль:*
*— Хто дапаможа*
*Смяротна хвораму?*

*Дзе ты, Альфрэдзе,*
*Мой новы Нобель,*
*Хросны айцец*
*Дынаміту і пораху?*

*Роўна сто год,*
*А ты ўсё каешся.*
*Замольваеш*
*Недаравальнае зло.*

*Сумленне,*
*Нібыта, верх узяло,*
*А ў свеце пабольшала*
*Зла яшчэ.*

*Праклятыя,*
*Што абяцалі дабро,*
*А расшчапілі*
*Смерці ядро,*

*Геніі цьмы*
*Ніколі не возьмуць віны,*
*Пакуль не пагінуць*
*Самі яны.*

## ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### Аб становішчы спраў у аграпрамысловым комплексе і шляхах выхаду з крызісу

Заслухаўшы даклад прэм'ер-міністра, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь адзначае, што сельская гаспадарка, аграпрамысловы комплекс у цэлым знаходзяцца ў крызісным стане. Пад пагрозу зрыву пастаўлена якаснае правядзенне веснавой сяўбы, што можа выклікаць цяжкасці з забеспячэннем насельніцтва прадуктамі харчавання.

У мэтах стабілізацыі становішча ў аграпрамысловым комплексе Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Лічыць важнейшай прычынай крызіснага стану аграпрамысловага комплексу нездавальняючую работу Кабінета Міністраў, кіруемых ім галіновых міністэрстваў і ведамстваў, якая выяўляецца ў:

недаацэнцы ролі і месца сельскай гаспадаркі і аграпрамысловага комплексу ў сацыяльным і эканамічным развіцці краіны;

сістэматычным невыкананні артыкула 17 («Эквівалентны тавараабмен») Закона Рэспублікі Беларусь «Аб прыярытэтным сацыяльна-культурным і эканамічным развіцці сяла і аграпрамысловага комплексу», што прывяло да непарытэту цэн на прамысловую і сельскагаспадарчую прадукцыю ў памеры 26,4 трыльёна рублёў;

адсутнасці Дзяржаўнай праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця сяла.

2. Прапанаваць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь даручыць Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь разгледзець пытанні:

прыняцця экстранных мер па забеспячэнню сельскай гаспадаркі ўсімі неабходнымі рэсурсамі для правядзення веснавой сяўбы на высокім агратэхнічным узроўні;

неабходнасці распрацоўкі і зацвярджэння да 1 студзеня 1997 года Дзяржаўнай праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця сяла і да 1 верасня 1996 года падрыхтоўкі праекта Закона Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўным рэгуляванні аграпрамысловага комплексу», прадугледзеўшы праграму дзяржаўнай фінансавай палітыкі забеспячэння дзейнасці аграпрамысловага комплексу, метады і механізмы ажыццяўлення гэтай палітыкі, у першую чаргу ў частцы адаптацыі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў да рынachных умоў;

магчымасці адтэрміноўкі да 1 студзеня 1997 года плацяжоў па запазычанасці (з улікам пені і штрафаў) калгасаў, саўгасаў і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, а таксама іншых прадпрыемстваў і арганізацый аграпрамысловага комплексу перад дзяржаўнымі паліўна-энергазабяспечваючымі арганізацыямі за газ, электрычную і цеплавую энергію, якая лічыцца за імі па стану на 1 лютага 1996 года, а таксама адтэрміноўкі да 2005 года пагашэння запазычанасці калгасаў, саўгасаў, сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, іншых сельскагаспадарчых фарміраванняў, прадпрыемстваў і арганізацый аграпрамысловага комплексу, што абслугоўваюць сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, па плацяжах у бюджэт, у пазабюджэтныя фонды, за выключэннем плацяжоў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь, па вяртанню таварнага крэдыту, якая лічыцца на 1 красавіка 1996 года;

распрацоўкі мер падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі, якія ажыццяўляюць вытворчую дзейнасць у горшых прыродна-эканамічных умовах, а таксама буйных жывёлагадоўчых комплексаў і птушкафабрык, ажыццяўлення мер эканамічнай абароны айчынных таваравытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі і харчавання.

3. Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусь разгледзець пытанні аб:

пагашэнні запазычанасці калгасаў, саўгасаў, сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, іншых сельскагаспадарчых фарміраванняў па крэдытах банкаў, якая лічыцца за імі па стану на 1 красавіка 1996 года;

умовах і парадку штогадовага выдзялення банкамі на доўгатэрміновае крэдытаванне затрат сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, звязаных з будаўніцтвам, набыццём сельскагаспадарчай тэхнікі і фарміраваннем асноўнага статка, не менш 25 працэнтаў ад агульнага аб'ёму ўсіх крэдытных рэсурсаў, а таксама аб умовах і парадку крэдытавання сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, што прадугледжваюць прымяненне зніжаных працэнтных ставак за карыстанне крэдытамі;

адмене ў адносінах да Аграпрамбанка абмежавання прыцягваемага міжбанкаўскага крэдыту памерам уласнага капіталу. Ажыццявіць кансалідацыю крэдытных рэсурсаў усіх банкаў пад сваю гарантыю ў Аграпрамбанку для правядзення пасяўных і ўборачных работ, нарыхтоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі;

устанаўленні парадку разлікаў, пры якім плацяжы за пастаўленую сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі прадукцыю праводзяцца ў другую чаргу, пасля ўнясення плацяжоў у бюджэт і ў пазабюджэтныя фонды.

Сумесна з Аграпрамбанкам вывучыць пытанне аб магчымасці змяншэння памеру працэнтных ставак па пратэрмінаваных крэдытах, прадастаўленых калгасам, саўгасам і іншым сельскагаспадарчым прадпрыемствам у 1994 — першай палове 1995 года.

4. Прасіць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь разгледзець пытанне аб аднаўленні правоў уласнікаў на кааператыўна-калгасную маёмасць, якая знаходзіцца на балансе Беларускага рэспубліканскага кааператыўна-дзяржаўнага аб'яднання па сельскаму будаўніцтву.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

*3 мая 1996 г., г.Мінск. № 242-XIII*

## ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Палажэнне аб памочніку-сакратару народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Унесці ў Палажэнне аб памочнікусакратару народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь, зацверджанае Пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 7 лютага 1991 года (Ведамасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, 1991 г., №11, арт.124), наступныя змяненні і дапаўненні:

1. Дапоўніць пункт 6 часткай трэцяй наступнага зместу:

«Дапускаецца таксама прыём на работу аднаго памочніка-сакратара дэпутата распараджэннем Начальніка Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. У гэтым выпадку аплата працы памочніка-сакратара ажыццяўляецца Сакратарыятам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з фонду заработнай платы для памочніка-сакратара. У штат работнікаў Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ён не ўключаецца».

2. Пункт 8 выкласці ў новай рэдакцыі:

«8. Агульны месячны фонд заработнай платы памочніка-сакратара ўстанаўліваецца ў размеры службовага акладу спецыяліста I катэгорыі Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Калі памочнік-сакратар з'яўляецца пенсіянерам, яму захоўваецца пенсія ў поўным размеры».

3. У пункце 15 словы «ў канцы года» замяніць словам «штоквартальна».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

*3 мая 1996 г., г.Мінск. № 243-XIII*

## У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Кабінет Міністраў прыняў пастанову аб падрыхтоўцы і правядзенні ў 1999 годзе чарговага перапісу насельніцтва нашай рэспублікі.

Гэтай жа пастановай у мэтах выканання Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5 лютага 1996 г. № 47 «Аб правядзенні ў 1999 годзе перапісу насельніцтва Рэспублікі Беларусь» зацверджана Рэспубліканская камісія садзейнічання перапісу насельніцтва на чале з намеснікам прэм'ер-міністра Сяргеем Лінгам.

Адначасова Міністэрству статыстыкі і аналізу, міністэрствам, дзяржаўным камітэтам і іншым цэнтральным органам кіравання, мясцовым выканаўчым і распарадчым органам зроблены канкрэтныя даручэнні па падрыхтоўцы, арганізацыі і паспяховаму правядзенню гэтага адказнага мерапрыемства.

* * *

Кабінет Міністраў прынятай пастановай зацвердзіў Палажэнне аб парадку стварэння адкрытых акцыянерных таварыстваў у працэсе прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці.

Міністэрству па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі па ўзгадненню з міністэрствамі экономікі, фінансаў, юстыцыі даручана ва ўстаноўленым парадку распрацаваць і зацвердзіць парадак стварэння камісіі па пераўтварэнню прадпрыемства, галіновай камісіі і камісіі па прыватызацыі, ствараемай Міністэрствам па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі ці яго тэрытарыяльным органам, вызначыць іх функцыі і састаў, а таксама патрабаванні да распрацоўкі, узгаднення і зацвярджэння праектаў дакументаў па стварэнню адкрытага акцыянернага таварыства ў працэсе прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці.

Пастановай устаноўлена, што памер статутнага фонду адкрытага акцыянернага таварыства, ствараемага ў працэсе прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці, вызначаецца па балансу на 1 студзеня 1996 года.

Гэтай жа пастановай рэкамендавана абласным і Мінскаму гарвыканкомам устанавіць парадак стварэння камісій, вызначэння іх функцый, а таксама распрацоўкі праектаў дакументаў па стварэнню адкрытых акцыянерных таварыстваў у працэсе прыватызацыі камунальнай уласнасці.

Унесены ў пералік паслуг, якія аказваюцца Інспекцыяй па каштоўных паперах Міністэрства фінансаў, і памераў платы за гэтыя паслугі, зацверджаны пастановай Кабінета Міністраў ад 22 студзеня 1996 г. № 54 «Аб зацвярджэнні пераліку паслуг, якія аказваюцца Інспекцыяй па каштоўных паперах Міністэрства фінансаў, і памераў платы за гэтыя паслугі», наступныя змяненні:

абзац другі пункт 1 дапоўнены словамі: «акцый адкрытых акцыянерных таварыстваў, створаных у працэсе прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці, у тым ліку з удзелам іншых заснавальнікаў»;

пункт 1 дапоўнены абзацам наступнага зместу:

«акцый адкрытых акцыянерных таварыстваў, не спаганяецца»

створаных у працэсе прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці, у тым ліку з удзелам іншых заснавальнікаў

Прызнана страціўшай сілу Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 16 жніўня 1993 г. № 552 «Аб зацвярджэнні Палажэння аб парадку пераўтварэння ў працэсе прыватызацыі дзяржаўных і арэндных прадпрыемстваў у адкрытыя акцыянерныя таварыствы».

* * *

Кабінет Міністраў у мэтах выканання Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 2 лютага 1996 г. №45 «Аб дзяржаўным рэгуляванні вытворчасці, рэалізацыі, захоўвання алкагольных і тытунёвых вырабаў» прынятай пастановай зацвердзіў прыкладаемы Парадак вядзення спецыяльнага Дзяржаўнага рэестра суб'ектаў гаспадарання, якім выдадзены спецыяльныя дазволы (ліцэнзіі) на вытворчасць і рэалізацыю, а таксама захоўванне (як від гаспадарчай /прадпрымальніцкай/ дзейнасці) алкагольных і тытунёвых вырабаў.

Гэтай жа пастановай Міністэрству сельскай гаспадаркі і харчавання, Міністэрству гандлю, раённым і гарадскім выканаўчым камітэтам даручана своечасова прадстаўляць Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь звесткі аб суб'ектах гаспадарання, якім выдадзены спецыяльныя дазволы (ліцэнзіі) на вытворчасць і рэалізацыю, а таксама захоўванне (як від гаспадарчай/ прадпрымальніцкай/ дзейнасці) алкагольных і тытунёвых вырабаў.

* * *

Кабінет Міністраў прыняў пастанову аб вызваленні ўладальнікаў і карыстальнікаў легкавых аўтамабіляў, у тым ліку з прычэпамі, зарэгістраваных у Калінінградскай вобласці Расійскай Федэрацыі, ад выплаты збору, за праезд гэтых аўтамабіляў праз тэрыторыю нашай рэспублікі па аўтамабільных дарогах агульнага карыстання.

* * *

Кабінет Міністраў у мэтах упарадкавання выплаты кампенсацыі за карыстанне жылымі памяшканнямі па дагавору найму або паднайму прыняў пастанову аб унясенні змянення ў раней прынятую ім пастанову ад 26 студзеня 1996 года № 66.

Так, пункт 1 Пастановы Кабінета Міністраў ад 26 студзеня 1996 г. № 66 «Аб памерах фінансавай кампенсацыі ваеннаслужачым акрамя ваеннаслужачых тэрміновай службы), асобам начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў і пракурорскім работнікам, якія займаюць жылыя памяшканні па дагавору найму або паднайму» выкладзены ў наступнай рэдакцыі:

«1. Выплачваць з 1 снежня 1995 года ваеннаслужачым (акрамя ваеннаслужачых тэрміновай службы), асобам начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў, пракурорскім работнікам, якія займаюць жылыя памяшканні па дагавору найму і паднайму, да атрымання жылой плошчы для пастаяннага пражывання або службовай жылой плошчы за кошт сродкаў Міністэрства абароны, Міністэрства ўнутраных спраў і іншых цэнтральных органаў кіравання, якія маюць воінскія фарміраванні, Пракуратуры грашовую кампенсацыю ў памерах згодна з дадаткам».

**Прэс-служба Кабінета Міністраў -- БЕЛТА.**

## ІМЕМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## ЗАКЛЮЧЭННЕ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь распараджэння Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 29 снежня 1995 г. № 259 рп «Аб захаванні нормаў указаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь»

Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь у саставе старшынствуючага — старшыні Канстытуцыйнага суда Ціхіні В. Г., намесніка старшыні суда Фадзеева В. А., суддзяў Васілевіча Г. А., Кенік К. І., Пастухова М. І., Падгрушы В. В., Цішкевіча С. І., Філіпчык Р. І.

з удзелам эксперта Леўшунова С. Е. — галоўнага эксперта-каардынатара навуковага напрамку Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход—Захад», кандыдата юрыдычных навук

разгледзеў у адкрытым судовым пасяджэнні справу «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь распараджэння Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 29 снежня 1995 г. № 259 рп «Аб захаванні нормаў указаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».

У судовым пасяджэнні прынялі ўдзел:

Царэнка Е. М. — намеснік старшыні Вярхоўнага суда;

Сашчэка І. Ф. — намеснік Генеральнага пракурора;

Бачкова Г. В. — намеснік міністра юстыцыі.

Вытворчасць па справе ўзбуджана Канстытуцыйным судом 25 сакавіка 1996 г. па ўласнаму меркаванню на падставе часткі другой артыкула 127 Канстытуцыі, часткі другой артыкула 5 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь».

Пунктам 1 распараджэння Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 29 снежня 1995 г. № 259 рп «Аб захаванні нормаў указаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь» Кабінету Міністраў і іншым дзяржаўным органам прадпісана да ўнясення змяненняў у адпаведныя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь забяспечыць безумоўнае захаванне нормаў наступных указаў Прэзідэнта: ад 12 ліпеня 1995 г. № 267 «Аб удакладненні бюджэту Рэспублікі Беларусь на 1995 год і часовых мерах па скарачэнню бюджэтных расходаў»; ад 8 жніўня 1995 г. № 299 «Аб зацвярджэнні Палажэння аб парадку выдачы дыпламатычных і службовых пашпартоў грамадзянам Рэспублікі Беларусь»; ад 21 жніўня 1995 г. № 336 «Аб некаторых мерах па забеспячэнню стабільнасці і правапарадку ў Рэспубліцы Беларусь»; ад 1 верасня 1995 г. № 349 «Аб упарадкаванні некаторых ільгот для асобных катэгорый грамадзян»; ад 1 верасня 1995 г. № 350 «Аб некаторых пытаннях рэгулявання працоўнай дзейнасці і пенсіённага забеспячэння грамадзян»; ад 19 верасня 1995 г. № 383 «Аб правядзенні рэформы органаў мясцовага кіравання і самакіравання»; ад 27 лістапада 1995 г. № 481 «Аб зацвярджэнні прыкладнай структуры мясцовых адміністрацый у раёнах гарадоў»; ад 30 лістапада 1995 г. № 485 «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Часовае палажэнне аб мясцовай адміністрацыі». Персанальная адказнасць за захаванне нормаў пералічаных указаў ускладзена распараджэннем на кіраўнікоў указаных органаў.

Пунктам 2 распараджэння Адміністрацыі Прэзідэнта даручана забяспечыць выданне зборніка дзеючых указаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Выслухаўшы эксперта, вывучыўшы матэрыялы справы, прааналізаваўшы палажэнні Канстытуцыі, законаў і іншых нарматыўных актаў, Канстытуцыйны суд устанавіў наступнае.

Згодна з артыкулам 7 Канстытуцыі дзяржава, усе яе органы і службовыя асобы звязаны правам, дзейнічаюць у межах Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасці з ёю законаў. Прававыя акты або іх асобныя палажэнні, прызнаныя ва ўстаноўленым парадку супярэчнымі палажэнням Канстытуцыі, не маюць юрыдычнай сілы.

Артыкулам 15 Закона «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь» прадугледжана, што Прэзідэнт ажыццяўляе свае функцыі ў рамках Канстытуцыі, гэтага закона, іншых законаў Рэспублікі Беларусь і нясе адказнасць за правільнасць і паўнату іх рэалізацыі перад грамадзянамі Рэспублікі Беларусь у сферах дзейнасці дзяржавы, аднесеных да яго кампетэнцыі.

Згодна з артыкулам 30 Закона «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь» Прэзідэнт выдае ў межах сваіх паўнамоцтваў на падставе і ў выкананне Канстытуцыі, законаў і пастаноў Вярхоўнага Савета ўказы і распараджэнні, кантралюе іх выкананне. Указы і распараджэнні Прэзідэнта не павінны супярэчыць Канстытуцыі, законам і міжнародна-прававым актам, ратыфікаваным Рэспублікай Беларусь, пастановам Вярхоўнага Савета, не могуць іх дапаўняць або змяняць. Указы і распараджэнні Прэзідэнта, прызнаныя ва ўстаноўленым законам парадку не адпаведнымі Канстытуцыі, законам і міжнародна-прававым актам, ратыфікаваным Рэспублікай Беларусь, не маюць юрыдычнай сілы.

Кантроль за канстытуцыйнасцю нарматыўных актаў у дзяржаве, згодна з артыкулам 125 Канстытуцыі, ажыццяўляецца Канстытуцыйным судом.

Указы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, пералічаныя ў распараджэнні ад 29 снежня 1995 г., разглядаліся Канстытуцыйным судом і былі прызнаны поўнасцю або часткова не адпаведнымі Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь (заключэнні Канстытуцыйнага суда ад 5 кастрычніка 1995 г., 3 лістапада 1995 г., 8 лістапада 1995 г., 26 снежня 1995 г., 27 кастрычніка 1995 г. і 11 снежня 1995 г.).

Артыкул 10 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь» устанаўлівае, што рашэнні Канстытуцыйнага суда, прынятыя ў межах яго кампетэнцыі, абавязковыя для выканання на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь усімі дзяржаўнымі органамі, прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі, службовымі асобамі і грамадзянамі.

У адпаведнасці з артыкулам 129 Канстытуцыі і артыкулам 38 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь» заключэнні Канстытуцыйнага суда з'яўляюцца канчатковымі, абскарджанню і апратэставанню не падлягаюць.

У сувязі з гэтым Канстытуцыйны суд прыходзіць да высновы, што пункт 1 распараджэння Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 29 снежня 1995 г. № 259 рп «Аб захаванні нормаў указаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь» у частцы, якая прадпісвае дзяржаўным органам забяспечыць безумоўнае захаванне нормаў указаў, прызнаных ва ўстаноўленым законам парадку неканстытуцыйнымі і не маючымі юрыдычнай сілы, не адпавядае артыкулам 7, 129 Канстытуцыі, артыкулам 15, 30 Закона «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь» і артыкулам 10, 38 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь».

Акрамя таго, суд адзначае, што на заканадаўчым узроўні не вызначана, у якіх выпадках Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь мае права ажыццяўляць свае паўнамоцтвы шляхам выдання ўказаў, а ў якіх выпадках — распараджэнняў, як гэта зроблена ў адносінах да актаў Вярхоўнага Савета і Кабінета Міністраў.

На падставе выкладзенага і кіруючыся артыкуламі 127, 128, 129 Канстытуцыі, артыкуламі 5, 36, 38, 40, 43 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь», Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь

ВЫРАШЫЎ:

1. Прызнаць не адпаведнымі Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пункт 1 распараджэння Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 29 снежня 1995 г. № 259 рп «Аб захаванні нормаў указаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь», у частцы, у якой прадпісваецца дзяржаўным органам забяспечыць безумоўнае захаванне нормаў указаў, прызнаных ва ўстаноўленым законам парадку неканстытуцыйнымі і не маючымі юрыдычнай сілы.

Лічыць гэта распараджэнне ў гэтай частцы не маючым юрыдычнай сілы з моманту яго выдання.

2. Прапанаваць Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь разгледзець пытанне аб размежаванні на заканадаўчым узроўні сфер прававога рэгулявання грамадскіх адносінаў указамі або распараджэннямі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

3. Апублікаваць гэта Заключэнне ў дзесяцідзённы тэрмін з дня прыняцця ў «Народнай газеце», «Звяздзе», а таксама ў «Ведамасцях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» і тых выданнях, дзе было апублікавана распараджэнне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 29 снежня 1995 г. № 259 рп «Аб захаванні нормаў указаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».

4. Гэта Заключэнне ўступае ў сілу з дня прыняцця, з'яўляецца канчатковым, абскарджанню і апратэставанню не падлягае.

**Старшынствуючы — старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь В. Г. ЦІХІНЯ.**

*29 красавіка 1996 г., г. Мінск. № 3-35/96.*

*ФЕСТЫВАЛІ*

## МУЗЫКА ВАБІЛА Ў ЗАМАК РАДЗІВІЛА

Ёсць на нашай зямлі месца, дзе перасякаюцца часы, а сучаснасць нібыта прарастае скрозь мінулае. Цені былых жыхароў замкаў паглядаюць на цяперашніх наведвальнікаў Нясвіжа, прыслухоўваюцца да сённяшніх гаворак, каб супакоіць душу: усё добра тут і зараз.

Але што ўзрадавала б былых гаспадароў старажытнага Нясвіжа? Нешта вельмі знаёмае, роднае, забытае. Сёння тут гучыць тая музыка, якой некалі вельмі ўтульна было ў гэтых сценах. Сёння тут пануе дух культуры старажытнай Беларусі.

16 мая ў Нясвіжы пачнецца першы фестываль камернай музыкі. За тры дні разам з музыкантамі Дзяржаўнага канцэртнага аркестра мы трапім у цудоўны свет, дзе творы, што гучалі на нашай зямлі раней, цудоўна ўжываюцца з музычным мастацтвам сучаснай Беларусі. Тут хопіць месца музыцы Мацея Радзівіла, Яна Голанда, Агінскага, Глінкі і творам нашых сучаснікаў Ігара Паліводы, Уладзіміра Солтана, Дзмітрыя Смольскага, Яўгена Глебава. Загучыць зноў музыка, якая была забыта ці амаль не гучала, некаторыя кампазіцыі будуць выконвацца першы раз. Пакуль будзе гучаць музыка, навукоўцы збяруцца на канферэнцыю «Мастацкая культура Нясвіжа: гісторыя і сучаснасць», якую ладзіць інстытут праблем культуры. Пройдзе выстаўка народнага мастака Беларусі Уладзіміра Стэльмашонка «Партрэты дынастыі Радзівілаў».

Такім чынам, да ліку фестывальных гарадоў Беларусі можна аднесці цяпер і Нясвіж — дзякуючы Канцэртнаму аркестру Беларусі, дзе нарадзілася ідэя фестывалю.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## УКРАІНСКАЯ ПЕСНЯ Ў МІНСКУ

11-12 мая ў Мінску ў памяшканні філармоніі і на пляцоўках парка імя Горкага прайшоў Другі песенны фестываль украінцаў Беларусі. У ім прынялі ўдзел каля паўсотні самадзейных выканаўцаў папулярных і ў нас украінскіх песень з Мінска; Брэста, Кобрына, Маладзечна, Гомеля і іншых мясцін Беларусі, а таксама госці (прафесіяналы і аматары) з Украіны. Завітаўшы на гэты фестываль, вядомы беларускі паэт Сяргей Грахоўскі зазначыў, што ён звычайна ніколі не мінае магчымасці паслухаць украінскія песні, але на гэты раз украінская дыяспара ў Беларусі здолела арганізаваць у Мінску сапраўднае вялікае песеннае свята, што стала неардынарнай культурнай з'явай у нашай сталіцы...

Арганізатарам гэтага свята стаў Цэнтр украінскай песні «Січ» г. Мінска пры ўдзеле Цэнтра нацыянальных меншасцей Беларусі, Міністэрства культуры і пасольства Украіны ў Беларусі. Паводле ацэнак зацікаўленых назіральнікаў, на гэты раз фестываль украінскай песні выявіў больш высокі арганізацыйны і творчы ўзровень. Яго ўдзельнікі выказвалі пажаданні, каб ён застаўся добрай культурнай традыцыяй у Мінску і надалей.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ВЯРХОЎНЫ СУД НЕ ЗАДАВОЛІЎ КАСАЦЫЙНЫЯ СКАРГІ ТРОХ ЗЛАЧЫНЦАЎ

Судовая калегія па крымінальных справах вышэйшай судовай інстанцыі пакінула без задавальнення касацыйную скаргу саракагадовага палявода з калгаса імя Дзяржынскага Бабруйскага раёна Анатоля Юшкевіча, прыгаворанага да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

Як паведаміў «Інтэрфаксу» прэссакратар Вярхоўнага суда рэспублікі Славамір Антановіч, Юшкевіч быў у калгасе хуліганам і парушальнікам працоўнай дысцыпліны. На зробленую яму ўчастковым інспектарам заўвагу ў сярэдзіне мінулага года калгаснік адказаў тым, што ўдарыў міліцыянера віламі. Першым да месца здарэння падаспеў малады оперупаўнаважаны Генадзь Стральцоў, які знаходзіўся непадалёку. Пры спробе ўвайсці ў двор палявода яго напаткалі два смяротныя ружэйныя стрэлы. Праведзенае пазней расследаванне паказала, што забойца зацягнуў цела міліцыянера за дом, перазарадзіў ружжо і пачаў чакаць іншых «крыўдзіцеляў».

Да дома А. Юшкевіча хутка прыбылі чатыры міліцыянеры. У выніку ўзнікшай перастрэлкі калгасніку ўдалося параніць яшчэ двух міліцыянераў. Адзін атрымаў цяжкае раненне ў жывот, другі — у руку. Паранены быў і сам Юшкевіч.

Адмоўлена ў памілаванні і прыгаворанаму да вышэйшай меры пакарання дваццацігадоваму жыхару Бабруйска Руслану Русакову. Як паведамілі «Інтэрфаксу» ў Вярхоўным судзе, Р. Русакоў, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, сістэматычна скандаліў дома ў прысутнасці малалетняга сына. Такія паводзіны суд некалькі месяцаў назад расцаніў як дастатковую прычыну для скасавання шлюбу Русаковых, аднак Руслан працягваў наведваць сям'ю ў нецвярозым стане. У час аднаго з візітаў ён застаў у кватэры ранейшай жонкі двух сваіх знаёмых. Папракнуўшы жонку ў нявернасці, Р. Русакоў нанёс ёй каля 30 удараў па целе, пасля чаго давяршыў справу ўдарам сталовага нажа ў сэрца. Пры спробе сяброў забраць у злачынцы нож адзін з іх быў смяротна паранены Русаковым, а другі атрымаў больш лёгкае нажавое раненне.

Не задаволіў Вярхоўны суд і скаргу прыгаворанага да выключнай меры пакарання Сяргея Малахоўскага. Паводле слоў кіраўніка прэс-службы, Вярхоўны суд прыйшоў да высновы, што 39-гадовы злачынца, ураджэнец Пермскай вобласці, уяўляе павышаную небяспеку для грамадства...

С. Малахоўскі быў неаднаразова судзімы за згвалтаванне, крадзяжы і хуліганства. У сярэдзіне мінулага года, паводле папярэдняй змовы з адным з сябрукоў, С. Малахоўскі пранік у дом жыхара станцыі Хлусава Аршанскага раёна і ўчыніў разбойны напад на яго. Гаспадара злачынцы збілі, звязалі, скінулі ў падвал і падпалілі дом. Завалодаўшы маёмасцю на суму каля 2 мільёнаў рублёў, злачынцы паспрабавалі схавацца ў Смаленску, дзе і былі затрыманы супрацоўнікамі праваахоўных органаў.

**ІНТЭРФАКС.**

*НАЎЗДАГОН*

## МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ ВЫНОСІЦЬ ПАПЯРЭДЖАННІ

***У сродках масавай інфармацыі ўжо паведамлялася, што на пачатку мая Міністэрства юстыцыі вынесла афіцыйнае папярэджанне Беларускаму народнаму фронту «Адраджэнне» з нагоды парушэнняў гэтай арганізацыяй існуючага Закона Рэспублікі Беларусь «Аб палітычных партыях». Паколькі прыняты Мінюстам дакумент адразу выклікаў шэраг розных і, часта, палярных меркаванняў і каментарыяў, наш карэспандэнт вырашыў звярнуцца па тлумачэнні да першага намесніка міністра юстыцыі Ігара Сцяпанавіча Андрэева.***

**— Перш-наперш хацелася б ведаць дакладна: чым Мінюст матывуе папярэджанне БНФ?**

— Варта нагадаць, што міністэрства павінна займацца не толькі рэгістрацыяй тых ці іншых палітычных партый, грамадскіх арганізацый і прафсаюзаў, але і сачыць за тым, каб усе яны выконвалі ўласныя статуты. Па сутнасці, пасля вядомай пастановы Кабінета Міністраў, летась мы займаліся толькі перарэгістрацыяй, але ўжо з гэтага пачалі займацца непасрэдна кантролем. На жаль, што датычыць канкрэтна БНФ, яго кіраўніцтва доўгі час не прадстаўляла супрацоўнікам міністэрства дакументаў аб дзейнасці партыі. Аднаго гэтага дастаткова, каб вынесці пісьмовае папярэджанне.

Але ў выпадку з Беларускім народным фронтам ёсць яшчэ адна акалічнасць: выкарыстанне гэтай арганізацыяй незарэгістраванай сімволікі. Прычым не толькі ў штаб-кватэры БНФ, але і на масавых мерапрыемствах.

**— А падзеі 24 сакавіка і 26 красавіка?**

— Мы атрымалі інфармацыю з Пракуратуры г. Мінска аб тым, што прадстаўнікі БНФ удзельнічалі ў вядомых падзеях, але даць юрыдычную ацэнку гэтаму мы не можам. Гэтым займаюцца адпаведныя кампетэнтныя органы.

**— Дарэчы, наконт сімволікі. Яшчэ ў 1991 годзе Мінскі гарсавет прыняў рашэнне, якое дазволіла выкарыстоўваць на тэрыторыі горада разам з афіцыйным на той час чырвона-зялёным сцягам і нацыянальную, бела-чырвона-белую, сімволіку. Гэта рашэнне, здаецца, ніхто не адмяняў...**

— Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь прадугледжвае толькі адзін сцяг. У выпадках, калі той ці іншы законны акт супярэчыць Канстытуцыі, мае сілу Канстытуцыя. Інакш мы дойдзем да таго, што ў кожным раёне будзе свой «афіцыйны» сцяг.

**— Але незарэгістраванай сімволікай карыстаецца не толькі БНФ...**

— Сапраўды. Прыгадаем хаця б 1 мая: на мітынг прыйшлі як з бела-чырвона-белымі, так і з чырвонымі, часоў СССР, сцягамі. Таму, як і ў выпадку з Беларускім народным фронтам, мы вырашылі вынесці за карыстанне незарэгістраванай сімволікай пісьмовае папярэджанне і іншым — Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Партыі народнай згоды, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамадзе, Партыі камуністаў, Беларускаму незалежнаму прафсаюзу гарнякоў, Федэрацыі прафсаюзаў.

Апрача таго, мы звярнуліся з пісьмовым паведамленнем да Мінгарвыканкома аб тым, што неабходна навесці парадак пры арганізацыі масавых мерапрыемстваў у сталіцы. Бо дайшло да таго, што сярод афіцыйных удзельнікаў мітынгу 1 мая была не перарэгістраваная Міністэрствам юстыцыі арганізацыя — Свабодны прафсаюз педагогаў.

**— Пісьмовае папярэджанне Мінюста — наколькі гэта сур'ёзна? І які шлях ад папярэджання да забароны дзейнасці той ці іншай арганізацыі?**

— У Законе «Аб палітычных партыях» вызначана, што другое афіцыйнае папярэджанне на працягу аднаго года азначае перадачу матэрыялаў па дзейнасці пэўных партый ці грамадскіх арганізацый з Міністэрства юстыцыі ў Вярхоўны суд, які павінен вырашыць пытанне аб правамоцнасці іх далейшага існавання. Права прадставіць матэрыялы ў Вярхоўны суд, дарэчы, мае таксама і Пракуратура.

**— Тым не менш, апошнія рашэнні Мінюста ў адносінах да палітычных партый шмат кім успрымаюцца адназначна — як пачатак палітычных рэпрэсій...**

— Размовы аб тым, што міністэрства распачынае нейкае «паляванне на ведзьмаў», не маюць пад сабой падставы — мы дзейнічаем строга ў рамках закона.

**Сяргей ГРЫБ.**

*ПОГЛЯД*

## КІРАЎНІКІ «САЛІДАРНАСЦІ» БЫЛІ ЗАТРЫМАНЫ Ў МІНСКУ І ДЭПАРТАВАНЫ З БЕЛАРУСІ

Праграма візіту дэлегацыі вядомага польскага прафсаюза «Салідарнасць» у Беларусь з 13 па 15 мая прадугледжвала, што ў ёй магчымы нейкія змены. Аднак арганізатары гэтага візіту — Свабодны прафсаюз Беларусі — ніяк не маглі дапусціць, што гэтая праграма будзе настолькі радыкальна зменена...

15 мая замест прэс-канферэнцыі прэзідэнта прафсаюза «Салідарнасць» Мар'яна Кшаклеўскага ў рэзідэнцыі СПБ выступілі Генадзь Быкаў і іншыя лідэры Свабоднага прафсаюза. Член савета СПБ Сяргей Абадоўскі заявіў, што яны маюць цесныя сувязі з польскай «Салідарнасцю», супрацоўнічаюць і ў рамках рэгіёнаў, а гэты візіт рыхтаваўся даўно, каля паўгода...

А адбылося наступнае. 14 мая ў 14.55 пасля абеду ў мінскім рэстаране «Патсдам» Мар'ян Кшаклеўскі, а таксама яго асістэнт Я. Пальчынскі, кіраўнік міжнароднага аддзела «Салідарнасці» А. Адамчык і іх вадзіцель В. Мячкоўскі разам з перакладчыкам ад беларускага боку Валерыем Буйвалам былі арыштаваны васьмю аператыўнымі работнікамі ў цывільнай вопратцы, якія прадставіліся супрацоўнікамі МУС. Нягледзячы на пратэсты як польскіх гасцей, так і прадстаўніка СПБ, затрыманыя былі змешчаны ў машыну і дастаўлены ў Партызанскі раённы аддзел унутраных спраў г. Мінска. Польскія госці знаходзіліся там да 20 гадзін. Вусна іх абвінавацілі ў тым, што яны парушылі беларускае заканадаўства: не мелі пры сабе пашпартоў (пашпарты знаходзіліся ў гасцініцы «Планета») і ўдзельнічалі ў несанкцыянíраваным мітынгу. Як патлумачыў Генадзь Быкаў, ніякага мітынгу не было. Проста польскія прафсаюзныя дзеячы сустракаліся з прафсаюзнымі актывістамі Мінскага завода аўтаматычных ліній, а паколькі на самім прадпрыемстве Міністэрствам прамысловасці ім было забаронена прысутнічаць, то сустрэча гэтая прайшла непадалёку ад завода на школьным стадыёне. На МЗАЛе актывістаў прафсаюза «Салідарнасць» сустракаў нарад міліцыі з аўтаматамі, на завод іх не пусцілі, ануляваўшы папярэдне выпісаныя пропускі...

— Польскія госці былі абураныя, але не напалоханыя тым, што адбылося. Яны прайшлі ў свой час праз турмы і рэпрэсіі ў ПНР, — заявілі кіраўнікі Свабоднага прафсаюза Беларусі.

Вечарам 14 мая, паводле інфармацыі Свабодных прафсаюзаў, лідэраў польскай «Салідарнасці» пасадзілі ў машыны і ў суправаджэнні польскага консула дэпартавалі на тэрыторыю Польшчы.

Рэакцыя польскага боку была імгненнай. Яшчэ 14 мая МЗС Польшчы выказала пратэст беларускаму пасольству ў Варшаве. Польскія дыпламаты ўвесь час 14 мая клапаціліся пра лёс сваіх грамадзян. Вялікую рэакцыю незадавальнення гэтая акцыя выклікала ў польскім грамадстве, сярод членаў прафсаюза «Салідарнасць», у СМІ.

Тым часам 15 мая лідэр прафсаюза «Салідарнасць» ужо знаходзіўся ў Беластоку.

15 мая ў пасольстве Рэспублікі Польшча ў Беларусі з нагоды гэтага інцыдэнту была праведзена прэс-канферэнцыя, на якой журналістам быў прадстаўлены тэкст афіцыйнай заявы прадстаўніка прэс-службы МЗС Польшчы. У гэтай заяве, у прыватнасці, зазначаецца: «Выказваючы сваё глыбокае абурэнне, МЗС РП канстатаваў, што дзеянні беларускіх уладаў з'яўляюцца парушэннем прынцыпаў міжнароднага права, свабоды прафсаюзнай дзейнасці, а таксама ўяўляюць сур'ёзную пагрозу для сяброўскіх адносінаў паміж нашымі дзвюма краінамі» МЗС Польшчы чакае адказу на сваю ноту пратэсту і высвятлення ўсіх абставінаў інцыдэнту з боку беларускіх уладаў.

На названай прэс-канферэнцыі прадстаўнікі польскага пасольства выказалі сваё абурэнне тым, што затрыманне польскіх грамадзян рабілася без рэальных на тое падстаў, людзьмі ў цывільнай вопратцы, без захавання адпаведных фармальнасцей, а таксама тым, што службы МУС Беларусі адмаўляліся пацвердзіць факт затрымання. Гэта першы выпадак, калі грамадзяне Польшчы былі аб'яўлены ў Беларусі персонамі нон грата. Тым не менш, нягледзячы на ўсё гэта, прадстаўнік пасольства Марэк Зюлкоўскі зазначыў, што дадзены інцыдэнт не паўплывае на жаданне Польшчы дапамагчы ўступленню Беларусі ў Савет Еўропы. Хаця сама такая пастаноўка пытання можа гучаць і як папярэджанне аб адваротным.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

* * *

У Міністэрстве ўнутраных спраў ніхто не змог даць каментарый па падзеях, якія адбыліся ў аўторак. Адзінае, што ўдалося пачуць, дык гэта тое, што грамадзяне Польшчы парушылі парадак правядзення мітынгаў.

**Ул. кар.**

*МІНІСТЭРСТВА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

## ЗАЯВА ДЛЯ ПРЭСЫ

*Мінск, 15 мая 1996 года*

14 мая Пасольству Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча была ўручана нота Міністэрства замежных спраў Польшчы меўшага месца інцыдэнта, звязанага са знаходжаннем у Мінску дэлегацыі Незалежнага прафсаюза «Салідарнасць».

У гэтай сувязі аддзел друку і інфармацыі Міністэрства замежных спраў заяўляе наступнае:

Польская дэлегацыя прыбыла ў Рэспубліку Беларусь па запрашэнню Беларускага свабоднага прафсаюза. Вядома, што Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь адмовіла прафсаюзу ў перарэгістрацыі яго статута і юрыдычны статус Беларускага свабоднага прафсаюза Вярхоўным судом Рэспублікі Беларусь да гэтага часу не вызначаны. З гэтага вынікае, што візіт прадстаўнікоў «Салідарнасці» ні ў якой меры не насіў афіцыйнага характару.

Затрыманне членаў дэлегацыі прафсаюза «Салідарнасць», якія арганізавалі неўзгодненьы з мясцовымі ўладамі мітынг каля Мінскага завода аўтаматычных ліній, было праведзена органамі ўнутраных спраў у поўнай адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь: удзел замежных грамадзян у арганізацыі і правядзенні несанкцыяніраванага мітынгу з'яўляецца грубым парушэннем артыкула 167 прым. Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.

У адпаведнасці з Законам аб прававым становішчы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства Рэспублікі Беларусь тэрмін знаходжання ў Беларусі М. Кшаклеўскага і яго калег быў скарочаны.

Міністэрства замежных спраў расцэньвае заклікі польскіх грамадзян да арганізацыі процідзеяння законнай уладзе Рэспублікі Беларусь як процізаконную правакацыйную акцыю, якая наносіць страты традыцыйным дружалюбным адносінам паміж нашымі дзяржавамі.

МЗС Беларусі, дзейнічаючы ў духу сапраўднага добрасуседства і імкнучыся не дапусціць канфліктнай сітуацыі, яшчэ да моманту затрымання прыцягнула ўвагу Пасольства Польшчы да ўказаных вышэй абставін. Нягледзячы на гэта, на жаль, Пасольства не прыняло адпаведных крокаў, каб прадухіліць процiпраўныя дзеянні сваіх грамадзян.

15 мая г. г. Часовы паверáны ў справах Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь М. Зюлкоўскі быў выкліканы ў МЗС. Польскаму дыпламату была ўручана нота ў адрас Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Польшча, у якой выказваецца абурэнне беларускага боку недапушчальнымі спробамі ўмяшання ва ўнутраныя справы суверэннай дзяржавы.

## АКЦЫЯ Ў АБАРОНУ ВЯЗНЯЎ

Трэці тыдзень працягваецца галадоўка Юрыя Хадыкі і Вячаслава Сіўчыка, якія абвінавачваюцца ў арганізацыі несанкцыянíраванай уладамі акцыі «Чарнобыльскі шлях-96», у парушэнні артыкула 186-3 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь «Арганізацыя або актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якія парушаюць грамадскі парадак». Нядаўна жонкі галадаючых В. Зімніцкая і Г. Сіўчык наведалі зняволеных і папрасілі іх спыніць галадоўку. Аднак іх мужы адмовіліся гэта зрабіць...

Тым часам у Мінску 14 мая адбылася стыхійная акцыя падтрымкі вязняў, якая сабрала некалькі тысяч беларускіх грамадзян, што патрабавалі вызвалення Юрыя Хадыкі і Вячаслава Сіўчыка. Ніводная з зарэгістраваных у Беларусі партый і грамадскіх аб'яднанняў не захацела ўзяць на сябе адказнасць за яе арганізацыю. Тым не менш, сталіца загадзя была абклеена лістоўкамі з заклікам 14 мая ў 17 гадзін пікетаваць рэзідэнцыю Прэзідэнта. Таксама загадзя, яшчэ з абеду, праваахоўныя органы пачалі ачэпліваць квартал вакол прэзідэнцкай рэзідэнцыі на К. Маркса, 38. Большасць удзельнікаў акцыі не здолелі прайсці за ачапленні і каля гадзіны мітынгавалі ля праспекта Ф. Скарыны. Так склалася, што акцыя праходзіла ў гадавіну рэферэндуму, які летась быў ініцыіраваны Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам. Няма ла было антыпрэзідэнцкіх па накіраванасці лозунгаў. Праваахоўныя органы паводзілі сябе карэктна і зрэдку прапускалі праз ачапленне жыхароў гэтага квартала і людзей, якія мелі квіткі ў Купалаўскі тэатр на драму «Цар Максімільян». Не адбылося ніякіх сутыкненняў і тады, калі непадалёку праехаў прэзідэнцкі картэж.

Без асаблівых сутычак з сіламі аховы правапарадку ўдзельнікі акцыі, якіх налічвалася 2-3 тысячы, змаглі прайсці па тратуарах праспекта Ф. Скарыны да вуліцы Валадарскага, да следчага ізалятара, дзе цяпер знаходзяцца Юрый Хадыка і Вячаслаў Сіўчык. Міліцыя чамусьці дазволіла амаль паўгадзіннае пікетаванне Пішчалаўскага замка, нягледзячы на тое, што падобныя мнагалюдныя акцыі, якія суправаджаюцца выкрыкамі і скандзіраваннем лозунгаў, маглі выклікаць хваляванне сярод вязняў. У рэшце рэшт удзельнікі акцыі разышліся, паслухаўшы міліцыю, якая праз мегафоны паведаміла, што патрабаванні грамадзян будуць прыняты да ведама і разгледжаны.

Тым часам народная драма пра грознага цара Максімільяна, пастаўленая універсітэцкім гуртом «Неруш», спазнілася з пачаткам на паўгадзіны... Акцёры папрасілі прабачэння адным словам: абставіны.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

* * *

Ніякіх сур'ёзных інцыдэнтаў і сутыкненняў пікетчыкаў з супрацоўнікамі міліцыі не адбылося. Аднак, як паведамілі нам у прэс-службе Міністэрства ўнутраных спраў, «за розныя парушэнні» ў час шэсця і пікетавання затрымана 5 чалавек.

**Ул. інф.**

# ХТО ВЫЛЕЧЫЦЬ ААН АД ХРАНІЧНАЙ ХВАРОБЫ?

**Арганізацыя Аб'яднаных Нацый, незаменнасць якой аднадушна падкрэслівалі ў ходзе юбілейнай, 50-й сесіі Генеральнай Асамблеі кіраўнікі дзяржаў і ўрадаў усіх краін, перажывае вельмі востры ў сваёй гісторыі фінансавы крызіс. Настолькі востры, што яе высокапастаўленыя прадстаўнікі пачынаюць пагаворваць аб банкруцтве гэтай буйнейшай міжнароднай арганізацыі.**

ААН усур'ёз разглядае магчымасць скарачэння на 10 працэнтаў больш чым 10-тысячнага персаналу свайго міжнароднага сакратарыята. Амаль палова чыноўнікаў цэнтральнага апарату ААН працуе ў штаб-кватэры арганізацыі ў Нью-Йорку, астатняя частка занята ў рэгіянальных офісах у сямі іншых сталіцах свету. У цэлым жа ва ўсіх краінах свету на ААН і яе спецыялізаваныя ўстановы працуюць 53.589 супрацоўнікаў.

Генеральны сакратар ААН Бутрас Бутрас-Галі паведаміў апошнія даныя, згодна з якімі запазычанасць дзяржаў-членаў па ўзносах стала хранічнай хваробай арганізацыі і перавышае цяпер 3,3 млрд. долараў.

Сярод намечаных мераў эканоміі — адмова ад прадаўжэння кантрактаў з многімі з міжнародных супрацоўнікаў, фінансавае стымуляванне датэрміновага выхаду на пенсію працуючых чыноўнікаў. Ужо сёлета чакаецца скарачэнне 600 пасад супрацоўнікаў агульных сакратарскіх і дапаможных службаў ААН. Яшчэ на 550 пасад прадугледжана скарачэнне ў катэгорыі прафесіянальных супрацоўнікаў.

У апошні час практычна замарожаны прыём на працу. У пошуках выхаду ААН намячае істотна скараціць расходы на публікацыі і службы грамадскай інфармацыі, камандзіроўкі супрацоўнікаў і г. д. Разглядаецца магчымасць перадачы некаторых відаў дзейнасці, напрыклад, ажыццяўленне перакладаў, прыватным арганізацыям. Аднак і гэтых мераў, відаць, будзе недастаткова, каб залатаць бюджэтныя дзіркі арганізацыі.

Хранічна не плацяць свае ўзносы ў ААН ці недаплачваюць да вызначанага ім памеру большасць дзяржаў — членаў арганізацыі. У тых жа выпадках, калі запазычанасць дзяржавы-члена раўняецца ці перавышае велічыню сумы, якую належыць заплаціць ёй за два поўныя папярэднія гады, Генеральная Асамблея, згодна з артыкулам 19 Статута ААН, разглядае пытанне аб пазбаўленні яе права голасу пры прыняцці рашэнняў.

Але самыя цяжкія часы для ААН настаюць тады, калі ўзносы не плацяць асноўныя донары. Так, узнос ЗША складае 25 працэнтаў ад бюджэту ААН. У фінансаванні аперацый па падтрыманню міру (АПМ) іх доля і таго больш — 31 працэнт, хоць у апошнія гады Злучаныя Штаты актыўна аспрэчваюць такое размеркаванне ўзносаў і настойваюць на зніжэнні сваёй долі і ў фінансаванні АПМ да 25 працэнтаў ад агульных расходаў. Кангрэс ЗША ўжо нават прыняў такое рашэнне, хоць апошняе слова застаецца за Генеральнай Асамблеяй.

Тым не менш, запазычанасць толькі ЗША перад ААН дасягнула да гэтага часу 1,5 млрд. долараў, і гэта сур'ёзна ўскладняе работу арганізацыі. Яшчэ больш узмацняе націск на ААН дыскусія аб магчымасці выхаду ЗША з саставу арганізацыі, якая час ад часу ўзнаўляецца сярод амерыканскіх дыпламатаў і палітыкаў.

Сёння ціск на ААН з боку ЗША, відаць, становіцца часткай перадвыбарнай прэзідэнцкай кампаніі, у якой кандыдаты не ўпускаюць магчымасці прадэманстраваць клопаты аб эканоміі сродкаў амерыканскіх падаткаплацельшчыкаў. У той жа час краіна з найбольшым памерам узносу ў бюджэт ААН не хоча дапусціць поўнай свабоды манеўру арганізацыі ў якой бы там ні было сферы яе дзейнасці. Лідэр рэспубліканскай большасці ў сенаце ЗША і адзін з прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду ад сваёй партыі сенатар Боб Доўл нават ахарактарызаваў нясмелыя спробы кіраўніцтва ААН знайсці дадатковыя крыніцы фінансавання дзейнасці арганізацыі, у прыватнасці, за кошт увядзення некаторых відаў міжнароднага падаткаабкладання, напрыклад, на пастаўкі ўзбраенняў, як спробу выйсці з-пад кантролю дзяржаў-членаў. Неадкладна на разгляд амерыканскіх заканадаўцаў былі вынесены два законапраекты, якія прадугледжваюць поўнае спыненне фінансавання з боку ЗША дзейнасці ААН, калі такія спробы пачнуць набываць прыметы матэрыялізацыі.

Як паведаміла нядаўна «Нью-Йорк таймс», краінамі Еўрапейскага саюза і Японіяй прапануецца пераглядзець методыку налічэння ўзносаў дзяржаў — членаў ААН з тым, каб яна ў большай ступені адлюстроўвала новыя эканамічныя рэаліі ў свеце і не ставіла арганізацыю ў такую залежнасць ад узносаў асноўных падаткаплацельшчыкаў, і перш за ўсё ЗША.

Для нашай рэспублікі цяперашняя практыка размеркавання ўзносаў у бюджэт ААН таксама не з'яўляецца ідэальнай. Як адзначаюць дыпламаты, намаганні беларускіх дэлегацый, якія ўдзельнічаюць у сесіях Генеральнай Асамблеі ААН, у апошнія гады накіраваны на тое, каб шкала ўзносаў, што налічваюцца дзяржавам-членам, у большай ступені адлюстроўвала іх рэальную плацежаздольнасць.

Трэба прызнаць, што ААН не пакідае незаўважанымі нашы праблемы. У 1995 г. рашэннем Генеральнай Асамблеі Беларусь пераведзена ў групу краін, для якіх прадугледжаны меншы, чым налічваўся рэспубліцы раней, узнос на фінансаванне аперацый па падтрыманню міру. Год таму было прынята рашэнне аб зніжэнні памеру ўзносу Беларусі ў рэгулярны бюджэт арганізацыі. А ўсё гэта ў цэлым — эканомія сродкаў беларускіх падаткаплацельшчыкаў у памеры 33 млн. долараў.

Напэрадзе, аднак, няпростая задача — дабіцца поўнага захавання прынцыпу плацежаздольнасці дзяржаў пры вызначэнні налічваемых ім узносаў, у тым ліку забяспечыць прывяздзенне памеру ўзносу Беларусі ў бюджэт ААН у адпаведнасць з рэальнай плацежаздольнасцю нашай краіны. Гэта і для самой ААН аблегчыла б вырашэнне яе фінансавых праблем.

Улічваючы цяперашні стан сусветнай эканомікі, не можа лічыцца нармальнай сітуацыя, калі многія дзяржавы, эканоміка якіх зрабіла ў апошнія гады рашучы скачок наперад, уносяць відавочна заніжаныя ўзносы ў бюджэт арганізацыі. У той час для шэрага іншых краін, якія перажываюць складаныя працэсы эканамічных пераўтварэнняў, захаванне ранейшай стаўкі ўзносаў, што ўстанаўлівалася ў іншых умовах, калі яны мелі іншыя эканамічныя магчымасці, — стала проста не пад сілу.

**Анатоль БЕРАЗОЎСКІ,**
**уласны карэспандэнт «Звязды».**
**г. Нью-Йорк.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### ЕЛЬЦЫНА Ў ЧАЧНІ «ЧАКАЮЦЬ»...

«З такімі, як Шаміль Басаеў, за стол перамоў садзіцца нельга» — заявіў міністр унутраных спраў Расіі генерал Кулікоў падчас свайго каментарыя на інтэрв'ю Басаева па тэлеканале НТВ у аўторак вечарам. Нагадаем, што ў сваім інтэрв'ю Басаеў паабяцаў «дастойна сустрэць» Барыса Ельцына ў час маючага адбыцца візіту прэзідэнта ў Чачню. «Расія лішні раз пераканалася, з якім тэрарызмам мы маем справу ў Чачні, — падкрэсліў Кулікоў. — Яго выступленне — прамая пагроза вышэйшай службовай асобе Расіі». Міністр зазначыў, што прэзідэнт мае права прымаць любыя рашэнні, але ён лічыць, што ў Чачні зараз няма гарантый бяспекі для прэзідэнта, як няма і палітычных умоў для візіту прэзідэнта ў Чачню.

### ПРАЦІЎНІКІ ВЫРАШЫЛІ АБ'ЯДНАЦЬ АРМІІ

Лідэры мусульмана-харвацкай фэдэрацыі і Босніі згадзіліся аб'яднаць свае міністэрствы абароны і ўзброеныя сілы. Факт дасягнення гэтай дамовы быў афіцыйна абвешчаны ў Вашынгтоне дзяржаўным сакратаром ЗША Уорэнам Крыстаферам пасля заканчэння перамоў паміж прадстаўнікамі мусульман і харватаў. Інтэграцыя павінна распачацца на ўзроўні найвышэйшага каманднага саставу. Бакі пагадзіліся, што працэс інтэграцыі будзе завершаны праз тры гады, а адзінае Міністэрства абароны будзе сфарміравана ў Сараеве да канца мая. Дзяржсакратар ЗША ахарактарызаваў пагадненне як вельмі важнае дасягненне, але зазначыў, што пакуль яно існуе толькі на паперы. Нагадаем, што многія іншыя пагадненні не выконваліся.

### ЗАКОН БРЫТАНІІ СУПРАЦЬ ІРЛАНДЦАЎ?

Палітычнае крыло Ірландскай рэспубліканскай арміі параіла ўсім зняволеным, якіх абвінавачваюць у тэрарыстычных актах і прыналежнасці да ІРА, падаць апеляцыю аб пераглядзе спраў. Гэта заява была зроблена, калі высветлілася, што некалькі спраў былі перагледжаны брытанскімі ўладамі з прычыны таго, што дэтэктары па выяўленню бомбавых матэрыялаў, якія выкарыстоўваліся пры следстве, былі сапсаваны. ІРА заявіла, што гэты факт яшчэ раз паказвае, як судовая сістэма Брытаніі выкарыстоўвалася супраць ірландцаў.

### ЗНЯВОЛЕНЫХ ТРЫМАЮЦЬ У КАМЕРАХ З ПАЦУКАМІ

19 членаў адной з нігерыйскіх груповак, якія знаходзяцца ў турме па абвінавачанню ў забойстве чатырох высокапастаўленых асоб, звярнуліся да міжнароднага супольніцтва з просьбай дапамагчы іх вызваленню. Брытанская газета «Таймс» надрукавала адкрыты ліст зняволеных, у якім паведамляецца, што яны ўтрымліваюцца ў камеры з пацукамі, ім дазволена мыцца толькі два разы на месяц вадой са студні, якую людзям забаронена выкарыстоўваць. Летась па аналагічнаму абвінавачанню былі асуджаны і пакараны смерцю 9 актывістаў той жа арганізацыі на чале з іх лідэрам, пісьменнікам Кэнам Сарабібам.

### РАСІЯ РАЗВУЧЫЛАСЯ ЗАПУСКАЦЬ КАСМІЧНЫЯ КАРАБЛІ?

Расійская ракета-носьбіт «Саюз-V» са спутнікам серыі «Космас»6 якая ў аўторак падчас узлёту пацярпела аварыю на 124-й секундзе палёту па невядомых пакуль прычынах адхілілася ад зададзенага курсу. Адхіленне носьбіта ад курсу пацягнула за сабой аўтаматычнае адключэнне рухавікоў ракеты, каб папярэдзіць яе выхад з зададзенага калідора і падзенне. Зараз дзяржаўная камісія, у састаў якой уваходзяць ваенныя і цывільныя асобы, праводзіць расследаванне аварыі.

### ДОКАЗЫ ВІНАВАТАСЦІ МУТАЛІБАВА ПРАДСТАЎЛЕНЫ. ЧАГО ЧАКАЕ РАСІЯ?

Адказ расійскага боку выдаць Азербайджану экс-прэзідэнта краіны Муталібава не паўплывае на азербайджана-расійскія адносіны. Пра гэта паведаміў першы сакратар Пасольства Азербайджана ў Расіі Фархад Агмаліеў, пазначыўшы, што выказвае ўласны пункт гледжання, які, аднак, поўнасцю адпавядае афіцыйнай. Па яго словах, Муталібаў з'яўляецца вельмі дробнай фігурай, каб паўплываць на двухбаковыя сувязі Азербайджана і Расіі. Пры гэтым дыпламат зазначыў, што Азербайджан прадставіў Расіі вычарпальныя доказы вінаватасці Муталібава і крыху здзіўлены рэакцыяй Масквы.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Любая падзея вартая таго, каб знайсці адлюстраванне ў сувенірнай прадукцыі. У Брытаніі паступілі ў продаж памятныя фаянсавыя кубкі, прысвечаныя разводу наследніка брытанскага прастола прынца Уэльскага. Адлюстраванні прынца Чарльза і прынцэсы Дзіяны размешчаны на кубку так, што яны глядзяць у розныя бакі.

**Асашыэйтэд Прэс.**

Страшэнны скандал учынілі янкі, калі ў сярэдзіне сакавіка галоўны ветінспектар Расіі Авілаў забараніў пастаўкі курынага мяса з ЗША. У 1995-м амерыканцы прадалі Расіі кумпячкоў на 500 мільёнаў долараў, а ў гэтым годзе хацелі атрымаць яшчэ болей. Але, як выявілі пільныя ветэрынары, «ножкі Буша» часта прылятаюць у краіну, нашпігаваныя пестыцыдамі, антыбіётыкамі і сальманеламі.

**«ЭКСПРЭСгазета».**

Кожную раніцу вялікі шэры сабака з'яўляецца на цэнтральным рынку г. Львова. Спакойна праходзіць паміж шэрагамі гандляроў і, выбраўшы поглядам гандляра ў мясным радзе, садзіцца насупраць. Хутка прадавец заўважае, што яго пазбягаюць пакупнікі — кліенты проста абыходзяць тое месца, дзе размясціўся сабака. І тады ўладальнік мяса вырашае кінуць сабаку смачны кавалак. Сабака падхоплівае здабычу, спакойна адпраўляе яе ў пашчу, а затым адыходзіць. Каб шантажыраваць чарговага прадаўца.

**ЕАН.**

## БЕЛАРУСЫ І НЕМЦЫ РАЗАМ МАЦУЮЦЬ МІР

Зараз у нашай краіне праходзіць «Тыдзень міру-96». Яго ініцыятары — Беларускі камітэт міру і арганізацыя «Менерарбайт» Евангелістычнай царквы з Германіі. Падобныя сустрэчы праводзяцца прыкладна раз у два-тры гады па чарзе ў адной з краін.

У праграме тыдня шмат цікавых і разнастайных мерапрыемстваў: семінар на тэму еўрапейскай бяспекі, вывучэнне наступстваў Чарнобыля, знаёмства са славутасцямі Беларусі. Нямецкія госці таксама наведаюць Капыльскі раён, два дні будуць жыць у беларускіх сем'ях.

**Леанід ТУГАРЫН.**

## ПРАДАЕЦЦА ПАДАЗРОНЫ САМАЛЁТ

У сродках масавай інфармацыі Літвы ўжо даўно гучыць крытыка ў адрас Літоўскіх авіяліній за падазроную куплю для ўрадавых патрэб самалёта «Естар-731». Ён аказаўся недастаткова надзейным, неэканамічным і малазручным. Ходзяць чуткі, што гэта здзелка ажыццёўлена не без «зацікаўленага ўдзелу» некаторых вышэйшых службовых асоб. І вось прынята саламонава рашэнне... Аб'яўлены конкурс на яго продаж. Кіраўніцтва ЛАЛ спадзяецца збыць самалёт за 3 мільёны долараў ЗША.

**БЕЛТА.**

*БЕЛАРУСЫ Ў «ГАРАЧЫХ КРОПКАХ»*

# «Я НЕНАВІДЖУ ВАЙНУ»

***З Сашкам Карповічам я вучыўся разам у сувораўскім вучылішчы. Больш васьмі гадоў прайшло з таго часу. Нядаўна мы выпадкова сустрэліся ў Мінску. Старшы лейтэнант федэральных войскаў Аляксандр Карповіч прыехаў дамоў у водпуск. Як высветлілася, яшчэ зусім нядаўна афіцэр сядзеў у акопах Чачні. Не задаць нашаму земляку хоць некалькі пытанняў аб такой камандзіроўцы я проста не мог.***

**— Саня, як доўга ты прабыў у Чачні?**

— Каля паўгода. Калі часць перакідвалі ў раён баявых дзеянняў, замену абяцалі прыслаць праз пару месяцаў, але, як гэта часта бывае, у разлікі закралася памылка, і ваяваць давялося крыху даўжэй.

**— Якія першыя ўражанні ад убачанага на вайне?**

— Ведаеш, калі мы адпраўляліся ў Грозны, здавалася, што гатовы былі да ўсяго: афіцэры, якія пабывалі там раней за нас, паспелі многае расказаць. Аднак на справе ўбачанае зрабіла куды больш моцнае ўражанне. Вайну немагчыма пераказаць. Яе можна толькі адчуць. У першыя дні не мог спакойна прайсці міма разбураных, спаленых дамоў, глядзець на людзей, якія капалі траншэі ў той час, як агароды зарасталі пустазеллем. Спрабаваў даць тлумачэнне ўсяму, што адбывалася.

З першымі баямі эмоцыі зніклі. Трэба было рабіць сваю справу.

**— У чым яна заключалася?**

— Я карэкціраваў агонь артылерыі. Сядзіш так дзе-небудзь на вышыні і назіраеш за агнявымі кропкамі праціўніка. Ён б'е па тваіх пазіцыях з усяго, што ёсць пад рукой, а ты засякаеш бранятэхніку, мінамёты, іншыя аб'екты і перадаеш нашым артылерыстам іх каардынаты па радыёстанцыі. Ідзе агнявы вал у адказ. Так і абмеьваюцца абодва бакі «падарункамі».

Цяпер лёгка расказваць аб гэтым. Але калі снарады рвуць зямлю на шматкі — не да жартаў. Хочацца закапацца куды-небудзь як мага глыбей і не высоўвацца. Але схавацца нельга, бо агнявыя ж кропкі дудаеўцаў трэба падаўляць. Памылішся ў разліках — дрэнна нашым жа хлопцам. Вось і сядзіш, як цецярук на паляне. Не падстрэлілі — і дзякуй Богу!

Джыгіты таксама не дурні. Бачаць, што артылерыя вядзе стральніну з закрытых агнявых пазіцый, ды яшчэ іх аб'екты дакладна накрывае — значыць карэкціроўшчык працуе. Усе пануючыя вышыні абавязкова абстраляюць.

**— І як, вылічвалі?**

— Калі б вылічылі, то я з табой не гаварыў бы. Маскіравацца прыходзілася. Аднойчы, праўда, шалёнай мінай накрыла мяне з радыстам. Мне пашанцавала — крыху кантузіла, а вось салдата — забіла. Пераварочваю яго на спіну, а ён глядзіць у неба невідушчымі вачамі.

Не ведаю, можа ў кашулі я нарадзіўся? Або мацярынскі амулет выратаваў. За некалькі месяцаў да ад'езду ў Чачню яна мне яго з Гродна прывезла. Сказала, што замоўлены.

А быў і такі выпадак. Яшчэ ў Грозным. Узялі мы з афіцэрамі па сто грамаў франтавых. Дарэчы, спірту там у кожным падвале было ўдосталь. З вадой і то больш складаныя справы былі. Выпілі, такім чынам, па першай. Разлілі па другой. Я на назіральны пункт збіраўся. Мужыкі спыняюць: не спяшайся, маўляў, пойдзеш, калі абстрэл пачнецца. Угаварылі ўвогуле. Праз нейкі час загрукатала вакол. Пабеглі да назіральнага пункта — ён у мяне на апошнім паверсе аднаго з дамоў размясціўся. Гляджу, а ад дома таго адны руіны засталіся. Я не веруючы, але тады перахрысціўся. Доўга мы потым з таварышамі другую чарку ўспаміналі. Выходзіць, што выратавала яна мне жыццё.

**— Саня, а нашага брата беларуса, украінцаў, рускіх сярод дудаеўцаў бачыць даводзілася?**

— Ты пра наёмнікаў? Гэтых хлопцаў хапае. І ваююць, трэба заўважыць, даволі прафесіянальна. Пару чалавек, не падобных на чачэнцаў, сярод забітых баевікоў бачыў і я. Але ж ты разбярыся паспрабуй, ці гэта рускія, ці ўкраінцы або беларусы?

**— Назіраючы вакол сябе смерць, напэўна, перастаеш цаніць уласнае жыццё?**

— Нічога падобнага. На вайне асабліва востра разумееш, што жыццё для чалавека — самы каштоўны дар. І горка станавілася на душы, калі ўглядаўся ў твары загінуўшых бязвусых хлопчыкаў і ўсведамляў, што не абдымуць яны ўжо сваіх маці, братоў, сясцёр, каханых. Нічога не зробяць у гэтым жыцці. Я ненавіджу вайну.

**— Ці марыў ты пра што-небудзь у Чачні?**

— Бывала такое: хочаш аказацца дома, выпіць малака з кавалкам свежаспечанага хлеба, залезці на печ і ўсю ноч слухаць стракатанне цвыркуна.

**Гутарыў Аляксандр МАКАРАЎ.**

## ФРАНЦУЗСКАЯ КАМПАНІЯ АТРЫМЛІВАЕ ЗАКАЗ НА БУДАЎНІЦТВА ЭЛЕКТРАСТАНЦЫІ Ў ОРШЫ

Паводле звестак з эканамічнага аддзела Пасольства Францыі ў Беларусі, французская кампанія «Gec Alsthom» стала пераможцай тэндэра, арганізаванага беларускім Міністэрствам паліва і энергетыкі на будаўніцтва «пад ключ» цеплавой электрастанцыі ў Оршы. Французская кампанія атрымала заказ коштам у 30 мільёнаў ЭКЮ. Будаўніцтва электрастанцыі фінансуецца Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця. Кампанія «Gec Alsthom» паставіць усё асноўнае турбіннае абсталяванне, электраабсталяванне — філіял гэтай кампаніі, фірма «Cegelec». Станцыя будзе працаваць на прыродным газе, які плануецца пастаўляць з Расіі. Будаўніцтва аб'екта мяркуецца завяршыць на працягу 20 месяцаў.

**Антон АНДРОСАЎ, БелаПАН.**

# ДЗЕ КЕПСКА ЛЯЖЫЦЬ ТАМ І КРАДУЦЬ

## Нататкі з калегіі Пракуратуры РБ

ПРЫЗНАЦЦА, ніколі раней не даводзілася чуць такіх абуральных звестак пра марнатраўства і раскраданне народнага дабра, як у час нядаўняй калегіі Пракуратуры рэспублікі, дзе вялася гаворка пра захаванне законнасці ў аграпрамысловым комплексе. Факты, пра якія там гаварылася, як кажуць, ні ў якія вароты не лезуць. Крадуць радавыя працаўнікі, крадуць і спецыялісты, кіраўнікі гаспадарак. Што датычыцца марнатраўства і безгаспадарчасці, то яны — на кожным кроку. А ўсё таму, мабыць, што няма сапраўднага гаспадара, бо, як казала гераіня аднаго з кінафільмаў, усё вакол — калгаснае, усё вакол — маё. Вось і распараджаюцца як сваім.

У канцы мінулага года спецыялісты калгаса імя Дзяржынскага Зэльвенскага раёна разам з заатэхнікам С. Касіла здалі на мясакамбінат 10 калгасных кароў. Пры гэтым афармілі, што яны быццам бы паступілі ад прыватных асоб. Частку атрыманых за жывёлу грошай у суме 2,5 мільёна рублёў перадалі члену прыёмнай камісіі Ваўкавыскага мясакамбіната Я. Сароку за тое, што прыняў жывёлу па вышэйшай катэгорыі ўкормленасці, а 250 тысяч рублёў скарысталі на спіртное. Па гэтаму факту ўзбуджана крымінальная справа, а Я. Сарока знаходзіцца пад вартай.

Цяжкае эканамічнае становішча, у якім апынуўся аграрны сектар краіны, у многім выклікана парушэннем гаспадарчых сувязей, ігнараваннем дагаворных абавязацельстваў. Распаўсюджанымі сталі факты нядобрасумленнага партнёрства пры заключэнні кантрактаў куплі-продажу сельскагаспадарчай прадукцыі. Пры гэтым многія грахі ў гаспадарчай дзейнасці спісваюцца на недахопы рынку, маўляў, не гатовы яшчэ працаваць у новых умовах. На справе ж — звычайныя адгаворкі, якімі іншыя гаспадарнікі імкнуцца прыкрыць сваю халатнасць, абыякавасць у адносінах да народнага дабра.

Напрыклад, 10 лютага мінулага года Бабруйскай птушкафабрыкай было адпушчана яек на 14,9 мільёна рублёў без папярэдняй аплаты па даверанасці маскоўскай фірмы «Ніка» грамадзяніну С. Касторнаву, які нават не распісаўся на дакуменце. Словам, ні яек, ні грошай. Далей — болей. Без даверанасці і перадаплаты 7 красавіка адпусцілі на 300 мільёнаў яек для камерцыйнай фірмы «Мік» у горадзе Мінску. Такім жа чынам адпускалася прадукцыя і іншым фірмам і прыватным асобам. У выніку дзяржаве нанесены страты ў суме паўтара мільярда рублёў.

Сёння многія гаспадарнікі крычма крычаць: нестае ўласных абаротных сродкаў, патрэбны крэдыты! У той жа час, як паказала пракурорская праверка, шэраг гаспадарак не змаглі эфектыўна выкарыстаць атрыманыя рэсурсы. Ігнаруючы патрабаванні заканадаўства, многія кіраўнікі калгасаў і саўгасаў дапускаюць нямэтавае выкарыстанне сродкаў. І, як вынік, дзяржава нясе немалыя страты.

Згодна з распараджэннем Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, гаспадаркам Мінскага раёна было выдзелена на закуп маладняку буйной рагатай жывёлы 1,1 мільярда рублёў. Пры гэтым 538 мільёнаў рублёў былі прызначаны для калгаса «Вішнёўка». З гэтай сумы на закуп маладняку жывёлы ад насельніцтва скарыстана толькі 163,8 мільёна рублёў. Больш як 374 мільёны было выкарыстана на набыццё жывёлы ў іншых калгасах і саўгасах. З мэтай атрымання крэдыту калгасам ва ўпраўленне сельскай гаспадаркі і харчавання прадстаўляліся скажоныя звесткі аб закупцы жывёлы ад насельніцтва. У прыватнасці, указвалася, што ўся жывёла закуплена на прыватных падвор'ях. Было прадстаўлена ва ўпраўленне, а затым і ў банк 38 дакументаў аб тым, што быццам у насельніцтва набыта 1571 жывёліна, а на самай справе іх куплена толькі 361. Дарэчы, пад дакументамі стаяць подпісы старшыні і галоўнага бухгалтара.

Пачуўшы прыклады падобнага «гаспадарання», нехта з прысутных на калегіі спытаўся, а чаму не прыцягнуты да адказнасці кіраўнік гаспадаркі? На што прагучала рэпліка: «Дык ён жа — народны дэпутат»...

Праверкі органаў пракуратуры ў аграрна-прамысловым комплексе рэспублікі, хоць і выбарачныя, паказалі, што нарушэнні фінансавай дысцыпліны, злоўжыванні, злачыннае разбазарванне дзяржаўных сродкаў дасягнулі велізарных маштабаў. Страты вымяраюцца дзесяткамі мільярдаў рублёў. Па матэрыялах пракурорскіх праверак прыцягнута да дысцыплінарнай адказнасці 65 кіраўнікоў рознага рангу, да матэрыяльнай — 265, да адміністрацыйнай — 12. Па патрабаваннях пракурораў з вінаватых спагнана 147,3 мільёна рублёў, а па ісках прокурораў — 18 мільярдаў 644 мільёны рублёў. Па матэрыялах праверак узбуджана 28 крымінальных спраў.

Слоў няма, пракуроры прыкладаюць нямала намаганняў, каб паставіць заслон на шляху безгаспадарчасці, марнатраўства, раскрадання народнага дабра. Але дзе вытокі гэтага зла? Адным пракурорам з гэтым не справіцца. Дарэчы, гэтую думку пацвердзіў і выступіўшы на калегіі старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па аграрных пытаннях і сацыяльнаму развіццю вёскі Генадзь Усюкевіч. Як ён зазначыў, у нас ёсць дзяржава, атрыбутыка, дзяржаўныя межы, заканадаўчая, выканаўчая і судовая ўлады. Адсутнічае, па яго словах, адно: улада дзяржаўная. Катастрафічна падае вытворчасць, многае раскрадаецца. Як адзначыў прамоўца, калі ў 1990 годзе Беларусь адправіла за межы рэспублікі 350 тысяч тон мяса, то летась — толькі каля 30 тысяч тон. Калі і далей справа пойдзе такімі тэмпамі, то хутка самім давядзецца купляць тое мяса. Толькі за што? Мы ж не Расія з яе залатымі прыіскамі і алмазнымі капальнямі ды нафтай. Патрабуецца карэнная рэформа ў сельскай гаспадарцы, каб яна нарэшце набыла сапраўднага гаспадара — шчырага, працавітага, ашчаднага. Тады і зладзеяў паменее. Хто ў самога сябе будзе красці?

А на пытанне, якая роля выканаўчай улады на месцах у барацьбе з марнатраўствам і раскраданнем народнага дабра, Генадзь Усюкевіч мусіў зазначыць, што яшчэ вельмі недастатковая. Ды і як іншаму старшыні райвыканкома патрабаваць з няўдалага кіраўніка гаспадаркі, калі той дапамагаў яму будаваць уласны катэдж? Колькі падобных катэджаў вакол вялікіх і малых гарадоў рэспублікі! Чые яны? На якія сродкі ўзведзены?

Аналіз матэрыялаў і дакладных пракурораў вобласці паказаў, што ў ажыццяўленні пракурорскага нагляду за захаваннем заканадаўства ў сферы эканомікі аграпрамысловага комплексу ёсць сур'ёзныя недахопы. І адна з прычын — недастаткова ўстойлівыя кантакты з кантрольна-рэвізійнымі службамі, фінансавымі органамі і банкаўскімі ўстановамі, адсутнасць належнай інфармацыі аб стане законнасці ў аграпрамысловым комплексе. У большасці раёнах знізілася актыўнасць пракурораў па кампенсацыі матэрыяльных страт і своечасоваму ўхіленню прычын і ўмоў, якія нараджаюць безгаспадарчасць і крадзяжы. Змог жа пракурор Глыбоцкага раёна прад'явіць марнатраўцам іскаў на агульную суму каля 18 мільярдаў рублёў. Чым не прыклад для астатніх?

Як зазначыў Генеральны пракурор Васіль Капітан, гэта добра, што калегія пракуратуры разгледзела пытанне стану законнасці ў аграпрамысловым комплексе рэспублікі. Цяпер важна прыняць належныя меры да ўзмацнення пракурорскага нагляду за захаваннем заканадаўства. Прынята рашэнне інфармаваць па гэтаму пытанню Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Вярхоўны Савет і Кабінет Міністраў.

**Уладзімір ГОЙТАН.**

### КРЫМІНАЛ

## ТЭРАРЫЗМ У «ЗОНЕ»

Хваля непадпарадкавання ў месцах не вельмі аддаленых, якая не так даўно пракацілася па Расіі, дайшла, відаць, да нас. На Магілёўшчыне, у папраўча-працоўнай калоніі УЖ 15/15, двое асуджаных узялі ў заложнікі (неверагодна!) начальніка атрада і, пагражаючы «пікай», запатрабавалі аўтамабіль, каб выехаць з «зоны». Цікава, што напярэдадні гэтага надзвычайнага здарэння менавіта тут праводзіўся семінар, на якім ахоўнікі вучыліся, як паводзіць сябе ў экстрэмальных умовах, у тым ліку і ў выпадку, які неўзабаве падкінула сярмяжная рэчаіснасць.

Цяжка ў вучэнні — лёгка ў баі. Зэкі-тэрарысты абясшкоджаны, заложнік-афіцэр вызвалены. Абышлося без стрэлаў і вялікай крыві.

Што падштурхнула асуджаных на крайні ўчынак, сказаць цяжка, бо да вызвалення ім заставалася ўсяго нічога.

## САПРАЎДНЫ САДЫЗМ

Фантазія ў садыстаў не мае межаў. У адну кватэру, што па праспекце Міру ў Магілёве, наведаліся знаёмыя. Госці прафінансавалі гаспадара і адправілі ў магазін па гарэлку. Тым часам з яго сужыцелькай зрабілі такое, што здзекам назваць мякка. 35-гадовую жанчыну звязалі, пагалілі пад Катоўскага, а ў дадатак аблілі твар воцатам ці падобнай на яго неўстаноўленай вадкасцю.

Рэўнасць? Помста за «ўзнагароду» пікантным захворваннем? Следства разбіраецца, але выпадак дзікунскі, з якім міліцыя Цэнтральнага РАУС сустрэлася ўпершыню.

## ЮНЫ МАНЬЯК

Магілёўскі штотыднёвік «Днепровская неделя» паведаміў аб няшчасным выпадку, які можна было б прыняць за самагубства вучня 5 класа праз павешанне. Але хлопчык, аказваецца, павесіў сябе па... неасцярожнасці. Гэты юны маньяк майстраваў розныя петлі і мучыў катоў. Дзеянне адной пятлі вырашыў праверыць на сабе. Вынік жудасны, як той у горкай прымаўцы: не капай яму іншаму...

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

### МАРАЛЬ І ЗАКОН

# ІЛЬГОТЫ НА «ХАЛЯВУ»

З НЯДАЎНЯГА ЧАСУ слова «льготнік» стала асацыіравацца ў нашым грамадстве з нечым негатыўным, быццам бы прысмакталіся да дзяржавы нейкія крывасмокі і смокчуць з бюджэту кроў, цягнуць апошнія сокі. Аднак гаворка пойдзе не пра прыпыненыя Указам Прэзідэнта № 349 ільготы розным катэгорыям грамадзян. Жыццё даўно паказала, што той, хто сумленна выконваў свой абавязак перад Радзімай, ніколі не выстаўляе напаказ заслуг перад ёй, часам моўчкі зносіць незаслужана нанесеныя чыноўнікамі і бюракратычнай «браціяй» крыўды, не патрабуе для сябе ад дзяржавы таго, чаго ён не заслужыў і што яму не належыць па закону.

Гаворка пойдзе пра тую катэгорыю грамадзян, якія, не маючы ніякіх заслуг перад суайчыннікамі, бо не мёрзлі ў акопах на франтах Вялікай Айчыннай вайны, не глыталі пыл дарог Афганістана, не падарвалі ні на грам сваё здароўе ў радыеактыўнай зоне Чарнобыльскай АЭС, тым не менш, карысталіся тымі ці іншымі льготамі, наносячы эканамічную шкоду краіне і шкоду маральную справе адносінаў грамадзян да людзей, якія сапраўды мелі права на льготы. Гаворка пойдзе пра асобных членаў нашага грамадства, самавольна прысвоіўшых сабе імёны людзей, якія сумленна выконвалі свой абавязак перад Радзімай і дадзеныя ім за гэта дзяржавай тыя ці іншыя льготы. Самазванцы выкарыстоўвалі для гэтага дакументы, якія былі згублены іх уладальнікамі ці засталіся ў сям'і пасля іх смерці.

Амаль штодня ў той ці іншай газеце можна сустрэць аб'яву: «Згубленае пасведчанне ўдзельніка ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС № ..., выдадзенае на імя..., лічыць несапраўдным». Усё, што губляецца, рана ці позна нехта знаходзіць. Частка грамадзян, якія знайшлі чужыя дакументы, а такіх большасць, вяртаюць іх уладальнікам, разумеючы, што гэта не толькі дакумент, але і частка жыцця таго, каму яны выдадзены. Але знаходзяцца і такія, хто не супраць пагрэць рукі на чужых заслугах і незаслужана выкарыстаць правы льготнікаў.

Станіслаў Ладзіс, 1950 года нараджэння, працаваў трубаўкладчыкам у трэсце № 7 горада Мінска, удзельнікам Вялікай Айчыннай, зразумела, не быў, інтэрнацыянальны абавязак не выконваў, у работах па ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС не ўдзельнічаў. Ільгот ад дзяржавы, такім чынам, не было ніякіх. Але, гледзячы на тое, як імі карыстаюцца іншыя, вельмі хацелася іх мець. Думка пра якія-небудзь «корачкі», якія можна было б прад'яўляць кантралёрам у грамадскім транспарце і бясплатна катацца па ўсім горадзе, а то і раёне не пакідала Ладзіса да таго часу, пакуль вясной 1995 года ён не знайшоў у сябе дома, у серванце, пасведчанне ўдзельніка ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС № 977461, выдадзенае, праўда, не на яго імя, а на імя А. П. Дындзіка. Ладзіс не доўга ламаў галаву над тым, якім чынам трапіў сюды дакумент. Як выявілася, яго жонка знайшла пасведчанне на вуліцы. Замест таго, каб паспрабаваць знайсці ўладальніка дакумента і аддаць яму згубленае, С. Ладзіс вырашыў сам стаць «чарнобыльцам» і бясплатна ездзіць у грамадскім транспарце. З гэтай мэтай ён падрабіў яго. Вырваў фотаздымак уладальніка і на яго месца наклеіў свой, а ад вырванага фотаздымка адрэзаў кавалачак з адбіткам пячаткі і наклеіў яго на свой фотаздымак у пасведчанні. Каб падробка не кідалася ў вочы, пасведчанне абгарнуў у цэлафан і стаў карыстацца ім пры праездзе ў грамадскім транспарце, горда прад'яўляючы яго кантралёрам. Невядома, ці доўга ліпавы «чарнобылец» карыстаўся б незаслужанай ільготай, калі б 25 жніўня 1995 года ён не быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі «пад моцнай мухай». У памяшканні міліцыі пры асабістым даглядзе Ладзіса падробленае пасведчанне было знойдзена і адабрана. Сляды падробкі дакумента былі бачны няўзброеным вокам, так што спецыяльных ведаў у галіне крыміналістыкі для выкрыцця Ладзіса не спатрэбілася. Вось так: грошай на талон для праезду ў грамадскім транспарце няма, а на гарэлку — ёсць. Лагічным завяршэннем «ліпавых» ільгот стаў прыгавор народнага суда Ленінскага раёна горада Мінска — 1 год і 6 месяцаў папраўчых работ з утрыманнем 20 працэнтаў заробку ў даход дзяржавы.

Аналагічным спосабам дзейнічаў і свежаспечаны «ліквідатар» Сяргей Каркуць, 1960 года нараджэння, электрамеханік АП «Мінскліфт-2». У кастрычніку 1994 года каля дома № 18 па вуліцы Адзінцова ў горадзе Мінску ён знайшоў пасведчанне ўдзельніка ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС № 998681, выдадзенае на імя А. В. Настальскага. І яму прыйшло ў галаву стаць «чарнобыльцам», каб бясплатна ездзіць за кошт дзяржавы ў грамадскім транспарце. Гэтак жа, як і Ладзіс, Каркуць вырваў з пасведчання фотаздымак уладальніка і на яго месца наклеіў свой. Чарнобыльская «халява» для Каркуця працягвалася да лютага 1995 года. 23 лютага Каркуць зашмат «прыняў на грудзі». У выніку быў дастаўлены ў міліцыю. Тут Каркуць вырашыў да канца падвесці пад манастыр сапраўднага ўладальніка пасведчання, і на прапанову супрацоўнікаў міліцыі назваць сваё прозвішча назваўся... Настальскім Антонам Вадзімавічам. Толькі дзякуючы пільнасці супрацоўнікаў міліцыі, выявіўшых падробку пасведчання, Настальскаму ўдалося пазбегнуць дадатковых непрыемнасцей, якія прыгатаваў яму Каркуць. Што датычыцца самога «ліпавага» ліквідатара, то Каркуцю давялося зведаць «камфорт» лавы падсудных у зале народнага суда.

Нідзе не працуючы, раней асуджаны Пётр Заваротны, 1958 года нараджэння, вырашыў стаць «інвалідам». 50 тысяч рублёў і бутэлька гарэлкі сябрам-сабутэльнікам — і пасведчанне інваліда серыі 07 № 087161 апынулася ў яго руках. Замест фотаздымка былога ўладальніка наклеены яго фотаздымак, а фрагмент адбітка пячаткі быў імітаваны.

Вынік, як і ў двух вышэйапісаных выпадках: выпіўка з сябрамі, потым знаёмства з міліцыяй, адабранне падробленага пасведчання, следства, суд і штраф у памеры 200.000 рублёў.

Аляксандр Пугачоў у свае 32 гады ўжо чатыры разы меў «гонар» паўстаць перад судом за ўчыненыя ім злачынствы, у тым ліку і за падробку дакументаў. Аднак ні гады, праведзеныя ў няволі, ні папраўчыя работы на карысць дзяржавы на яго пэўным чынам не падзейнічалі: на шлях выпраўлення ён не стаў, а ў маі 1995 года зноў учыніў злачынства — падрабіў дакументы. Згубленыя ўладальнікамі пасведчанні ўдзельнікаў ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС ён не знаходзіў, а таму вырашыў пакарыстацца адпаведнымі дакументамі свайго бацькі, які памёр у студзені 1995 года. Ён наклеіў у пасведчанне інваліда і пенсіённае пасведчанне свой фотаздымак, а год нараджэння 1933 выправіў на 1963. Наваспечаны «інвалід» і «пенсіянер» карыстаўся самім сабой прысвоенымі льготамі да 16 жніўня 1995 года, калі за распіванне спіртных напояў быў дастаўлены ў міліцыю. Там вельмі здзівіліся, калі на зроблены запыт з адраснага бюро ім адказалі, што асоба, пазначаная ў дакументах, павінна ўжо паўгода знаходзіцца на гарадскіх могілках. Давялося Пугачову ў пяты раз пускаць слязу раскаяння ў зале суда. Прыгавор — 2 гады папраўчых работ з утрыманнем 20 працэнтаў заробку ў даход дзяржавы.

Зусім нядаўна ў рэспубліцы прайшла перарэгістрацыя пасведчанняў удзельнікаў ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Тым, хто і не нюхаў радыеактыўнага пылу, у перарэгістрацыі адмовілі, незаконна атрыманыя пасведчанні ў іх адабраны. Але давайце, на фоне ўсяго вышэйсказанага, не будзем строгімі да тых, хто сапраўды заслужыў права называцца словам «ліквідатар», хто ратаваў нас ад распаўсюджання радыеактыўнай чумы.

Як ні цяжка сёння для эканомікі, дзяржава ўсё ж выдаткоўвае сродкі для забеспячэння льгот тых жа ліквідатараў, інвалідаў. Вось толькі знаходзяцца прыліпалы, якія пад гэтай маркай гатовы ўрваць сёетое для сябе. Вядома, у адносінах да такіх спрытнюг дзейнічае закон, які даволі сурова карае самазванцаў. Але ж побач з правам існуе і такая катэгорыя, як мараль. Няўжо не смыліць сэрца ад таго, што ў кішэні ляжыць ліпавы дакумент? Дапусцім, наваспечаныя «інваліды» і «ліквідатары» прапілі апошнія мазгі, гонар і сумленне, іх ужо ніякая мараль не дойме. Але ж побач родныя, блізкія, знаёмыя людзі, якія ведаюць пра спрытнюг. Але маўчаць. Хіба і іх не точыць чарвячок сумлення? Ільготы ж —крадзеныя.

**Мікалай КРАСНЕЎСКІ,**
**грамадскі карэспандэнт аддзела права і маралі, удзельнік ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС у 1986 годзе.**




## ПРАВЕРКА СВЕЧАК ЗАПАЛЬВАННЯ І РЭГУЛЯВАННЕ ЗАЗОРАЎ ПАМІЖ ЭЛЕКТРОДАМІ

Каб ачысціць і адрэгуляваць зазоры паміж электродамі, свечкі неабходна выкруціць з галоўкі блока цыліндраў рухавіка. Аглядаючы свечку, у першую чаргу звярніце ўвагу на нагар. Нагар — добры праваднік, таму ён з'яўляецца прычынай уцечкі току ў свечкі. Ток уцечкі ў новай свечкі вельмі малы і практычна не ўплывае на работу сістэмы запальвання. У ходзе эксплуатацыі таўшчыня слоя нагару павялічваецца, супраціўленне яго змяншаецца, а ток уцечкі ўзрастае, пры гэтым зніжаецца напруга паміж электродамі свечкі запальвання, і настае такі момант, калі свечка перастае працаваць.

Узнікненне нагару на ізалятары свечкі — нармальная і немінучая з'ява.

Аднак убачыўшы нагар, не спяшайцеся яго здымаць. Спачатку звярніце ўвагу на яго таўшчыню і колер. Калі свечка пакрыта тонкім слоем нагару ад сера-жоўтага да светла-карычневага колеру, то яго можна не здымаць, таму што ён практычна не ўплывае на работу сістэмы запальвання. Калі таўшчыня слоя нагару вялікая, ці ён цёмнага колеру, то такую свечку трэба пачысціць. Перад ачысткай свечку лепш апусціць на 20—30 хвілін у бензін ці ў спецыяльную вадкасць для ачысткі свечак. Зняць нагар можна металічным пэндзлем, але лепш зрабіць такое нескладанае прыстасаванне, як паказана на малюнку.




Прыстасаванне для ачысткі свечак запальвання.
1 — утулка з разьбой пад свечку;
2 — трубка;
3 — заглушка.

Запоўніўшы трубку 2 сухім рачным пяском ці спецыяльным шліфавальным парашком і рэзка яе патрэсваючы, можна ачысціць свечку за 15—20 хвілін. Зразумела, што пасля ачысткі свечку трэба памыць і высушыць. Трэба памятаць, што пры чыстцы на яе ізалятары з'яўляюцца дробныя драпіны, якія паскараюць з'яўленне нагару. Таму ачышчанымі свечкамі лепей карыстацца толькі летам, а з надыходам халадоў трэба паставіць новыя.

Ачысціўшы свечкі ад нагару, праверце і адрэгулюйце зазор паміж цэнтральным і бакавым электродамі.

Велічыня зазору паміж электродамі павінна быць у межах памераў, якія змешчаны ў інструкцыі па карыстанню аўтамабілем. Пры карыстанні гэты зазор пастаянна павялічваецца з-за зносу кантактаў. Павелічэнне зазору, па-першае, вядзе да росту прабіўной напругі, што можа выклікаць парушэнне ўзнікнення іскры. Па-другое, пры вялікім зазоры расход паліва павялічваецца на 0,5 літра на 100 км.

Правяраць зазоры паміж электродамі свечак трэба круглым шчупам.




Праверка зазораў паміж электродамі свечкі:
а — правільна,
б — няправільна.

Плоскі шчуп не рэагуе на неаднолькавасць зносу электродаў, і памылка ў памеры зазору можа быць вялікая. Павялічыць ці паменшыць зазор паміж электродамі можна, толькі калі падагнуць бакавы электрод.

Адрэгуляваўшы зазор, пастаўце свечку на месца, спачатку ўкруціўшы яе рукой, а затым зацягнуўшы тарцавым ключом, але не вельмі моцна.

Калі ваш аўтамабіль новы, то перад тым як паставіць свечкі, трэба на разьбовую частку свечкі нанесці слой графічнага парашка. Такую свечку лягчэй выкручваць для праверкі ці замены.

Калі вы выявілі не ў гаражы, а ў дарозе, што адна са свечак не працуе, а новай пад рукой няма, то можна паспрабаваць аднавіць працаздольнасць свечкі. Здыміце высакавольтны свечкавы провад і паднясіце яго да свечкі з невялікім (2-3 мм) зазорам. Дастатковы іскравы прамежак, які з'явіўся пры гэтым, зніжае напружанне, што трапляе на электроды свечкі. Ток уцечкі практычна не ўзнікае, а іскра паміж электродамі можа спаліць частку нагару на ізалятары. Пры аднаўленні кантакту высакавольтнага проваду са свечкай, апошняя, як правіла, пачынае працаваць. Але памятайце, што доўгая работа свечкі з дадатковым іскравым прамежкам недапушчальная, таму што можа выйсці са строю катушка запальвання.

І яшчэ памятайце. Як бы добра свечкі ні працавалі, праз кожныя 30.000 км прабегу іх трэба мяняць на новыя.

Не старайцеся эканоміць на свечках запальвання. Гэта тое самае, што эканоміць на запалках. Адслужыўшыя свечкі павялічваюць расход паліва на 15—20 працэнтаў, таму лепш старыя памяняць на новыя.

## БЕГУНОК ЯШЧЭ ПАБЕГАЕ

Калі бегунок і электроды ў накрыўцы размеркавальніка запальвання аўтамабіля знасіліся, а запасных няма, не спяшайцеся іх выкідваць. Бегунок можна лёгка адрамантаваць, прытым так, што з ім і старая накрыўка размеркавальніка будзе працаваць доўга.

Для гэтага дастаткова прапілаваць пластмасу пад пялёсткам (кантактнай пласцінай) бегунка на глыбіню да заклёпкі, як паказана на малюнку, зачысціць ніжнюю і тарцовую паверхні пялёстка і залудзіць іх. Таксама ачысціць і залудзіць адну з паверхняў падаўжальніка 5, выразанага з ліставой латуні па форме пялёстка, увесці гэты падаўжальнік у зроблены прапіл і добра прыпаяць. Застаецца толькі дробным напільнікам давесці памеры прыпаянага кавалка па шырыні і даўжыні да велічыні нязношанага бегунка. Пры гэтым трэба звярнуць увагу, каб даўжыня пласціны не перавышала 27,5 мм.

Паколькі канец пласціны цяпер будзе ніжэй на 2-2,5 мм, ён будзе ўзаемадзейнічаць з цэлай, нявыпрацаванай часткай электродаў накрыўкі размеркавальніка і яна будзе працаваць як новая.




1 — корпус;
2 — токаразносная пласціна;
3 — заклёпка;
4 — электрод у накрыўцы;
5 — падаўжальнік пласціны.

## ЯК ЗАСЦЕРАГЧЫ РАЗМЕРКАВАЛЬНІК

Пры паездках на вільготных пасля дажджу дарогах размеркавальнік запальвання ў «Масквічоў» нярэдка перастае нармальна працаваць, таму што на яго трапляе вада.

Звычайна яго абкручваюць плёнкай, але можна выкарыстаць звычайны пластмасавы флакон ад бытавых прэпаратаў, надзяваючы яго на размеркавальнік уверх дном, як паказана на малюнку. Для гэтага трэба зрэзаць гарлавіну на флаконе і выразаць чатыры дзіркі для ўвода прываду правадоў, якія ідуць да свечак.




1 — размеркавальнік;
2 — флакон.

## РАМОНТ ПРЫВАДНОГА РЭМЕНЯ Ў ДАРОЗЕ

Калі прывадны рэмень генератара абарваўся ў дарозе, пастарайцеся злучыць абарваныя канцы рэменя. Калі не атрымаецца, то ў якасці заменніка можна выкарыстаць выразанае са старой аўтамабільнай камеры кольца шырынёй 25—30 мм. Як паказвае вопыт, на такім «рэмені», калі яго выразаць акуратна, можна праехаць да 100 км.

Таксама можна выкарыстаць рэмень большай даўжыні, перавязаўшы яго мяккім дротам (мал. а).

У крайнім выпадку можа паслужыць звычайная вяроўка (мал. б). Яе трэба скласці ў тры разы па даўжыні прываднога рэменя, пакідаючы канцы ў 10—20 см. Затым сплесці і, прапусціўшы канцы ў петлі, надзець вяроўку на шківы. Пасля чаго завязаць канцы звычайным двайным вузлом.




а — замена рэмнем большай даўжыні
б — вяроўкай

36,6°

# ЯШЧЭ НЕ ПОЗНА...

## 19 спосабаў павышэння палавой патэнцыі, якія рэкамендуе народная медыцына

1. Вельмі карысныя паравыя лазні. Вазьміце за правіла наведваць іх два разы на тыдзень. На працягу кожнага сеанса праводзьце ў парылцы па 5—10 хвілін, паўтараючы працэдуру ад трох да пяці разоў.

2. Добры эфект даюць кантрастныя сядзячыя ваннaчкі. Наліце ў два вялікія тазы гарачую і халаднаватую ваду. Папераменна садзіцеся ў кожны з іх на хвіліну дзесяць разоў. Рабіце гэта перад сном праз дзень на працягу двух тыдняў.

3. Прыгатуйце настойку з каранёў араліі: 1 частку каранёў заліце 5 часткамі 70-працэнтнага спірту, закрыйце сасуд коркам і настойвайце ў цёмным месцы 10 дзён, перыядычна памешваючы. Працадзіце праз марлю і піце па 15 кропель з вадой два разы на дзень перад ядой на працягу двух тыдняў.

4. Здрабніце ядры грэцкага арэха, заліце роўнай па аб'ёму колькасцю мёду і прымайце па дзве чайныя лыжкі 2-3 разы на дзень праз 30 хвілін пасля яды, запіваючы малаком. Курс лячэння — 20—30 дзён.

5. Змяшайце ў роўных прапорцыях зеляніну пятрушкі з зелянінай кінзы (у свежым ці сушаным і папярэдне здробненым выглядзе). Ужывайце з ежай па сталовай лыжцы пастаянна.

6. Прыгатуйце чай з хмелю: заліце сталовую лыжку сухіх суквеццяў (шышак) шклянкай кіпеню і, закрыўшы накрыўкай, гатуйце на слабым агні пяць хвілін. Астудзіце, працадзіце і піце па паўшклянкі два разы на дзень перад ядой. Курс разлічаны на 10 дзён.

7. Піце гатовыя аптэчныя настойкі ляўзеі, элеўтэракоку, жэньшэню — па 20—30 кропель (разбавіўшы вадой) тры разы на дзень да яды — 10—15 дзён.

8. Аер балотны — агульнаўмацавальны сродак пры фізічным знясіленні, асабліва пры наяўнасці неўрастэнічных праяўленняў. Павышае палавую цягу і ўмацоўвае сексуальную актыўнасць. 15 г (1 ст. лыжка) высушанага карэння настойваюць ў 200 мл кіпеню, п'юць тры разы на дзень па 50 мл — за 30 хвілін да яды. Выкарыстоўваюць таксама спіртавую настойку (на гарэлцы) у суадносінах 1:5, прымаючы па палове чайнай лыжкі 3 разы ў дзень да яды. Курс разлічаны на 10—15 дзён.

9. Звычайная рэпчатая цыбуля павышае палавую цягу, узмацняе дзейнасць палавых залоз.

Ужываюць яе як у свежым, так і ў выглядзе настойкі. 2-3 здробненыя цыбуліны заліваюць 400 г цёплай вады, п'юць па 100 г тры разы на дзень на працягу 2-3 месяцаў. Зрабіўшы перапынак на 30 дзён, лячэнне можна паўтарыць.

Проціпаказана прымяненне пры захворваннях страўнікава-кішачнага тракта. Не рэкамендуецца працяглае прымяненне пры сардэчна-сасудзістых захворваннях.

10. Добры і чараўнік двухлісцевы (ён жа — чараўнік зялёнаколерны, ятрышнік дрэмлік, ятрышнік трохзубчаты, ятрышнік мужчынскі). Звесткі аб прымяненні гэтай расліны ўтрымліваюцца ў рэцэптах тыбецкай медыцыны. 2 г парашку высушаных і здробненых клубнецыбулін апарваюць 200 мл кіпеню, устрэсваюць 10—15 хвілін і прымаюць па 1 чайнай лыжцы 2-3 разы на дзень на працягу месяца. Сродак неабходна захоўваць у халадзільніку.

11. Пастарнак пасяўны ў народнай медыцыне выкарыстоўваецца як агульнаўмацавальны і ўзмацняючы палавую функцыю сродак. Разатрыце 4 ст. лыжкі здробненых караняплодаў і 6 ст. лыжак цукру, заліце 400 г кіпеню, варыце атрыманую сумесь 15 хвілін, затым пастаўце настойвацца на 8 гадзін. Піце па 1 ст. лыжцы 4 разы на дзень за 30 хвілін да яды на працягу месяца.

12. Для ўзмацнення палавой функцыі прымяняецца барвенак малы. Сабраная і высушаная пры 50 градусах С трава захоўвае ў сухім месцы лекавыя ўласцівасці да двух гадоў.

Настой травы з кветкамі (20 г сухой расліны вараць 10—15 хвілін на малым агні ў 250 мл гарэлкі), прымаюць па 10 кропель раніцай і ўвечары на працягу 4 дзён, пасля двухтыднёвага перапынку лячэнне паўтараюць зноў на працягу 4 дзён.

Увага! Расліна ядавітая! Перадазіроўка яе недапушчальная! Прымяненне проціпаказана пры гіпатаніі.

13. Жоўтая вадзяная лілея ў медыцыне прымяняецца пры аслабленні палавых функцый. 4 сталовыя лыжкі здробненага карнявішча заліваюць літрам кіпеню і вараць 4-5 хвілін. П'юць па 1 ст. лыжцы 2 разы на дзень. Курс — 15—20 дзён.

Пры павелічэнні дозы магчымы адмоўныя пабочныя дзеянні, у сувязі з чым перадазіроўка недапушчальная.

14. Заманіха высокая — расліна, якая павышае рэфлекторную ўзбуджальнасць і рухальную актыўнасць. Прымяняецца пры фізічным і нервовым перанапружанні, для павышэння працаздольнасці і палавой актыўнасці. Пабочных уздзеянняў не аказвае.

Высушаную траву настойваюць на гарэлцы ў суадносінах 1:5 і п'юць па 30—40 кропель 2-3 разы на дзень да яды на працягу месяца.

16. У народнай медыцыне выкарыстоўваюць крыху падсмажанае канапляное семя з соллю як сродак, які ўмацоўвае палавую функцыю. Прымаюць па меры неабходнасці.

17. Зверабой расшырае крывяносныя сасуды, узмацняе кровазварот і кровазабеспячэнне ўнутраных органаў; прымяненне паказана пры застойных з'явах у месцы малога таза.

Траву збіраюць у пачатку цвіцення разам з суквеццямі і высушваюць у невялікіх пучках на сонцы.

10 г высушанай травы заварваюць у 200 мл кіпеню, п'юць па 60 г тры разы на дзень за паўгадзіны да яды. Траву таксама настойваюць на гарэлцы ў суадносінах 1:5 і п'юць па 40 кропель 3-4 разы на дзень на працягу месяца.

18. Пустырнік сардэчны прымяняецца пры празмернай нервовай узбуджальнасці, гіпертрафіі прастаты і звязаных з ёю палавых парушэннях. Настой высушанай травы (15 г на 200 мл кіпеню) прымаюць па 1 ст. лыжцы тры разы на дзень да яды. Спіртавую настойку травы ў суадносінах 1:5 (на 70-працэнтным спірце) — па 35—40 кропель тры разы на дзень на працягу месяца.

19. Радыёла ружовая, або «залаты корань». Ва ўсходняй медыцыне прымяняецца як «лякарства ад усіх хвароб». Прызнана цудоўным сродкам пры перанапружанні і наступствах псіхічнага і фізічнага захворвання, пры функцыянальных захворваннях нервовай сістэмы, пры імпатэнцыі ў выніку аслаблення арганізма; прымяняецца таксама для павышэння супраціўлення арганізма пры ўздзеянні працяглых неспрыяльных фактараў асяроддзя.

Настойваюць карнявішча на гарэлцы ў суадносінах 1:5 на працягу 10—15 дзён, п'юць па 15 кропель тры разы на дзень за 20 хвілін да яды на працягу 20 дзён. Можна павялічваць дзённую дозу, але не больш чым у паўтара раза. Прымаюць таксама водны настой: 10 г карнявішча заліваюць 200 мл кіпеню, настойваюць 4 гадзіны, п'юць па 100 г два-тры разы на дзень на працягу 1-2 месяцаў.

Тым, хто не мае вопыту збору і нарыхтоўкі лекавых раслін, рэкамендуецца выкарыстоўваць гатовыя аптэчныя зборы. У выпадку ўзнікнення хоць бы нязначных непрыемных адчуванняў неабходна адразу спыніць прыём настою або адвараў.

**Уладзімір ЛОГІНАЎ, траўнік.**
«Тайная власть».





ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100288. Індэкс 63850.
Зак. № 2331.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 / 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 / 10 11 12